ЯН ЧАЧОТ

З РУСІНАЎ У ЛІЦВІНЫ

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

№ 8(25) — 2020

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

А НА ВЯЛІКДЗЕНЬ ПЕЎНЕМ ЗАСПЯВАЛА КУРЫЦА...

БЕТХОВЕН: БЕЗ БАРАЦЬБЫ НЯМА ПЕРАМОГІ

ПРАСТЫТУЦЫЯ Ў МІЖВАЕННЫМ БРЭСЦЕ

ТУШАНАЯ КАПУСТА З ГРЫБАМІ

# ГІБЕЛЬ КУПАЛЫ

16+





































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**

«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)

«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)

Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 786

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)

«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)

«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)

«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)

«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**

«Князь Вітаўт»

«Асвета» (пр. Машэрава, 57)

«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)

«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**

«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**

«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**

«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**

«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**

«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**

«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)

«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

Наша Гісторыя
8/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Наеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Янка Купала пасля ўручэння яму найвышэйшай дзяржаўнай узнагароды СССР — ордэна Леніна. Пачатак 1939 года. З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах. Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы». Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 01.09.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0435/20.
Наклад 4236.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014. Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Адной з найбольш папулярных у свеце канцэпцый фарміравання нацый з'яўляецца тэорыя чэшскага даследчыка Міраслава Гроха. Паводле яе, кожная паспяховая нацыянальная ідэя мусіць прайсці ў сваім гістарычным развіцці тры стадыі.

На стадыі А нешматлікія нацыянальныя актывісты займаюцца навукова-краязнаўчым вывучэннем роднай мовы і культуры, праз гэта самі ўсведамляюць свае карані і адметнасць ад навакольных народаў.

На стадыі В нацыянальныя актывісты ўжо не толькі самі вывучаюць свой народ і фармулююць нацыянальную ідэю для саміх сябе, але пераходзяць да мэтанакіраванай прапаганды сваіх ідэй сярод насельніцтва, якое, на іх думку, мусіць ператварыцца ў нацыю.

Урэшце, на стадыі С нацыянальны рух робіцца масавым, яго пастулаты падтрымлівае не толькі вузкая ў межах усяго грамадства група інтэлектуалаў, але і большая частка народа ва ўсёй яго разнастайнасці.

Большасць народаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы прайшлі ўсе гэтыя стадыі на працягу XIX – першай паловы XX стагоддзяў. Тады ж пачаў рух у гэтым кірунку і беларускі народ. Цягам XIX стагоддзя ён перажываў стадыю А, а на мяжы XIX–XX, пасля з'яўлення Беларускай сацыялістычнай грамады і газеты «Наша Ніва», працэс перайшоў у стадыю В. Здавалася б, заставалася не так шмат, каб перайсці на заключную стадыю, пасля якой працэс робіцца незваротным. Але ўсё аказалася не так проста.

У праходжанні стадый нацыянальнага фарміравання беларусы па розных прычынах у параўнанні з іншымі народамі рэгіёна спазніліся. Калі большасць бездзяржаўных народаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы паспелі прайсці дзве першыя вызначаныя Грохам стадыі і перайсці на трэцюю яшчэ да Першай сусветнай вайны, то беларусаў пачатак гэтага лёсавызначальнага глабальнага катаклізму, пасля якога свет ужо ніколі не стаў ранейшым, заспеў толькі ў працэсе, да заканчэння якога было яшчэ далёка.

Не маючы шырокай грамадскай падтрымкі, сто гадоў таму беларусы не здолелі стварыць уласную незалежную дзяржаву. Але сама беларуская ідэя аказалася на дзіва жыццяздольнай. Яе прыхільнікі ўпарта і ахвярна пранеслі яе праз усё няпростае стагоддзе, цягам якога былі і падзелы этнічнай тэрыторыі, і крывавыя войны ды бязлітасныя рэпрэсіі, і палітыкі дэнацыяналізацыі ды ўніфікацыі, якія паслядоўна вялі супраць беларусаў розныя дзяржавы і рэжымы. І ўвесь гэты час беларускія патрыёты імкнуліся не толькі да выжывання, але і да таго, каб нацыянальны рух стаў шырокім і масавым, то-бок перайшоў на стадыю С паводле Гроха.

І гэта відавочна дае свой плён. Апошнім часам многае сведчыць пра тое, што выказаная ў 1911 годзе ўпэўненасць нашага нацыянальнага генія Янкі Купалы, што «не загаснуць зоркі ў небе, покі неба будзе, — не загіне край забраны, покі будуць людзі», не была адно толькі прыгожай паэтычнай фігурай маўлення. Беларусь жыла, жыве і ўжо несумненна, што будзе жыць!. А Купала, які стаў тварам гэтага нумара «Нашай гісторыі», відавочна цешыцца і ганарыцца сваёй Бацькаўшчынай і яе цудоўнымі людзьмі з нябёсаў.


4


16


61


54




22








74



95


82


50




91



ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ЯНКІ КУПАЛЫ

# Гібель Купалы

**Нягледзячы на маштаб асобы, мы дагэтуль не ведаем, як гэта здарылася. 28 чэрвеня 1942 года а 22.30 цела нацыянальнага генія знайшлі на лесвічнай клетцы гасцініцы «Масква» на першым паверсе. Піша Андрэй Скурко.**

Удар аб мармуровую падлогу быў такой сілы, што з ордэна Леніна на грудзях Купалы зляцела эмаль.

З якога паверха падаў Купала — невядома. На лесвічнай пляцоўцы 7-га паверха засталіся пырскі яго крыві. На пляцоўцы ці то 9-га, ці то 7-га паверха ляжала туфля Купалы — моцна зашнураваная. І гэтая туфля — вельмі важнае сведчанне, пра гэта — ніжэй.

Некалькі версій трагедыі, што ўзніклі ў першыя гадзіны пасля гібелі, існуюць да сёння.

## Няшчасны выпадак

Такое тлумачэнне смерці Янкі Купалы было дадзена ў спецпаведамленні начальніка 3-га спецупраўлення НКВД Мікалая Гарлінскага на імя наркама Лаўрэнція Берыі. Версіі гвалтоўнай смерці або самагубства там адразу адкідаюцца.

«Прыкладна а 21-й Луцкевіч [сапраўднае прозвішча Янкі Купалы было Луцэвіч, але ў дакуменце яго паслядоўна называюць Луцкевічам, гэта выклікала справядлівыя падазрэнні, пра іх мы напішам ніжэй] быў запрошаны ў пакой №1034 да старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Лынькова, дзе прысутнічалі таксама пісьменнік Крапіва, рэдактар газеты “Красноармейская правда” Міронаў, супрацоўнік той жа газеты Каржанаў і заг. аддзела рэдакцыі газеты “Известия” Вайцінская. Луцкевіч прыйшоў у нецвярозым выглядзе і з прысутнымі выпіў яшчэ некалькі стопак шампанскага.

Прыкладна а 22-й Вайцінская і Крапіва з нумара сышлі, і хвілін праз 10 пасля іх выйшаў Луцкевіч. Момант і абставіны падзення Луцкевіча ніхто не бачыў».

Таксама падкрэслівалася, што ў нумары Купалы былі выяўленыя пустыя бутэлькі і посуд з пахам віна.

Такая была афіцыйная версія: беларускі паэт напіўся і ўпаў з лесвіцы, перакуліўшыся цераз нізкаватыя мармуровыя парэнчы.

Купала прыехаў у Маскву 18 чэрвеня 1942-га з-пад Казані. У Татарстане паэт апынуўся, калі фашысты акупавалі Беларусь. У Казань былі эвакуіраваныя многія ўрадавыя інстытуты БССР. Дырэктар мукамольнага камбіната ў вёсцы Пячышчы Іван Наякшын даў Купалу службовую кватэру.

У Маскву Купалу выклікаў старшыня Савета народных

### Адзенне Купалы спалілі

1 ліпеня Купалу крэміравалі. Касцюм, бялізну і туфлі, якія былі на ім у момант гібелі, сакратар ЦК КП(б)Б Цімох Гарбуноў даручыў знішчыць свайму намесніку Валошыну. І гэта таксама вельмі падазроны факт.

камісараў БССР Іван Былінскі. Тэлеграма была адрасаваная старшыні Вярхоўнага Савета БССР Надзеі Грэкавай, якая таксама жыла ў Казані. «Выязджайце разам народным паэтам Беларусі Янка Купала Маскву», — стаяла ў тэлеграме.

У Маскве Купала меўся ўзяць удзел у кангрэсе антыфашысцкага Усеславянскага камітэта. Сам ён планаваў заадно наведаць выдавецтвы і падлячыцца.

Яго пасялілі ў гасцініцы «Масква» — гэта быў найлепшы варыянт у ваеннай сталіцы: у гатэлі была бесперабойная электрычнасць і гарачая вада, там добра кармілі.

У «Маскве» жылі і спыняліся і іншыя беларускія пісьменнікі, тут працавалі рэдакцыі антыфашысцкіх выданняў.



**Янка Купала з Якубам Коласам** падчас паездкі па Дняпры на магілу Тараса Шаўчэнкі ў Канеў ва Украіне. Май 1939 года. Так яны выглядалі ў апошнія гады жыцця, пасля пекла 1937-га.

ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ЯНКІ КУПАЛЫ

### Версія Коласа

Пра тое, што Купала мог упасці сам, казаў і Якуб Колас. Але прычыну бачыў іншую. Яго сын Даніла Міцкевіч успамінае, што Купала ў 1941-м «меў слабасць у нагах і часта прыпадаў на нагу». У апошнія гады жыцця паэт хадзіў з кавенькай, гэта відаць на многіх фота.

Магчыма, гэтае прыпаданне і стала прычынай смерці — не выключаў сын Якуба Коласа: «Парэнчы лесвіцы ў гасцініцы “Масква” незвычайна нізкія. У Купалы магла падвярнуцца нага, і ён паляцеў уніз».

Версія п’янага падзення не пацвярджаецца і словамі іншых сведкаў.

«Янка не быў п'яны так, каб мог зваліцца», — пісаў у дзённіку Пятро Глебка, які зайшоў у той вечар да Міхася Лынькова па запалкі, але не трапіў у спецпаведамленне НКВД.

**Парэнчы ў «Маскве» сапраўды былі нізкаватыя, але за 85 гадоў існавання гатэля ніхто, апроч Купалы, праз іх не перакуліўся**

Пра тое самае, спасылаючыся на вынікі ўскрыцця, казаў партыйны дзеяч Мікалай Аўхімовіч, які суправаджаў цела Купалы ў Інстытут Скліфасоўскага і бачыў вынікі ўскрыцця: «Спіртное, — адзначалася ў заключэнні, — было нязначным».

Зусім літаратурную версію здарэння падае Уладзімір Някляеў у сваім новым рамане ▶



ФОТА АНДРЭЯ СКУРКО



**У музеі Янкі Купалы ў Мінску** захоўваюцца дзверы ад яго нумара ў гасцініцы «Масква», фрагменты парэнчын лесвічнага пралёта і падлогі, на якую зваліўся паэт.

«На крыжы». Незадоўга перад здарэннем, згадвалі сведкі, у нумар Лынькова хтосьці званіў. Лынькоў доўга гаварыў па тэлефоне, папрасіўшы гасцей выйсці на балкон, а пасля даваў слухаўку Купалу. Пасля той размовы Купала выйшаў з нумара.

Някляеў выказвае здагадку, што паэту званіла жанчына, і ён, спяшаючыся на спатканне з ёй, вырашыў, як школьнік, каўзануцца на парэнчах, зачапіўся нагой і не ўтрымаў раўнавагі.

Ужо ў нашым стагоддзі, падчас капітальнага рамонту, тыя парэнчы з «Масквы» перадалі ў музей Янкі Купалы ў Мінск. Яны сапраўды нізкаватыя, але колькі гатэль за 85 гадоў існавання не пабачыў і п’яных, і слабых у нагах, і закаханых — ніхто, апроч Купалы, такім чынам не загінуў.



ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ЯНКІ КУПАЛЫ

Янка Купала з расійскім пісьменнікам, **«чырвоным графам» Аляксеем Талстым, які, верагодна, быў агентам НКВД**. 1939 год.

## Луцэвіч і Луцкевіч

Ці мог Купала скінуцца сам? Аднойчы паэт ужо рабіў спробу развітацца з жыццём. «Лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная», — пісаў ён у 1930-м кіраўніку Савецкай Беларусі Аляксандру Чарвякову.

Тады спецслужбы фабрыкавалі ў БССР справу «Саюза вызвалення Беларусі». Гэту «тэрарыстычную арганізацыю» НКВД прыдумаў пры канцы 1920-х для вынішчэння нацыянальнай эліты. У арыштаваных выбівалі паказанні, каб звінаваціць у жаданні скінуць савецкую ўладу, а пасля расстрэльвалі ці саджалі.

На чале СВБ органы меркавалі паставіць Янку Купалу. Яго выклікалі ў НКВД на «гутаркі», яго новы зборнік, аддрукаваны ў 1928-м, так і не пайшоў у продаж, у старонкі з Купалавымі вершамі, як у тэхнічную паперу, загортвалі рыбу ў мінскіх крамах.

Прадчуваючы арышт, паэт у лістападзе 1930-га напісаў ліст



Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная.
Відаць такая доля паэтаў.
Павесіўся Есенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды за імі дарога.

ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ЯНКІ КУПАЛЫ

**«Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная...»** Ліст Купалы Чарвякову перад спробай самагубства ў 1930 годзе.

### Луцэвіч і Луцкевіч

«Луцкевічам» Купалу ўпершыню памылкова запісалі ў 1926 годзе ў спісе прадстаўнікоў інтэлігенцыі, лаяльнай да савецкай улады, але з «дробнабуржуазнай прыродай». Спіс складаўся для ЦК КП(б)Б па звестках ГПУ. Пасля памылка пераходзіла з адной энкавэдысцкай паперы ў іншую.

Чарвякову, а пасля ўдарыў сябе сцізорыкам у жывот. Адбылося гэта дома, жонка нарабіла галасу, а першую дапамогу Купалу аказаў сусед — доктар Стафан Луцкевіч, родны брат заснавальнікаў «Нашай Нівы» Антона ды Івана Луцкевічаў.

Учынак Купалы выклікаў крывую ўсмешачку ў тагачаснага першага сакратара ЦК КПБ Канстанціна Гея: і ножык маленькі, і скіраваны ў месца без жыццёва важных органаў, — але паэта пакінулі ў спакоі.

**Няма сведчанняў, што Купалу нешта гняло. Сведкі ў адзін голас кажуць, што ён быў у Маскве ў выдатным настроі**

Ці не мог Купала сам кінуцца ў пралёт у «Маскве», прадчуваючы новую апалу? Прычыны для яе нібыта былі. Напярэдадні ў Мінску нямецкая адміністрацыя, пераназываючы вуліцы, адной з іх (сённяшняя вуліца Талстога) надала імя Івана Луцкевіча. Згадаем «спецпаведамленне»: Купала ў ім названы «Луцкевічам». Гэта блытаніна мела сістэмны характар, нават сам Купала быў пэўны, што вуліцу назвалі яго імем і ў сакавіку 1942-га ў Казані мусіў на спецыяльна скліканай сесіі беларускай Акадэміі навук прачытаць даклад, адзначыўшы, што не трэба яму ўшанавання ад тых, хто спапяліў Мінск бомбамі.

Янка Купала

WIKIMEDIA COMMONS

**Аўтограф Янкі Купалы.**

Яшчэ адным знакам апалы была незразумелая сітуацыя з юбілеем Купалы. 60-годдзе яго аднагодка Коласа ўвосень 1942-га мелася адзначацца шырока, Купалава ж нібыта прыхоўвалася. Танк пісаў, што Купала збіраўся адзначаць юбілей у Маскве, але «ў коле сваіх сяброў». Ні ўрачыстых сесій, ні ўзнагароджанняў не анансавалася.

Аднак няма сведчанняў, што Купалу гэта гняло. Сведкі ў адзін голас кажуць, што ён быў у Маскве ў выдатным настроі. «Ні хвіліны не думаў ён аб смерці», — піша Глебка.

### Хваробы Купалы

А можа, здароўе было прычынай сыходу з жыцця? «Здароўе маё няважнае, — пісаў Купала Кузьму Чорнаму і Паўлу Кавалёву, журналісту «Савецкай Беларусі». — Перахварэў грыпам і нейкім рэўматызмам — балелі ўсе косці. Цяпер лепш, толькі з правай рукой няладна — баліць і нічога не магу ёй падымаць».

Пра тое, што і ў Казані Купала хварэў, успамінаў Наякшын. Паэт скардзіўся на задышку (у 1938-м перанёс крупознае запаленне лёгкіх), часта па некалькі дзён ляжаў у ложку.

Як сведчаць даведкі з казанскай клінікі нервовых хвароб, у Купалы былі ўскладненні пасля грыпу: праблемы з нервамі плечавога сплячэння правай рукі, а таксама перыартрыт плечавога сустава, якія яму ў крамлёўскай клініцы меліся лячыць кароткахвалевым ультрафіялетавым выпраменьваннем.

Словам, хваробы непрыемныя, але і не смяротныя, такія сустракаюцца ў большасці немаладых людзей. ▶




AIF.RU

**Уваход у гасцініцу «Масква»**, 1930-я гады. Гасцініца толькі што пабудаваная.

### Крамольнае інтэрв'ю

Агулам, успаміналі сучаснікі, Купалаў настрой у 1942-м быў намнога лепшым, чым у пачатку вайны. Тады паэт быў вымушаны спешна пакідаць Беларусь, якую савецкае войска не змагло абараніць ад фашыстаў. У Мінску засталася яго 85-гадовая маці. Яго дом з каласальным архівам згарэў.

Купала дазваляў сабе рэзкасці. У першыя дні вайны ён адмаўляўся верыць у тое, што адступленне савецкіх войскаў — тактычны манеўр, як спрабавалі пераканаць народ ідэолагі, і быў упэўнены, што за пару дзён немцы будуць у Мінску. У інтэрв'ю «Звяздзе» ў 1941-м ён казаў: «Вораг знойдзе магілу ў нашай зямлі». Гэта супярэчыла сталінскай дактрыне аб тым, што ворага савецкае войска будзе біць на яго зямлі. З рэдакцыі газеты Купалу званілі, прасілі выправіць фразу, але ён адмовіўся: «Што сказаў — тое сказаў». Здавалася б, драбніца, але і гэта лічылася крамолай у таталітарныя часы.

Засталіся і ўскосныя сведчанні сапраўднага стаўлення Купалы да Сталіна. У 1960-я, калі паўстала пытанне, што рабіць з творамі Купалы, дзе славіўся «айцец народаў», Пятрусь Броўка сказаў, што ў тых вершах «вялікі Сталін» прычэплены для публікацыі. Таму можна яго павыкрэсліваць, а вершы перавыдаваць: «Усе мы добра ведаем, як ставіўся да культу Янка Купала».

Пакідаючы Беларусь у 1941-м, Купала раз-пораз спыняў свой «Шэўрале», выходзіў і клаўся крыжам на зямлю, нібы прадчуваючы, што ўжо не вернецца.

У канцы чэрвеня 1942-га, пасля бітвы пад Масквой і Ржэвам, зыход вайны ўсё яшчэ быў няпэўны: немцы наступалі на Сталінград, штурмавалі Севастопаль, Ленінград. Але надзея на вызваленне Беларусі з'явілася. Мастак Канстанцін Елісееў, які прагаварыў з Купалам адну з апошніх начэй у гасцініцы «Масква», успамінаў, што Купала быў у добрым настроі, разлічваў скора вярнуцца ў Беларусь. Ён шчыра весяліўся і нават пабудзіў свайго госця пасля кароткага сну маршам Хачатурана.

Таксама насуперак версіі самагубства або раптоўнага выпадковага падзення сведчыць той факт, што на пляцоўцы застаўся ляжаць Купалаў чаравік. Прычым туга зашнураваны. Ён мог, кажуць крыміналісты, зляцець з нагі паэта і застацца ляжаць там, дзе ляжаў, толькі ў выпадку рэзкага ўдару нагой аб парэнчыны. Цела мусіла падляцець уверх і быць перакінутым у праём спінай уперад, каб так адбылося.

### «Ушчыкнуў афіцыянтачку»

Версію ненаўмыснага забойства агучваў тагачасны сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Аўхімовіч, які ў 1942-м жыў на тым самым 4-м паверсе «Масквы», праз некалькі дзвярэй ад Купалавага нумара 414. Ён адным з першых даведаўся пра гібель Купалы ад дзяжурнай па гатэлі і суправаджаў яго цела ў Інстытут імя Скліфасоўскага. Аўхімовіч сцвярджаў, што разам з іншымі пісьменнікамі праводзіў



WIKIMEDIA COMMONS

**Аўтамабіль «Шэўрале», выдзелены савецкім урадам Янку Купалу ў канцы 1930-х.** Цяпер захоўваецца ў купалаўскім музеі ў Ляўках Аршанскага раёна.

## Купала і выпіўка

У 1941-м, эвакуіраваўшыся з Беларусі, Купала жыў у Маскве, у сваякоў Якуба Коласа. Пісьменнікі здзіўлялі родных тым, што ўжо за сняданкам маглі выпіць па пару чарак алкаголю. А пасля Купала прасіў сына Якуба Коласа схадзіць з ім на станцыю «паслухаць радыё» — і абавязкова выпіваў там шклянку. У свой апошні візіт у Маскву Купалавы сустрэчы таксама не абыходзіліся без выпіўкі. «Янка таксама тут і таксама выпівае. Нешта каля сутак ад яго не выходзіў Твардоўскі і Святлоў», — пісаў Глебка.
Якуб Колас дакараў Купалу за схільнасць да алкаголю.




УДОСТОВЕРЕНИЕ.

Выдано настоящее тов. ЛУЦЕВИЧ Ивану Домениковичу / Янка - Купала/ в том,что он действительно командируется Верховным Советом БССР в г.Москву с обратным возвращением в Казань.

Председатель Верховного Совета БССР - /Н.ГРЕКОВА/

**«С обратным возвращением в Казань».** Пасведчанне, выдадзенае Купалу ў Казані перад паездкай у Маскву.

уласнае расследаванне і высветліў, што Купала спаткаў на лесвічнай пляцоўцы «афіцыянтачку з падносам», гулліва яе ўшчыкнуў, а тая адпіхнула няцвёрдага ў нагах паэта ды не разлічыла сілу. «Яна сама заявіла пра гэта следчым, была арыштавана. Некалькі дзён яе дапытвалі, але пераканаўшыся, што ніякіх зламысных намераў у яе дзеяннях не было, адпусцілі», — цытуе Аўхімовіча пісьменнік Віктар Арцем'еў. Якія гуманныя органы: нават на забойства па неасцярожнасці (арт.139 Крымінальнага кодэкса РСФСР, да 3 год турмы) заплюшчылі вочы!

Яшчэ адзін міфалагічны сюжэт, звязаны з афіцыянткай, агучваў пісьменнік Аляксей Пысін, спасылаючыся на «мінскага сябра Янкі Купалы». Нібыта паэта скінула не афіцыянтка, а яе ашалелы ад рэўнасці ўхажор-палкоўнік. А яна пасля ўзяла віну на сябе. Дзіўна, як раз'юшаны палкоўнік здолеў зрабіць усё так ціха: ніхто з жыльцоў гасцініцы не чуў высвятлення адносін на калідоры.

Пра тое, што перад смерцю Купала размаўляў з нейкай жанчынай, пісаў і Глебка. Нібыта дзяжурная па калідоры распавядала, што пры гэтым ён сядзеў на парэнчах спінай да пралёта.

Ёсць версія, што той жанчынай была Ларыса Александроўская, народная артыстка СССР. Малодшы сын Коласа Міхась увогуле казаў Уладзіміру Някляеву, што Александроўская і піхнула выпадкова Купалу. Справу замялі, бо яна была каханкай тагачаснага першага сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнкі.

Яшчэ адна «кандыдатка» на гэтую ролю з вядомых асобаў — Паўліна Мядзёлка. Часам яе называюць «чорным геніем», «фатальным каханнем» Янкі Купалы. Але ці было тое каханне... Як тактоўна сказаў Даніла Міцкевіч, ва ўспамінах Мядзёлкі многа «асабістага і небясспрэчнага».

Цяпер усе даследчыкі сыходзяцца, што яна ад 1930-га была сакрэтнай агенткай НКВД, якая даносіла на беларускую інтэлігенцыю. Ці выконвала яна яшчэ больш далікатныя заданні, невядома.

У вечар Купалавай гібелі Мядзёлкі ў гатэлі не было. Хоць увогуле ў Маскве яна была.

### «Зрабіце што-небудзь!»

Жонка Кузьмы Чорнага ўспамінала непрыгожую сцэну, якая адбылася за некалькі дзён да Купалавай смерці ў гасцініцы «Масква». Стрыманы звычайна Пятрусь Броўка роў дзікім голасам на калег-пісьменнікаў: «Зрабіце што-небудзь!» І абзываў апошнімі словамі літаратурнага крытыка Айзіка Кучара. ▶




**Сесія Беларускай акадэміі навук у Казані.** 1942 год. Купала чацвёрты справа ў валёнках, сядзіць побач з Якубам Коласам.

▶ Ларыса Александроўская намякала, што Кучар быў вінаваты ў смерці Купалы — гэта ён нібыта напісаў данос пра перайменаванне вуліцы ў Мінску, наўмысна паблытаўшы Луцкевіча і Луцэвіча. І пасля яго Купалу вырашылі прыбраць.

Пра тое, што смерць Купалы была спецаперацыяй НКВД, гаварылі старэйшыя, дасведчаныя пісьменнікі: Пятро Глебка, Пімен Панчанка, Максім Танк, Янка Брыль. І прычыны забойства былі шырэйшыя за нейкі адзін факт.

«Купала быў сімвалам незалежнай Беларусі і для тых, хто падтрымліваў савецкую ўладу, і для тых, хто застаўся ў Мінску. Сталін разумеў значэнне сімвалаў», — кажа Някляеў.

У чэрвені 1942-га, да Сталінграда і Курска, зыход вайны яшчэ быў зусім няпэўны. А наперадзе ж быў юбілей Купалы, пра які, безумоўна, будуць пісаць і ў паднямецкім Мінску. Гэта стварала пэўны ідэалагічны дысананс: Купалу, узнагароджанага ордэнам Леніна і Сталінскай прэміяй, ушаноўваюць калабаранты.

## Загадкавыя госці

Глебка ўспамінаў, што ў нумары Купалы, калі яго адчынілі пасля трагедыі, каб узяць адзежу для пахавання, быў накрыты стол на чатырох чалавек. Пра тое, што Купала кагосьці чакаў увечары, сведчыла і жонка Лынькова. Апошнія словы Купалы перад выхадам з нумара былі: «Міхаська, я пайду пагляджу, ці не прыйшлі мае госці. Калі іх няма, то хвілін праз колькі вярнуся».

Загадкавымі вячэрнімі гасцямі, як сведчаць успаміны Глебкі, нядаўна апублікаваныя Ганнай Севярынец, магла быць сям’я мастака Канстанціна Елісеева. Яны сябравалі 20 год, Елісееў абавязкова спыняўся ў Купалы, калі бываў у Мінску. Удзень 28 чэрвеня, піша Глебка, жонка мастака, Магдалена Елісеева, абедала ў Купалы. І пры развітанні ён запрашаў Магду прыйсці ўвечары з 10-гадовым сынам. Яна абяцала. Але з нейкіх прычын увечары яны не сустракаліся.

Магчыма, праз няўзгодненасць сямейных планаў: сам Елісееў 28 чэрвеня быў на дачы, а пра смерць Купалы даведаўся на наступны дзень, калі ехаў з дачы ў цягніку. У руках суседа была газета «Праўда» з партрэтам Купалы ў жалобнай рамцы.

Іншымі словамі, таемныя госці могуць не мець дачынення да трагедыі. Як і адсутнасць у Маскве Уладзіславы Францаўны. Шмат дзе можна прачытаць, што, маўляў, Купалу выклікалі ў Маскву без жонкі спецыяльна. Гучалі нават версіі, што Купалісе наўпрост забаранілі ехаць. Супрацоўнік

### Чорны Кучар

Айзік Кучар памёр у 1996 годзе. Тое, што і ў сталінскія часы, і пасля ён быў звязаны са спецслужбамі, не было сакрэтам. Але пісьменнікі вымушаныя былі яго цярпець каля сябе, бо савецкі рэжым не пакідаў іншага выбару. Глебка ўспамінаў, як пасля смерці Купалы яны з Кучарам памянулі яго «добрай-добрай чаркай» і шчыра паплакалі. Ёсць літаратурная гісторыя, як Кучар ездзіў у камандзіроўку з крытыкам Рыгорам Бярозкіным, якога ў свой час пасадзіў. Бярозкін сагнаў Кучара з ніжняй паліцы купэ, у гатэлі чытаў уначы, не выключаючы святло, а на папрокі Кучара адказаў, што навёрствае час, страчаны ў ГУЛАГу. «Ну, ладна-ладна», — мірна адказваў Кучар.

музея Янкі Купалы Павел Каралёў абвяргае гэта, кажучы, што на Уладзіславу Францаўну таксама быў выпісаны пропуск, але ў Наякшыных якраз трагічна загінуў сын, а таму цётка Уладзя засталася падтрымаць бацькоў у іх горы.

### Не хацеў заставацца адзін

З Купалам, успамінаў Елісееў, яны бачыліся апошні раз 25 чэрвеня: Купала пазваніў яму і запрасіў да сябе. Мастак успамінаў, што ў нумары паэта было поўна гасцей, якія пачалі разыходзіцца толькі пад 12-ю ночы, калі пачуўся сігнал паветранай трывогі. Елісееў затрымаўся і па просьбе Купалы «кантрабандай» застаўся ў яго начаваць. Іншую ноч, паводле ўспамінаў Глебкі, у Купалы начаваў расійскі пісьменнік Макс Зінгер. Каля сутак не выходзілі з яго нумара Аляксандр Твардоўскі і Міхаіл Святлоў. Паэт імкнуўся не заставацца адзін. Яго дзверы не зачыняліся. У Купалы пастаянна былі госці.

а да дзяжурнага падыходзілі маладыя хлопцы і пыталіся, ці прайшоў Купала ў свой нумар.

Пра «трох чалавек», якія адыходзілі ў бок запаснога выхаду, калі Купала ўпаў, казаў і Глебка жонцы пісьменніка Рамана Сабаленкі.

Бачыў трох і маладзейшы пісьменнік Анатоль Астрэйка, які быў пры Купале кімсьці накшталт целаахоўніка. Праўда, у дзень смерці Купалы яго выклікалі па справе засылкі ў тыл ворага і позна затрымалі.

Ёсць адзін вельмі важны факт, які ставіць пад сумнеў версіі самагубства або раптоўнага выпадковага падзення. На пляцоўцы застаўся ляжаць Купалаў чаравік. Прычым туга зашнураваны. Сучасныя крыміналісты адзначаюць: абутак мог зляцець з нагі паэта і застацца ляжаць там, дзе ляжаў, толькі ў выпадку рэзкага ўдару нагой аб парапеты. Цела мусіла падляцець уверх і быць перакінутым у праём спінай уперад, каб так адбылося.

Пры выпадковым падзенні сілы ўдару аб парапет было б замала, нага проста слізнула б па ім, абутак не сарваўся б.

### Прыклад Міхоэлса

Рабіць спецаперацыі НКВД умеў. Гэта і забойства лідара Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў Яўгена Канавальца ў Нідэрландах, і ўкраінскага нацыянал-камуніста Аляксандра Шумскага — у бальніцы.

Архівіст Віталь Скалабан у свой час праводзіў паралель паміж смерцю Купалы і забойствам тэатральнага дзеяча Саламона Міхоэлса ў Мінску ў 1948-м. У СССР на той час разгортвалася антысеміцкая кампанія, і Міхоэлс, старшыня Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, быў цэнтральнай фігурай.

Як і Купалу, Міхоэлса запрасілі ў іншы горад (ён прыехаў з Масквы ў Мінск выбіраць спектаклі на Сталінскую прэмію). І разам з ім паехаў тэатразнаўца, а па сумяшчальніцтве агент ▶

**Паэт імкнуўся не заставацца адзін, у яго пастаянна былі госці**

«За ім увесь час хтосьці сачыў... Калі ён выйшаў з ліфта пасля сустрэчы з сябрамі, яго сустрэлі тры чалавекі, якія і скінулі яго ў пралёт лесвіцы», — цытуе пісьменнік Барыс Сачанка словы пакаёўкі, пераказаныя расійскай пісьменніцай Зінаідай Абрамавай. Для Сачанкі яна ўдакладніла, што Купала спускаўся ў вестыбюль,



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Янка Купала (крайні справа)** з жонкай Уладзіславай Луцэвіч і пісьменнікамі Андрэем Александровічам (стаіць), Анатолем Вольным, Цішкам Гартным, Уладзімірам Дубоўкам, архівістам Міхалам Мялешкам на адпачынку ў Ялце. 24 жніўня 1929 года.

спецслужбаў Уладзімір Голубаў. Як і Купалу, Міхоэлса выклікалі з гасцініцы тэлефонным званком. Перад тым, як Купала выйшаў ад Лынькова на лесвіцу, таксама празвінеў званок, але ён, здаецца, быў выпадковы: большасць сведчанняў сыходзіцца на тым, што ў нумар да Лынькова званіла савецкая дыверсантка літоўскага паходжання Ірэна — яна была знаёмая з беларускімі пісьменнікамі і хацела проста развітацца перад рэйдам у нямецкі тыл.

Міхоэлсу ж званіў супрацоўнік НКВД, які назваўся сябрам Голубава і запрасіў іх абодвух на сваё вяселле. Міхоэлса і Голубава прывезлі ў Сцяпянку, на дачу міністра дзяржаўнай бяспекі БССР Лаўрэнція Цанавы, дзе іх задушылі, пераехалі грузавіком, а пасля целы выкінулі на вуліцы Беларускай у Мінску.

Справу пачалі расследаваць. Па свежых слядах мінскія аператыўнікі знайшлі нават грузавік, якім пераехалі целы, — у гаражы МГБ. Пасля гэтага расследаванне прыпынілі, а новы ход справе далі пасля смерці Іосіфа Сталіна, калі ў спецслужбах пачалася грызня. Былі арыштаваныя кіраўнік беларускай дзяржбяспекі Цанава, былы кіраўнік калегіі МГБ СССР Віктар Абакумаў, непасрэдныя выканаўцы.

Забойства Міхоэлса паказвае, што шукаць рацыянальнасці ў дзеяннях карных органаў не выпадае. Выконваючы загад Сталіна, апанаванага параноідальнымі страхамі, дзясяткі выканаўцаў прадумлялі і рыхтавалі аперацыю, ехалі

ФОТА АНДРЭЙ ДЫНЬКО




**Магіла мамы Янкі Купалы.** Яна памерла ў акупаваным Мінску, не ведаючы, што толькі што ў Маскве не стала яе сыночка.

**Мне сняцца сны аб Беларусі.** Прах Янкі Купалы пакоіцца на Вайсковых могілках у Мінску, дзе «маршалы нацыі спяць».

ФОТА АНДРЭЙ ДЫНЬКО

следам за Міхоэлсам, сачылі за ім некалькі дзён, забяспечвалі прыкрыццё і адыход — нават уласнага агента Голубава не пашкадавалі, — а пасля з гонарам насілі атрыманыя за «спецаперацыю» ўзнагароды.

Чаму ж не знайшлі забойцаў Купалы? Бо пасля смерці Сталіна, пасля XX з'езда, мяркуе Уладзімір Някляеў, не знайшлося зацікаўленых, каб выкрыць гэтую справу. Раскрыццё подлага забойства Міхоэлса патрэбнае было, каб патапіць і пасадзіць Цанаву і Абакумава. А выпадак з Купалам быў даўні, дый вайна многае сцерла: непасрэдныя выканаўцы маглі загінуць.

За што спецслужбы забілі Міхоэлса? За тое, што ён быў яўрэем і меў некаторыя сувязі з Захадам, а Сталін быў параноікам і на той момант меў патрэбу ў антысеміцкай кампаніі.

Купала ж быў сімвалам, які яднаў беларускую нацыю. Яго аднолькава шанавалі і тыя, хто застаўся ў акупаванай немцамі Беларусі, і тыя, хто эвакуіраваўся ды змагаўся з немцамі ў шэрагах Чырвонай арміі і ў партызанах. Купалу беларускі народ любіў больш за Сталіна. За адно гэта Купала быў у небяспецы.



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ ДАКУМЕНТАЦЫІ

**Так мог бы выглядаць музей Янкі Купалы ў Мінску.** Нерэалізаваны эскізны праект, выстаўлены на конкурс архітэктарам Іванам Валадзько. 1947 год.

**Купалу беларускі народ любіў больш за Сталіна. За адно гэта Купала быў у небяспецы**

У выпадку Міхоэлса спецслужбы да апошняга дня не мелі цвёрдага плана. Яны шукалі момант і імправізавалі.

Яшчэ важнае ў выпадку Міхоэлса: спецслужбы не пашкадавалі ўласнага агента, каб зацерці сляды забойства.

Тое самае магло быць і з Купалам: момант настаў, калі Купала прыехаў у сталіцу без жонкі і выйшаў адзін позна ўвечары на пляцоўку дзясятага паверха.

А агенты, якія былі сведкамі ці суарганізатарамі забойства, маглі таксама быць знішчаныя або загінуць падчас вайны.

Вядома, версіі выпадковай гібелі ці самагубства не адкінутыя. Але іх, як бачым, працей абвергнуць. Дый ці былі б у такім выпадку так глыбока схаваныя матэрыялы расследавання гібелі паэта? Вядома, што аж тры ведамствы вялі яго, але для даследчыкаў яны недаступныя і цяпер.

Застаецца чакаць поўнага адкрыцця маскоўскіх архіваў. Магчыма, тады гэтая беларуская загадка стагоддзя перастане такой быць. ◆

## Кнігі, якія скора выйдуць

**Уладзімір Някляеў** нядаўна завяршыў раман «На крыжы», прысвечаны Янку Купалу. У ім пісьменнік выкладае ўсе версіі гібелі паэта — аж да самых неймаверных.

**Павел Каралёў** піша кнігу з працоўнай назвай «Працэс», у якой апісваецца ўяўнае расследаванне гібелі Купалы. Унікальнасць у тым, што ўсе рэплікі герояў — гэта рэальныя словы рэальных людзей. Аўтар імкнецца сабраць усе вядомыя дакументальныя сведчанні пра гібель Купалы.

## Што можна пачытаць пра смерць Купалы

- Барыс Сачанка «Сняцца сны аб Беларусі…»
- Георгій Колас «Карані міфаў»
- Даніла Міцкевіч «Любіць і помніць»
- «Вакол Пятра Глебкі» (укладальніца Ганна Севярынец)
- Паўліна Мядзёлка «Сцежкамі жыцця»
- Віктар Патапенка «Разгадка смерці Янкі Купалы?» («Наша Ніва»)



- Уладзімір Някляеў «Шлях» (часопіс «Дзеяслоў»)



# Галодныя, марылі пра фронт

Ніяк не магу ўспомніць, якім чынам я з гарматнага разліку трапіў у падначаленне начфіна 171-й гаўбічнай артылерыйскай брыгады ордэна Багдана Хмяльніцкага, старшага лейтэнанта Старадубскага. Здарылася гэта восенню 1944 года ў Гарахавецкіх лагерах, куды наша воінскае злучэнне было перакінута з Падмаскоўя.

Гарахавецкія лагеры — ліхая мясціна, прысыпаная пешчугой, на якой раскінутыя купінкі вострай травы і каржакаватыя хваінкі адна ад адной на адлегласці 50 метраў.

Жылі мы ў зямлянках, у якіх зверху, са столі, тонкім цюркачом сыпаўся пясок, як у пясочным гадзінніку. На двары стаяла халодная восень, якую выціскала зіма. У летняй форме абмундзіравання ад халадэчы не было ратунку. Дроў для ацяплення таксама не было. А пра харчаванне няма чаго ўспамінаць. Усё разам гэта ўзнімала ў салдат жаданне як мага хутчэй трапіць на фронт. Страшна ўявіць: на фронт! Але франтавікоў забяспечвалі цёплай зімовай вопраткай, і кухня ў разы пераўзыходзіла тылавую.

Хутка надышоў той дзень, калі брыгада пакінула Гарахавецкія лагеры і ў складзе 1-га Украінскага фронту апынулася ў Польшчы, на Сандамірскім плацдарме.

Адсюль пачалося яе баявое наступленне, забягаючы наперад, дадам: непаспяховае. З жорсткімі баямі воінскія злучэнні прайшлі Паўднёвую Польшчу, фарсіравалі рэкі Віслу і Сан, бралі ўдзел у вызваленні другой польскай сталіцы — горада Кракава і важнага прамысловага раёна краіны — Верхняй Сілезіі.

Мне са Старадубскім у Польшчы было камфортна. Падчас зацішша на фронце нам для адпачынку ахвотна прадстаўлялі жыллё, не абыходзілася без пачастункаў, чаму садзейнічала валоданне мною польскай мовай. Большасць палякаў да савецкага салдата ставілася насцярожана. Для гэтага былі падставы. Варта ўспомніць гісторыю!

Часцяком у Польшчы пан ці пані, заглядаючы ў твар Старадубскага, пыталіся ў яго: *«Pan oficer chyba Żyd będzie?»* («Пан афіцэр, відаць, яўрэй?»). Старадубскі на самай справе быў тыповым яўрэем з чорнай шапкай курчавых валасоў на галаве, гарбатым носам, закручаным падбародкам, выпучанымі вачыма пад вялікімі рагавымі акулярамі. За падобныя пытанні на палякаў ён не крыўдаваў, бо ведаў, што ў польскай мове, як і ў беларускай, слова «жыд» не мае абразлівага адцення.



**Васіль Семенякоў** у 1945 годзе.

З АРХІВА АЎТАРА.

А наогул, начфін быў культурным, адукаваным афіцэрам, з дыпломам Маскоўскага юрыдычнага інстытута. Да вайны працаваў адвакатам. Ён вельмі цікавіўся ў мяне пра Заходнюю Беларусь, пра яе так званае вызваленне. Я яму расказваў, з якім гарачым уздымам беларусы сустракалі вызваліцеляў і як ужо праз пару тыдняў ад іх адварочваліся, таму што многія з іх рабавалі, ілгалі, падманвалі... А яшчэ больш страшна стала ў вызваленай Заходняй Беларусі, калі пачалася прымусовая калектывізацыя, якая суправаджалася раскулачваннем, арыштамі, канфіскацыяй у сялян збожжа, свойскай жывёлы. Набітымі таварнякамі вывозілі ў Сібір заможных беларусаў — праціўнікаў калгасаў.

У час такой размовы Старадубскі прыкладваў палец да вуснаў і прасіў: «Васіль, вельмі прашу: гаварыце цішэй, бо ў нас пра такія падзеі гаварыць нельга».

Пасля паспяховых аперацый у Польшчы вайсковыя злучэнні 1-га Украінскага фронту ўварваліся ў Германію. Ураджанне ад краіны было жахлівае. На значнай яе тэрыторыі ў населеных пунктах не засталося ніводнай жывой душы, бо, паводле грознага загаду фюрара, насельніцтва перад наступленнем савецкіх войск абавязана было эвакуіравацца. У хлявах раўлі каровы і рохкалі свінні ад голаду і нястачы вадапою. Сабакі і тыя хаваліся ў сваіх будках...

У той напружаны час начальнік штаба брыгады маёр Тоганаў, распісваючыся ў ведамасці заробку, звярнуў увагу на почырк, якім яна была запоўненая, і пацікавіўся ў Старадубскага, хто пісаў.

Ведамасць рабіў я. Тут жа, паводле распараджэння Тоганава, я апынуўся ў штабе брыгады. Не паспеў на новым месцы пазнаёміцца са сваімі абавязкамі, як вакол майго з'яўлення ў штабе цэлы вэрхал узняў СМЕРШ. Капітан-смершавец патрабаваў, каб мяне са штаба тэрмінова выключылі. Усіх, хто зведаў нямецкую акупацыю, паводле канонаў СМЕРШа, нельга дапускаць у штаб, нельга ім давяраць сакрэтныя дакументы. Міжвольна ўзнікае пытанне да таго ж СМЕРШа: а хто ратаваў ад акупацыі пакінутых людзей? Тэлефонная валтузня СМЕРШа са штабам брыгады



ВЕРХОВНЫЙ ГЛАВНОКОМАНДУЮЩИЙ МАРШАЛ СОВЕТСКОГО СОЮЗА ТОВАРИЩ И. В. СТАЛИН ЗА ОТЛИЧНЫЕ БОЕВЫЕ ДЕЙСТВИЯ В РАЗГРОМЕ НЕМЕЦКО-ФАШИСТСКИХ ЗАХВАТЧИКОВ ВСЕМУ ЛИЧНОМУ СОСТАВУ НАШЕЙ ЧАСТИ, В ТОМ ЧИСЛЕ И ВАМ, УЧАСТНИКУ БОЕВ, ОБЪЯВИЛ БЛАГОДАРНОСТИ:

1. За прорыв сильно укрепленной обороны противника в районе западнее САНДОМИРА.
(Приказ Верховного Главнокомандующего № 219 от 13 января 1945 г.)

2. За прорыв сильно укрепленной обороны немцев на юго-восточной границе Германии и вторжение в пределы немецкой СИЛЕЗИИ.
(Приказ Верховного Главнокомандующего № 237 от 21 января 1945 г.)

3. За форсирование реки ОДЕР и прорыв сильно укрепленной, долговременной обороны немцев на западном берегу реки.
(Приказ Верховного Главнокомандующего № 273 от 11 февраля 1945 г.)

4. За прорыв сильно укрепленной и глубоко эшелонированной обороны немцев на реке Нейсе, а также за то, что ворвались с юга в столицу Германии — БЕРЛИН.
(Приказ Верховного Главнокомандующего № 340 от 23 апреля 1945 г.)

5. За полное овладение столицей Германии городом БЕРЛИН — центром немецкого империализма и очагом немецкой агрессии.
(Приказ Верховного Главнокомандующего № 359 от 2 мая 1945 г.)

6. За освобождение от немецких захватчиков столицы союзной нам ЧЕХОСЛОВАКИИ — города ПРАГА.
(Приказ Верховного Главнокомандующего № 368 от 9 мая 1945 г.)

ПОЗДРАВЛЯЮ ВАС С ПОЛУЧЕНИЕМ БЛАГОДАРНОСТЕЙ НАШЕГО ВЕЛИКОГО ВОЖДЯ И ПОЛКОВОДЦА МАРШАЛА ПОБЕДЫ ТОВАРИЩА СТАЛИНА.

Командир

З АРХІВА АЎТАРА.

Высокія ўзнагароды прызначаліся найвышэйшым афіцэрам. **Шарагоўцы абыходзіліся падзякамі.**

скончылася толькі пасля таго, як Тоганаў усю адказнасць узяў на сябе.

Фарсіраваўшы рэкі Одэр, Нейсе, Шпрэе, войскі 1-га Украінскага фронту выйшлі на Эльбу. Затым разам з часцямі 1-га Беларускага фронту ўшчэнт разбілі берлінскую групоўку немцаў і ўзнялі над Берлінам сцяг перамогі.

Фашысцкае логава было зруйнавана: на вуліцах валяліся целы людзей, коней, падбітая вайсковая тэхніка; насельніцтва хавалася ў падвалах разбітых будынкаў. Горад быў ахоплены голадам. І калі на вуліцы спынялася салдацкая кухня, яе хутка акружалі людзі з падвалаў з воклічамі «Эсэн, эсэн, эсэн» («есці» па-нямецку), паказвалі пальцам у шырока раскрыты рот, а ад забітага каня ўмомант заставаліся толькі капыты, хвост і грыва.

Пры гэтым берлінцы былі дысцыплінаванымі. У горадзе было некалькі складоў з прадуктамі, вопраткай, зброяй. І ні адзін з іх гэтыя галодныя людзі не ўзламалі.

Пасля Берлінскай аперацыі брыгада ў складзе трох сваіх палкоў была накіравана на вызваленне сталіцы Чэхаславакіі — горада Прагі. Не паддаецца апісанню тая радасць, цеплыня, тая ўдзячнасць, з якімі чэхі сустракалі савецкіх салдат. Сустрэчы суправаджаліся абдымкамі, пацалункамі, песнямі, музыкай, фатаграфаваннем, кветкамі... Радасці не было канца.

Перамога над фашызмам заспела нашу брыгаду на пражскай плошчы Вацлава. Радасць шырылася, узмацнялася і ўпрыгожвалася феерверкамі рознакаляровых ракет. Пражане салдат і афіцэраў пазабіралі ў свае кватэры і частавалі, хто чым мог.

Праз паўтара месяца мы развіталіся з незабыўнай Чэхаславакіяй, нас чакаў у Венгрыі горад Сэнтэндрэ на беразе велічнага і спакойнага Дуная, недалёка ад Будапешта. Атмасфера венгерская адрознівалася ад чэшскай. Тут недалюблівалі савецкага салдата.

Не магу абысці маўчаннем пра бум узнагароджвання, які адбываўся пасля кожнай баявой аперацыі. Узнагарожванне больш нагадвала размеркаванне ордэнаў. Найвышэйшыя ўзнагароды прызначаліся найвышэйшым афіцэрам. Паступова планка зніжалася і даходзіла да ордэна Чырвонай Зоркі, які зрэдку перападаў салдатам. Галоўнага змагара за перамогу адорвалі збольшага толькі медалямі.

А пра смершаўцаў не магу ўспамінаць без уздрыгвання. Я чуў і бачыў, як яны дапытвалі вызваленых з нямецкага палону былых байцоў і афіцэраў Чырвонай арміі і тых, хто быў вывезены ў Нямеччыну на прымусовыя работы. Сярод іх былі настаўнікі, артысты, юрысты, інжынеры, студэнты, рабочыя, сяляне. Для іх ствараліся прапускныя лагеры з пэўнымі абмежаваннямі. Дарэчы, такі лагер працяглы час існаваў пасля вайны ў Высокаўскім раёне Брэсцкай вобласці. У натоўпе прапускных лагераў службісты СМЕРШа шукалі ворагаў народа. Падчас дапытвання дыялог звычайна пачынаўся ветліва, але паступова ператвараўся ў гучную спрэчку, нярэдка з ужываннем фізічнай сілы, калі дапытвальнік імкнуўся выбіць у дапытанага патрэбнае яму прызнанне.

З прапускных лагераў пасля чысткі не ўсім удавалася ўбачыць волю. Шмат хто трапляў у турму, многіх адпраўлялі ў высылку, не абыходзілася і без расстрэлаў. Так савецкая рэчаіснасць прымушала пакутаваць без віны вінаватых сваіх грамадзян.

На сыходзе вясны 1946 года нашу брыгаду перапраўвілі з Венгрыі ў дагестанскі горад Буйнакск. Пасля Заходняй Еўропы Буйнакск выглядаў закінутай правінцыяй. Адтуль я ў ліпені таго ж года вярнуўся ў сваё роднае Бязводнае Зэльвенскага раёна. Дэмабілізаваўся.

**Васіль Семенякоў,**
**удзельнік Вялікай Айчыннай вайны,**
**заслужаны работнік культуры, Мінск**

## «На адзін сняданак немцу!»

Прывітанне, мая «Наша гісторыя»!

Хачу падзяліцца адным успамінам трагічных ваенных часоў. На жаль, сёння асноўны акцэнт у СМІ робіцца на героіцы той вайны, ды яшчэ на зверствах акупантаў. Шмат што проста замоўчваецца ці наўпрост ігнаруецца. А ў вайны, між тым, былі не адны толькі белыя і чорныя колеры.

У чэрвені 1941 года майму дзядзьку Віктару Тамашчыку было 19 год, ён быў навучэнцам ФЗУ. Калі горад Скідзель, дзе ён навучаўся, разбамбілі, ён вярнуўся ў родную вёску на Лідчыне. Да 1943 года спакойна, калі так можна сказаць, жыў і працаваў на бацькоўскай гаспадарцы. Калі ж Масква стала арганізоўваць на нашай тэрыторыі актыўны партызанскі рух, усё змянілася. Звыклай з'явай сталі начныя візіты ў вёску партызан. Пад пагрозай зброі «народныя мсціўцы» вымяталі ў вяскоўцаў усё падчыстую. Мама расказвала (ёй тады было 12 год): «Як жа страшна было, ставілі да сценкі ўсіх, і дзяцей таксама!»

Але і гэтага ім было мала: патрабавалі, каб дзядзька Віця ішоў з імі ў лес. Да пары да часу неяк удавалася адгаворвацца, а затым ён быў вымушаны начаваць дзе заўгодна, толькі не дома.

Калі ж у суседнім мястэчку Жалудок быў створаны паліцэйскі гарнізон, тут ужо выкруціцца не ўдалося — пад пагрозай ультыматуму дзядзька быў вымушаны ўступіць у паліцыю.

Але інтрыга заключаецца вось у чым. Мой дзед Фадзей Тамашчык быў няўрымслівы і прадпрымальны чалавек. Ён склаў паперу-прашэнне, маўляў, ён сам ужо стары, нямоглы, гаспадарка вялікая, апрацоўваць яе няма каму. Яе падпісалі аднавяскоўцы і стараста вёскі.

І — цуд дый годзе! — на падставе гэтай паперы дзядзьку Віцю вызвалілі з паліцыі. Пабыў ён там толькі няпоўны месяц.

І толькі восенню 1944-га, пасля вызвалення Лідчыны ад акупацыі, дзядзька быў прызваны ў дзейную Чырвоную армію.

Бабуля расказвала эпізод, які ўзрушыў і абурыў яе і іншых жанчын, што выпраўлялі сваіх сыноў на фронт з перона лідскага вакзала. Адзін з кадравых афіцэраў, што фарміраваў эшалон, не тоячыся, прамовіў: «На адзін сняданак немцу!» Жанчыны гэта як пачулі, дык кінуліся на афіцэра з кулакамі — той ледзь уратаваўся ўцёкамі.

На жаль, так яно і аказалася: ужо ўзімку 1945-га Віктар Тамашчык загінуў у Заходняй Прусіі. Вечная памяць палеглым!

**Вінцук з Мядзела**



# Партугальская рэвалюцыя гваздзікоў

## Як армія зрабіла краіну дэмакратыяй

**На пачатку 1970-х гадоў Партугалія была адной з самых бедных краін Заходняй Еўропы. Для рэвалюцыі не хапала толькі іскры. Яе высеклі вайскоўцы, піша Андрэй Акушка.**

Партугалія ў 1974 годзе была нетыповай для Заходняй Еўропы краінай. Амаль усе дзяржавы Еўропы за межамі сацыялістычнага лагера на той момант былі дэмакратыямі. Выключэннямі, акрамя Партугаліі, заставаліся Іспанія, дзе правіў састарэлы дыктатар Франсіска Франка (пра яе гл. артыкул у №1/2020 «Нашай гісторыі»), і Грэцыя, дзе кіравалі «чорныя палкоўнікі». Але ўсім тром рэжымам заставалася тады жыць вельмі нядоўга.

### Хрысціянская дыктатура

У 1920–1930-я гады эканаміст і палітык Антоніу Салазар стварыў у Партугаліі «Новую дзяржаву» — карпаратыўную хрысціянскую краіну накшталт Аўстрыі часоў Энгельберта Дольфуса (гл. артыкул у №12/2019 «Нашай гісторыі»). Адзіная дазволеная партыя, маштабныя фальсіфікацыі на выбарах

і палітычная паліцыя пад назвай PIDE (*Polícia Internacional e de Defesa do Estado* — Міжнародная паліцыя абароны дзяржавы) хутка зрабілі з Партугаліі тыповую дыктатуру.

Дыктатуру падтачылі выдаткі на сілавікоў. Улады ставілі перад сабой задачу любой цаной захаваць афрыканскія калоніі: Анголу, Гвінею-Бісау і Мазамбік. Аднак афрыканцы ўсё больш настойліва змагаліся за незалежнасць: французская і брытанская каланіяльныя імперыі разваліліся, новыя незалежныя дзяржавы Афрыкі давалі базу для барацьбы за свабоду рэшце калоній.

Бізнэсу і наменклатуры Афрыка была трэба: там былі сыравіна і рынак збыту. Але моладзь ваяваць там не хацела і масава бегла за мяжу ад мабілізацыі. Дайшло да таго, што міграцыя дасягнула тады адной шостай ад 9 мільёнаў тагачаснага насельніцтва Партугаліі.

Салазар памёр у 1970 годзе, улада перайшла пераемнікам. Калі ў 1973-м здарыўся нафтавы і эканамічны крызіс, які канчаткова падарваў эканоміку, група маладых афіцэраў вырашыла, што далей так працягвацца не можа. Першая спроба перавароту адбылася ў сакавіку 1974-га. Спецслужбы змову раскрылі, за краты трапіла каля 200 чалавек. Але пакуль у адным месцы дзірку заткнулі, прарвала ў іншым.

У ноч з 24 на 25 красавіка 1974 года капітан Атэлу Карвалью ▶

**Антоніу Алівейра Салазар**

(1889–1970) у юнацтве марыў зрабіць царкоўную кар’еру, але ўрэшце стаў юрыстам і эканамістам. У красавіку 1928-га прызначаны міністрам фінансаў з правам вета на «няправільныя» рашэнні ўрада. На новай пасадзе пераадолеў фінансавы крызіс і стабілізаваў валюту.
5 ліпеня 1932 года Салазар стаў прэм’ер-міністрам, а хутка ўсталяваў дыктатуру. З кожным годам ён канцэнтраваў у сваіх руках усё больш улады. Падчас кіравання абапіраўся на эканамістаў і вайскоўцаў, таму змог утрымаць уладу і палепшыць фінансавае становішча дзяржавы. Спрытна лавіраваў паміж двума блокамі ў Другой сусветнай вайне, што дазволіла краіне няблага ў той час зарабіць. А партугальскі дыктатар, як і ягоны іспанскі сусед Франка, здолеў надоўга ўтрымаць уладу.
У 50–60-я гады Салазар ініцыяваў прыняцце шасцігадовых планаў развіцця, дзякуючы якім Партугалія з аграрнай краіны стала індустрыяльна-аграрнай.
Памёр Салазар у 1970-м, перадаўшы ўладу пераемніку.

## ПАРТУГАЛІЯ

**Насельніцтва** больш за 10 мільёнаў чалавек.

**Тэрыторыя** 92 тыс. кв. км (менш за палову ад тэрыторыі Беларусі).

**У мінулым** пабудавала вялікую каланіяльную імперыю (толькі адна Ангола была амаль у 14 разоў большай за метраполію). Адметнасць партугальскага каланіялізму была ў тым, што ён адмаўляў расізм. Усе землі лічыліся часткай дзяржавы, а іх жыхары маглі стаць грамадзянамі з усімі правамі. Але пры ўмове, што яны ведалі нацыянальную мову — партугальскую, былі каталікамі і прызнавалі законы краіны. Тым не менш з 1961 года жыхары калоній сталі патрабаваць незалежнасці і дабіліся яе ў 1974–1975 гадах.

**Сярэдні заробак** цяпер прыкладна ў 2,5 разу вышэйшы, чым у Беларусі.



SHUTTERSTOCK.COM, BY TORBEN KNAUER

**Лісабонцы ля Помніка першаадкрывальнікам — манумента часоў Салазара (1960 год),** прысвечанага партугальскім дзеячам эпохі Вялікіх геаграфічных адкрыццяў. Помнік узвышаецца на 52 метры і мае шырыню 20 метраў.

з групамі верных яму афіцэраў і салдат захапілі сталіцу Партугаліі Лісабон. З трох да пяці гадзін раніцы былі занятыя дзяржаўныя радыё і тэлебачанне, галоўныя міністэрствы, лісабонскі аэрапорт.

### Страляла толькі *PIDE*

Дыктатура ўсіх дастала, таму, акрамя спецслужбістаў з *PIDE*, ніхто не супраціўляўся: ні армія, ні паліцыя.

Эмацыйны момант: вайскоўцы па радыё звярнуліся да грамадзян з просьбай заставацца дома, каб не было ахвяр. Але ўзрадаваныя жыхары тысячамі высыпалі на вуліцы, каб падзякаваць арміі. Яны неслі салдатам ваду і ежу. А работніца рэстарана Селеста Каэйру ўставіла гваздзік у дула штурмавой вінтоўкі аднаго з жаўнераў. Гэты сімвал адзінства з вайскоўцамі трапіў у аб'ектывы журналістаў і паўтарыўся ў іншых месцах, таму пераварот і ўвайшоў у гісторыю як «рэвалюцыя гваздзікоў».

А 19-й гадзіне пераемнік Салазара Марсэлу Каэтану перадаў уладу паўстанцам, і Карвалью святкаваў перамогу. Амаль бяскроўную. Загінулі толькі чатыры мужчыны, па якіх адкрылі агонь са штаб-кватэры палітычнай паліцыі.

25 красавіка адрокся ўлады Каэтану. А 26 красавіка з'явіўся першы нумар галоўнай партугальскай газеты «Рэспубліка» без цэнзуры. У найбуйнейшых гарадах краіны прайшлі дэманстрацыі ў падтрымку рэвалюцыі. З турмаў і канцлагера на Азорскіх астравах былі вызваленыя палітычныя зняволеныя, а сакрэтная паліцыя распушчаная. Уладу ў свае рукі ўзяла Рада нацыянальнага выратавання на чале з Антоніу дзі Спінолай, які з 15 мая стаў часовым прэзідэнтам. Карвалью ж прызначылі кіраўніком Кантынентальнага аператыўнага камандавання (па-партугальску *COPCON*) — органа па абароне рэвалюцыі.

У пераходны перыяд было трохі хаосу. Беднякі сталі займаць незанятае жытло.

Каб утаймаваць хваляванні, хунта замарозіла арэндную плату за жыллё і аддала загад рыхтаваць нацыяналізацыю банкаў (акрамя тых, што належалі замежнаму капіталу).

Тым часам у краіну вярнуліся з выгнання вядомыя палітыкі — лідар сацыялістаў Марыу Суарэш і кіраўнік камуністаў

**Атэлу Сарайва Карвалью** нарадзіўся ў 1936 годзе на тэрыторыі сучаснага Мазамбіка ў Афрыцы. Сваё імя атрымаў у гонар героя Уільяма Шэкспіра, з юнацтва абраў вайсковую кар'еру. Быў фактычным кіраўніком рэвалюцыі гваздзікоў. Прытрымліваўся левых поглядаў, марыў стаць партугальскім Фідэлем Кастра.
Пасля перамогі рэвалюцыі ён здзейсніў яшчэ адну спробу перавароту — ужо камуністычнага. За гэта на тры месяцы трапіць у турму. Але на прэзідэнцкіх выбарах 1976 года радыкал Карвалью набярэ толькі 16% галасоў.
У 1984-м Карвалью зноў апынецца ў турме — гэтым разам за тэракты супраць амерыканскага кантынгенту.


WIKIMEDIA COMMONS

**Напамін пра бяскроўную рэвалюцыю** ў горадзе Порту.



WIKIMEDIA COMMONS

**Лісабон вітае «капітанаў»-вызваліцеляў.** 25 красавіка 1974 года.

Алвару Куньял. Усё гэта часова супакоіла народ. Тым часам Спінола і Карвалью дамовіліся, што рэпрэсій супраць старой эліты амаль не будзе: пакаралі толькі тых, хто страляў у людзей з будынка спецслужбы, а былой палітычнай вярхушцы дазволілі эміграваць у Бразілію (там таксама гавораць па-партугальску).

16 мая сваё першае пасяджэнне правёў Часовы ўрад. У яго ўвайшлі прадстаўнікі сацыялістаў, камуністаў і «народных дэмакратаў» (апошняя партыя складалася з былых прыхільнікаў Салазара). Міністры падтрымалі павышэнне мінімальных заробкаў і загадалі пачаць *Saneomento* («Ачышчэнне»). Падчас гэтага працэсу былі звольненыя адыёзныя постаці старога рэжыму. На радыё і тэлебачанні «ачышчэннем» заняўся будучы прэзідэнт краіны — вайсковец Антоніу Эанеш.

Частка правых палітыкаў спадзявалася захаваць калоніі, але ў ліпені іх лідару, Спінолу, прыйшлося прызнаць: трэба пачынаць перамовы.

## Кароткі перыяд хаосу

Тым часам бясконцыя забастоўкі вялі да паглыблення крызісу. Прыхільнікі левых ідэй патрабавалі росту заробкаў. На поўдні краіны сяляне масава захоплівалі землі.

І крайне левыя, і правыя снавалі планы скарыстацца з гэтага, каб умацаваць сваю ўладу. Першым фальстарт зрабіў Спінола. Пасля няўдалай спробы ўсталяваць дыктатуру ён падаў у адстаўку.

Правыя паспрабавалі арганізаваць яшчэ адзін путч, але зноў правальна.

Кіраўніцтва краіны пасля таго змянілася — цяпер галоўным органам стала Рэвалюцыйная рада. На фабрыках увялі рабочы кантроль, а сяляне працягвалі захопліваць землі (да канца лістапада 1975-га каля чвэрці сельскагаспадарчых тэрыторый змянілі ўладальнікаў). Пачалася і нацыяналізацыя прадпрыемстваў — пераважна гэта былі фірмы, канфіскаваныя ў правых, якія падтрымалі путч і Спінолу.

25 красавіка 1975-га — у гадавіну рэвалюцыі — прайшлі выбары ў Часовую асамблею, якая павінна была падрыхтаваць канстытуцыю. Яўка на першых выбарах склала 92%, а неверагодную перамогу атрымалі сацыялісты з 38% ▶


WIKIMEDIA COMMONS

25 красавіка 2019 года былыя маладыя «капітаны» сустрэліся ў Лісабоне **адсвяткаваць гадавіну рэвалюцыі**.

**Антоніу Рамалью Эанеш**
нарадзіўся ў Цэнтральнай Партугаліі ў 1935 годзе. У юнацтве ён скончыў вайсковае вучылішча, з 1958 года (з перапынкамі) служыў у калоніях. На мяжы 60–70-х гадоў у Гвінеі-Бісау пазнаёміўся са Спінолам і Карвалью. Быў адным з удзельнікаў «Руху капітанаў», але непасрэдна ў рэвалюцыі не ўдзельнічаў, бо тады знаходзіўся ў Анголе.
Вярнуўся на радзіму ў ліпені 1974-га і амаль год кіраваў партугальскімі радыё і тэлебачаннем. Звольнены пасля спробы перавароту Спінолы, хоць удзел у ім адмаўляў. У канцы 1975-га ўзначаліў генеральны штаб і атрымаў званне генерала.
У чэрвені 1976-га перамог на выбарах прэзідэнта з вынікам амаль у 62% (кандыдатуру Эанеша падтрымалі амаль усе партыі). Праз пяць гадоў зноў перамог — з вынікам у 56%.
За дзесяць гадоў яго прэзідэнцтва краіна прайшла шлях дэмакратычных рэформаў, увайшла ў Еўрасаюз.
Пасля адстаўкі пажыццёва (як былы прэзідэнт) стаў адным з удзельнікаў Дзяржаўнай рады. У 2000 годзе адмовіўся ад звання маршала, бо лічыў яго залішнім для сабе.
У 2006-м стаў доктарам палітычных навук. Нягледзячы на паважны ўзрост, назірае за палітычным жыццём краіны і сёння.



**Порту** — адзін з самых старых гарадоў Партугаліі.

галасоў (за год да таго ў складзе партыі былі ўсяго 200 чалавек!). Далей ішлі Народна-дэмакратычная партыя (26%) і камуністы (12%).

Новы ўрад палічыў, што вынікі галасавання даюць яму права будаваць «партугальскі сацыялізм». Але гэта прывяло да канфлікту рэгіёнаў. Калі беззямельныя батракі поўдня ідэю падтрымалі, то заможныя сяляне поўначы былі супраць. У адных раёнах разбуралі цэрквы, у іншых — палілі штабы камуністаў. На правых і левых раскалолася і армія.

Склад часовага ўрада мяняўся ледзь не кожны тыдзень.

У канцы лістапада радыкалы паспрабавалі здзейсніць узброены пераварот. Раніцай 25 лістапада салдаты з ліку іх прыхільнікаў занялі некалькі казармаў. Але народ іх не падтрымаў — у адрозненне ад рэвалюцыі гваздзікоў, гэтым разам салдаты апынуліся ў ізаляцыі і ў той жа вечар здаліся. Ніхто не хацеў вялікай крыві і грамадзянскай вайны.

28 лістапада Карвалью быў вымушаны сысці ў адстаўку, а *COPCON* быў увогуле ліквідаваны. Функцыі абароны рэвалюцыі перайшлі да генеральнага штаба на чале з новай зоркай на палітычным небасхіле — Антоніу Эанешам. Ён навёў парадак і задушыў спробы ўзброенага паўстання ў іншых раёнах краіны. А потым супакоіў і радыкалаў, спыніўшы самазахопы зямлі і жытла.



Гарадскія колеры. Порту.



## Сацыяльна арыентаваная дзяржава

Але проста суцішыць хваляванні ў краіне мала — трэба яшчэ даць грамадству пазітыўную альтэрнатыву. І новыя ўлады аказаліся як рэфарматары на вышыні.

2 красавіка 1976 года партугальскі парламент зацвердзіў новую канстытуцыю. У ёй быў прапісаны курс на сацыяльна арыентаваную дзяржаву. І гэта аказалася не пустымі словамі. Так, у 1974-м дзіцячая смяротнасць у Партугаліі была ў чатыры разы вышэйшай, чым у Нідэрландах, а ў 1980-я партугальцы дагналі нідэрландцаў амаль па ўсіх паказчыках, а па якасці даступнай медыцыны выйшлі на сёмае месца ў свеце.

Ішлі змены і ў адукацыі. Настаўнікам павысілі заробкі, а з праграмы прыбралі прадметы накшталт ідэалагічнага


SHUTTERSTOCK.COM, BY ALIAKSANDR ANTANOVICH

выхавання. Бедным студэнтам у ВНУ сталі выдаваць стыпендыі. Змянілася і адміністратыўная сістэма. Школамі цяпер замест дырэктараў кiравалі рады педагогаў.

Папулярнасць новаму ўраду далі новыя сацыяльныя праграмы. Грошы на іх знайшліся за кошт скарачэння выдаткаў на сілавыя структуры.

Большасць рэформаў кантраляваў Эанеш, якога двойчы (у 1976-м і 1981-м) абіралі прэзідэнтам. У першай інаўгурацыйнай прамове ён казаў, што забяспечыць пабудову дэмакратычнага і сацыялістычнага грамадства (у еўрапейскім, а не ў савецкім сэнсе слова «сацыялізм»).

Вядома, у наступныя дзесяцігоддзі ў краіне здараліся і палітычныя, і эканамічныя крызісы. Але галоўнае, што Партугалія пасля ўсіх тых пературбацый 1970-х урэшце стала звычайнай еўрапейскай дзяржавай. Такой, якую і сёння марыць дагнаць большасць постсавецкіх рэспублік. ◆

## Сацыялісты супраць… сацыялістаў

Пасля рэвалюцыі ўхіл улева ў Партугаліі дэманстравалі ўсе партыі, а не толькі сацыялісты ці камуністы. Нават былыя прыхільнікі дыктатара Салазара перайменаваліся ў Сацыял-дэмакратычную партыю. Канстытуцыя 1976 года афіцыйна дэкларавала пабудову сацыялістычнай дзяржавы. Таму ўсе партыі на словах падтрымлівалі «сацыялізм». Але так адбывалася нядоўга. Ужо на другіх выбарах, у 1979 годзе, сацыял-дэмакраты перамаглі ў складзе кааліцыі «Дэмакратычны альянс». Кіраўнік партыі, Францішку Са Карнейру, узначаліў новы, цэнтрысцкі, урад. У выніку Партугалія канчаткова адмовілася ад радыкалізму першых гадоў пасля рэвалюцыі. Сацыяльныя гарантыі насельніцтву засталіся, але і бізнэс атрымаў дапамогу. Уладальнікам нацыяналізаваных прадпрыемстваў выдалі кампенсацыі, а інвестарам паабяцалі льготы. Пасля гэтага ў Партугаліі некалькі дзесяцігоддзяў запанавалі правацэнтрысты і левацэнтрысты — сацыял-дэмакраты і сацыялісты.



WIKIMEDIA COMMONS

**А гэтае графіці выглядае не толькі адсылкай да падзей 1974 года, але і заклікам выкарыстоўваць зброю хіба толькі для раскідвання кветак.** Здымак зроблены ў Лісабоне ў 2017 годзе.


SHUTTERSTOCK.COM, BY WJAREK

**Танцы падчас фестывалю на Мадэйры.**

# А на Вялікдзень пеўнем заспявала курыца...

Від на Сімяонаўскую царкву з раёна былога гета.

ФОТА ІНЫ ХОМІЧ

## Гісторыя гэтай сям'і — як гісторыя краіны. Расказвае настаўніца Вера Філасаф з Каменца

**Яна нарадзілася і вырасла ў Каменцы*, продкі яе — таксама з камянецкіх ваколіц. Змалку Вера шмат часу праводзіла з бабуляй, якая замест казак расказвала ёй сямейныя гісторыі.**

Чаму я вырашыла пачаць гэты аповед? Бо ўва мне жывуць успаміны пра тых, каго ўжо няма, хто застаўся толькі на партрэтах. А я адзіная, хто можа пераказаць іх гісторыі. З другога боку, вучні часта пытаюцца на ўроках: «А як раней жылі?»

* Афіцыйна гэты райцэнтр Брэсцкай вобласці сёння завецца **Камяне́ц**, але мясцовыя жыхары завуць яго крыху інакш — **Ка́менец**. Так заве яго і аўтарка гэтага артыкула.

І самы лепшы падручнік — жывы аповед спачатку настаўніка, а пасля і бацькоў пра людзей, што дарагія ім. Гісторыя краіны і дзяржавы пачынаецца менавіта з гісторыі сям'і.

Я нарадзілася ўжо ў Каменцы, дзе атрымалі кватэру мае мама з бабуляй і прабабуляй. Мой бацька неўзабаве пасля майго нараджэння памёр, таму выхоўвалі мяне жанчыны — найболей бабуля Вера Філасаф (1911–1995). Баба шмат чаго расказвала непасрэдна мне, а яшчэ брала ўсюды з сабой, і я чула яе размовы з такімі ж жанчынамі. Бабуля памерла, калі я закончыла ўніверсітэт і збіралася на сваё першае месца працы па размеркаванні, так што паспелі мы нагаварыцца і ў тыя часы, калі я ўжо больш-менш свядома ўспрымала яе аповеды.

### «Які ж з цябе настаўнік без зубоў?»

Мой прадзед Пархоцік Герасім, ці па-мясцоваму *Гарасым*, хацеў вучыцца на настаўніка, але ў семінарыю яго не ўзялі праз бяззубасць. Так і сказалі: «Які ж з цябе настаўнік, калі ў цябе няма зубоў?» Нейкая такая хвароба была, што рана зубы пачалі выпадаць, а пратэзы ж тады ніхто не ставіў.

Гэтая адмова страшна прадзеда засмуціла. Па-першае, мары канец, ды і як вяртацца ў родны дом,

калі зямлі на яго не различана? Дома застаўся гаспадарыць брат, на малодшага спадзяваліся, што свой хлеб ён заробіць з навукі. У цягніку на зваротнай дарозе юнак знайшоў сям'ю, якой патрэбны быў памочнік-парабак, таму дахаты ён і не паехаў. Вярнуўся ў сваё Мікалаева (3 км ад Каменца), толькі калі яму пераказалі, што брат памёр і трэба камусьці дагледзець і старых бацькоў, і гаспадарку.

У мікалаеўскай царкве прадзед прыгледзеў Алену (у нас казалі: *Галеня*) са Старышова, і маладыя па ўзаемнай сімпатыі хутка ў той жа мікалаеўскай царкве і абвянчаліся. Жыць выращылі ў Старышове, дзе і нарадзіліся іх двое дзетак: мая баба Вера і яе старэйшы брат Мікалай.

## А куфар закапалі

Бабулі было 4 гады, як выйшаў царскі загад ехаць у Расею (баба так вымаўляла: *у Росею*) — у бежанства. Сказалі, што будзе страшная вайна і ўсіх, хто застанецца, пазабіваюць немцы. Гэта было летам, якраз у жніво. Пархоцікі паспелі яшчэ зжаць і схаваць жыта, у надзеі хутка вярнуцца і навесну ім засеяць палеткі. Прабаба да таго ж наладавала цэлы куфар дамашняга скарбу, які не выпадала браць у далёкую дарогу — у тым ліку некалькі скруткаў даматканай тканіны. За гэтымі скруткамі стаяла вялізная праца, і трэба было яе закапаць. Але пасля вяртання ніякага куфра, як і збожжа, Пархоцікі, канечне, не знайшлі.

Гарасым запрог сваіх абаіх коней, да адной з падвод прывязаў карову, і ўсе рушылі. На возе ехалі маленькая Верачка, крыху старэйшы Коля, іх бацькі Гарасым з Галеняй, а таксама Галеніна маці, Ганна. Бацькі Гарасыма на той момант былі ўжо нежывыя.




**Вера Філасаф у родным Каменцы.** Праўда, пакуль яна праводзіць у ім толькі выходныя і адпачынак — у працоўныя дні жыве на здымнай кватэры ў вёсцы Амелянец, дзе працуе настаўніцай.

У дарозе было цяжка, асабліва нехадзячай бабе Ганне, якой ад пераезду стала зусім кепска. Нашым яшчэ пашчасціла мець коней і ехаць, а былі ж людзі зусім бедныя, якія ішлі пешшу і прасіліся пад'ехаць хоць частку дарогі ў іншых бежанцаў. А рухацца трэба было хутка: як толькі звернуць з дарогі, каб штосьці зварыць ды пад'есці, як ужо казакі з нагайкамі скачуць, крычаць: «Быстрее освобождайте путь, здесь войска идти должны!» Не было як адпачыць коням, папасвіцца карове.

Як даехалі да Чэрыкава на Магілёўшчыне, тая баба Ганна памерла. Была якраз стаянка, таму сям'я знайшла магчымасць пахаваць нябожчыцу па-хрысціянску, са святаром і на могілках, а то спрэс здаралася, што тых, хто паміраў у дарозе, проста на ўзбочыне і закопвалі, нават крыж маглі не паспець паставіць.

У Смаленску трэба было перасаджвацца на цягнік. Карову і коней у сям'і забралі, далі за іх нейкія сімвалічныя грошы.

## «Беженка несчастная, двое ребятишек»

У Расею (а дакладна ў Арлоўскую губерню, сяло Фёдараўка каля Яльца — ведаю гэтак дакладна, бо баба настойліва прасіла гэта запомніць), прыехалі толькі пад Раство. Гэта столькі ехалі — чатыры месяцы.

Бежанцаў высадзілі з фурманак пасярод сяла, а вясковы староста пайшоў па людзях, каб прыходзілі ды разбіралі людзей на пастой. Пархоцікаў доўга ніхто браць не хацеў, бо двое малых ▸




**Мікалаеўская царква пабудаваная на мяжы стагоддзяў**, у 1902 годзе на яе паставілі апошнія вежы. Калі Герасім Пархоцік вянчаўся тут з Аленай, будынак быў яшчэ зусім свежым.

ФОТА З АРХІВА ВЕРЫ ФІЛОСАФ



**Герасім Пархоцік**, які марыў стаць настаўнікам, але замест гэтага павандраваў у бежанства, а пасля пахаваў сына і зяця, загінулых на фронце. Здымак зроблены ў 1943 годзе на нямецкі аўсвайс (пасведчанне асобы).

дзяцей. Толькі шкадавалі: «Беженка несчастная, двое ребятишек, а девчонка-то совсем маленькая!» — чужая мова вельмі ўрэзалася бабе ў памяць.

Урэшце сям'ю забраў чалавек па прозвішчы Мелакін. У яго самога была вялікая сям'я, з ім жылі абодва сыны, нявесткі і іх дзеці, але знайшлося месца і для бежанцаў. Баба ўвогуле ўспаміналa расейскіх людзей як добрых і спагадлівых. Дапамагалі, прыносілі ежу, а на Масленіцу, якую там шырока святкавалі, частавалі блінамі. Не падабалася толькі нашым людзям, што расейцы іх называлі хахламі; праўда, і нашы на тых не казалі «расеец», а толькі «кацап».

Першую зіму прабаба Галеня з іншымі жанчынамі хадзіла жабраваць. Ёй давалі найбольш, бо яна, хоць і непісьменная, умела гаварыць па-руску і яе прызнавалі за сваю. Не толькі кідалі хлеб у торбу, але запрашалі «откушать чаю».

Праўда, аднойчы такая гасціннасць ледзь не скончылася дрэнна. У Мелакіна прапалі грошы, і, канечне, у першую чаргу падазрэнне ўпала якраз на бежанку, якая заходзіла на чай у гаспадарскую палову. Выклікалі нават паліцыянта з сабакам, але ўрэшце выявілі, што грошы скрала ўнучка гаспадара, падгавораная сваім кавалерам. Пасля гэтага выпадку Пархоцікі купілі ў сяле старую хату і сталі жыць самастойна.

## Вынеслі котку з кацянём і ікону

Паступова да Расіі пачалі прывыкаць, дзеці пайшлі там у школу. Мікалай паспеў скончыць чатыры класы, Вера — два. Як зрабіўся саўгас, усе пайшлі туды на працу, у тым ліку падлетак Мікалай. Ім за гэта давалі штодня па кавалку хлеба, а вечарам кожны адшчыкваў ад свайго кавалка для меншай Веры. Мікалай не надта хацеў дзяліцца: яму і самому таго хлеба было мала. Таму дзяўчынцы вельмі хацелася таксама працаваць і мець свой хлеб. Летам такая магчымасць была — падпрацоўвала ў саўгасным садзе і агародзе, усё за той жа кавалак хлеба, якому была вельмі радая.

І вось праз 7 год ад пачатку вандроўкі прыйшоў загад усім бежанцам ехаць дадому. Гарасым прапаноўваў застацца, бо Коля паступіў у чыгуначную школу на машыніста і вельмі хацеў вучыцца. Шкада было расчароўваць хлопца. Але Галеня рвалася на радзіму, і Гарасым саступіў.

Вярнуліся — а хаты няма, голае поле. Жыць няма дзе. Добра, што сваякі, якія раней вярнуліся, пусцілі ў свой хлеў, пакуль Гарасым на хуткую руку паставіў хаціну без падлогі, дзе першы час жылі ўсе разам: і людзі, і свінні. Але доўга ў той халабудзе не прабылі: здарыўся пажар. У сям'і было крыху грошай на чорны дзень, дык яны згарэлі разам з хатай. Бо Пархоцікі найперш ратавалі котку з кацянём і ікону, якая вандравала з імі ў бежанства, пра грошы прыгадалі ўжо пазней. Ды разважылі, што самае галоўнае яны ад агню ўберaглі, дзеці таксама цэлыя, а астатняе нажывецца.

## «А раптам яшчэ немцы вернуцца?»

У 1934-м Вера выйшла замуж за Іллюшку Філосафа, які спадабаўся ёй, як некалі прадзед Гарасым прабабе Галене, сваёй стрыманасцю і інтэлігентнасцю. У 1935-м у іх нарадзілася дачка Тоня.

Пасля прыходу саветаў Веру абралі дэпутаткай у Мікалаеўскі сельскі савет. Камуністкай яна не была, але была жанчынай пісьменнай і справядлівай. Пасля выбараў былі танцы ў клубе, Вера з Іллюшкам танцавалі і радаваліся, што пачынаецца новае жыццё. Малая Тоня танцавала разам з імі.

ФОТА З АРХІВА ВЕРЫ ФІЛОСАФ



**Маленькая Тоня Філосаф, маці аўтаркі.** Здымак польскага часу.

А ў 1941-м, пасля прыходу немцаў, Веру па позве выклікалі ў Каменец: адгукнулася яе дэпутацтва. Там ад яе дабіваліся, каб расказала, хто яшчэ быў у сельсавеце, хто актыўна падтрымліваў савецкую ўладу. Яны папярэдне з іншымі жанчынамі-дэпутаткамі ўмовіліся, што іншых здаваць не будуць, таму і Вера пацвярджала толькі сваё выбранне, даказвала, што больш нікога не ведае асабіста. Гэта раззлавала немца, які дапытваў яе. Ён моцна ўдарыў ёй па спіне нейкім кіем, ды так няўдала, што пасля таго спіна ў яе так і засталася скрыўленая. Але дзякуючы паляку-перакладчыку Веру і іншых жанчын-дэпутатак усё ж адпусцілі: маўляў, гэта ж звычайныя жанчыны, што з іх пытаць як з ідэйных камуністаў?



ФОТА З АРХІВА ВЕРЫ ФІЛОСАФ

**Вучні Замастоўскай пачатковай школы,** 1944/1945 навучальны год. Антаніна Філосаф, мама аўтаркі, стаіць крайняя злева. Яна, 9-гадовая, пайшла адразу ў другі клас, бо дзед Герасім дома навучыў яе чытаць і пісаць. У тым класе яна была ці не наймалодшая. Многім на здымку было ўжо па 14–15 год. У тыя паваенныя гады нярэдкасцю было, што пасля 4-х класаў дзеўкі адразу выходзілі замуж, а хлопцы ішлі ў армію.

**Яна ўвогуле не давярала ніякім уладам, бо пабачыла за свой век іх шмат**

Рэшту акупацыі Вера дапамагала партызанам. І міжволі — яе малая дачка, якая не разумела, чаму, калі яе просяць правесці незнаёмага прыгожага хлопца ў суседнюю вёску, маці і бабуля заўсёды плачуць. Ён жа вясёлы, кажа, што Тоня прыгожая і калі падрасце, то ажэніцца з ёй. Толькі пасля яна зразумела, што гэта быў нейкі сувязны, а яна была проста прыкрыццём — на чалавека з дзіцём немцы не так будуць звяртаць увагу. Гэта пасля мне расказвала ўжо мама, бо бабуля яшчэ доўга пасля вайны баялася распавядаць пра сваю дапамогу партызанам. Казала: «А раптам яшчэ немцы вернуцца?»

Яна ўвогуле не давярала ніякім уладам, бо пабачыла за свой век іх шмат.

### Развітанне славянкі

У ліпені 1944-га пайшла пагалоска, што наступаюць нашы і будзе страшны бой. Старышоўцы, узяўшы на выпадак смерці чыстую бялізну і вопратку (каб не дай бог не быць пахаваным у брудным), а таксама абразы, пайшлі хавацца ў скляпеннях суседняй вёскі Палінаўка. Усю ноч ішоў бой, а тады нарэшце ўсё сціхла. Людзям не верылася, што вайне прыйшоў канец.

Праўда, той жа раніцай жыццё маёй мамы Тоні ледзь не абарвалася. Калі яны ўсе вылезлі са склепа і пачалі ісці ў бок Старышова, аднекуль свіснула куля ды праляцела гэтак блізка да яе галавы, што на дарогу ўпала падрэзаная пасма валасоў. У нашай сям’і лічылі, што ўратавала яе ікона святога Мікалая, якую яна несла ў руках — тая самая, якую прадзед з прабабай выратавалі з пажару і якая да гэтага вандравала з імі ў Расею. Цяпер гэтую ікону беражліва захоўваю ўжо я.

Але прыход савецкіх войскаў нёс не толькі радасць вызвалення, але і смутак, а таксама страх, бо ўсіх мужчын забралі ў войска. Гарачым жнівеньскім ранкам Тоня разам з бабай Галеняй адпраўлялі на вайну Тонінага бацьку Іллю Філосафа і адзінага дзядзьку, матчынага брата Мікалая Пархоціка, які яшчэ не паспеў ажаніцца і пайшоў з дому, ▶

трымаючы ў кішэні фатаграфію сваёй нявесты Ліды.

Вера засталася дома з хворым бацькам: у Гарасыма прыхапіла сэрца, як прыйшоў час развітвацца адначасова і з сынам, і з зяцем.

Каменец у той дзень кіпеў. З усіх вёсак ехалі людзі, на вазах сядзелі дзеці, жанчыны, старыя. Усе хацелі хоць на хвіліначку болей пабачыць свайго мужа, бацьку, брата, сына. Енк і плач разносіліся па мястэчку разам з пераліvamі гармоніка.

Зайграла «Развітанне славянкі». Ілля пацалаваў дачку, ускінуў на плечы любімы гармонік, Мікалай проста абняў маці і пляменніцу. У шэрагу яны сталі побач, хоць і не надта сябравалі. Дужыя, высокія, прыгожыя. Калона мужчын пакрочыла ў бок Кобрына, дзе чакалі эшалоны. Жанчыны з дзеткамі нейкі час беглі следам, пакуль дзеці не пачалі хныкаць, стомленыя і засмяглыя.

### Паштарка пабаялася

Больш мая мама свайго бацьку не бачыла: загінуў у баях пад Варшавай. Дзядзька Мікалай яшчэ разок вярнуўся да роднага парога, яму далі невялікі адпачынак пасля ранення ў руку. Колькі быў, кожны дзень да іх у хату прыходзілі і прыходзілі людзі, пыталіся пра сваіх салдат. Не толькі старышоўцы — жыхары з усяго наваколля, якія ад іншых даведваліся, што Гарасымаў Коля вярнуўся з фронту. Ім, напэўна, уяўлялася, што хлопцы як пайшлі ўсе разам з Каменца, дык так разам і ваявалі. Мікалай нікога не расчароўваў, усім казаў, што іх родныя жывыя, што ён усіх бачыў — часта не ўяўляючы, пра каго ўвогуле гаворка. Падбадзёрваў, што абавязкова ўсе вернуцца, хоць ужо пабыў на фронце дастаткова, каб разумець, што гэта далёка не так.

**У сакавіку 1945 года, якраз на Вялікдзень, у Пархоцікаў пеўнем заспявала курыца — страшная прыкмета**


ФОТА З АРХІВА ВЕРЫ ФІЛОСАФ

**Вера Філосаф, у дзявоцтве — Пархоцік, бабуля аўтаркі.**

Суседзі прапаноўвалі Пархоцікам занесці ў ваенкамат курыцу, маўляў, Колю большую адтэрміноўку па раненні дадуць, а там і вайна скончыцца. Але той не пагадзіўся і, як толькі кароткі адпачынак закончыўся, вярнуўся на фронт.

А ў сакавіку 1945 года, якраз на Вялікдзень, у Пархоцікаў пеўнем заспявала курыца — страшная ў нашых краях прыкмета. Сям’я якраз сядала за стол разгаўляцца, як спачатку пачулі той курыны крык, а пасля пабачылі суседку — крыху дурнаватую Ганну, якая зайшла ў хату і кажа: «Вы тут яйкі ясцё, а Мікалая вашага забілі!» Расказала, што ведае гэта ад паштаркі, якая не захацела несці такую вестку і не знайшла нікога, хто б пагадзіўся перадаць страшны трохкутнік. Гарасым упаў, Вера кінулася ў слёзы, а Галеня нібы скамянела і толькі паўтарала, што гэта няпраўда.


ФОТА З АРХІВА ВЕРЫ ФІЛОСАФ

**Камянецкія кавалеры перад вайной.** Крайні справа — Мікалай Пархоцік, які не захацеў несці ў ваенкамат курыцу, каб атрымаць адтэрміноўку на фронт па раненні і загінуў у Памераніі ў сакавіку 1945-га.

Пасля заўважылі, што паштарка ад іх хаваецца, пазбягае сустрэчы, і прабаба пайшла ў Каменец на пошту напрамую спытаць, ці ёсць ім пісьмо. Пісьмо было: «Чырвонаармеец Пархоцік Мікалай Герасімавіч загінуў у Памераніі».


ФОТА ІНЫ ХОМІЧ

**Помнік-напамін пра заснаванне Каменца** валынскім князем Уладзімірам Васількавічам.

## У сям'і было забаронена памінаць у царкве абодвух зніклых на фронце як нябожчыкаў

Рэшту жыцця (а пражыла яна 93 гады) Галеня ўсё роўна чакала сына, спадзеючыся, што адбылася страшная памылка. Хадзіла на пошту, пытала, ці няма для яе лістоў. У сям'і было забаронена памінаць у царкве абодвух зніклых на фронце як нябожчыкаў. Нават мне мама перад смерцю наказвала (а памерла яна ў 2007 годзе) не пісаць іх імёны ў памінальных запісках: «А раптам яшчэ жывыя!» — настолькі цяжка жанчынам было прыняць гэтую несправядлівую страту.


ФОТА З АРХІВА ВЕРЫ ФІЛОСАФ

**Вера Філосаф у студэнцтве.**

### Кашмар вяртаецца

Прадзед Гарасым таксама хутка пасля вайны памёр, і з мужчын у нашай сям'і не засталося зусім нікога. Жанчыны працягвалі жыць адны ў старой хаце, якая пачала працякаць. Пасля аббівання выканкамаўскіх парогаў у 1972 годзе ўдовам далі кватэру ў Каменцы, па суседстве з гарвыканкамам. Досыць доўга жылі там, але маму пачалі мучыць начныя кашмары.

Справа ў тым, што, як праз Старышова ішлі немцы, адзін з іх дзеля жарту прыставіў малой Тоні нож да горла. Яна вельмі спужалася, але пераляк адбіўся значна пазней, ужо ў дарослым жыцці. Праз сардэчнае і нервовае захворванні яна не змагла ▶

### Чаму Каменец?

Акрамя самай простай і праўдападобнай версіі, што назва «Каменец» апелюе да шчодра раскіданага ледавіком па тутэйшай зямлі камення, існуе і шмат паэтычных легендаў пра паходжанне назвы горада. Вось самая цікавая з іх. Раней камяні лічылі жывымі істотамі. Абагаўлялі, шанавалі, прыносілі ім ахвяры. Адзін з такіх камянёў ляжаў у межах сённяшняга горада Каменца. Людзі з усяго наваколля прыходзілі да яго, калі трэба было аб нечым параіцца, папрасіць дапамогі, але найчасцей прасілі ў яго хлеба. Многа камень не даваў, а бохан-другі мог застацца на яго паверхні. Для гэтага трэба было прынесці невялікую ахвяру і прашаптаць адпаведныя словы: «Камень-камянец! Дай мне на заўтра хлябец! Цяжка стала жыць — дзяцей няма чым карміць». Доўга дапамагаў камень людзям, пакуль не здарылася бяда. Знахар, які жыў у найбліжэйшай вёсцы, прыйшоў аднойчы пад вечар і стаў патрабаваць ад каменя золата: «Камень-камяніска, аддай маё залаціска». Камень і праваліўся ад абурэння разам са знахарам. З таго часу толькі назва і засталася — Каменец.



***Стовп Камынэцькій***, насуперак мясцовай прымаўцы, пакуль стаіць і звальвацца не збіраецца.

ФОТА ІНЫ ХОМІЧ

скончыць універсітэт (таксама марыла стаць настаўніцай) і не магла спакойна спаць пасля нараджэння дачкі. Прачыналася ў крыках, усё ёй падавалася, што кругом немцы.

## Прачыналася ў крыках, усё ёй падавалася, што кругом немцы

Нехта з людзей параіў кінуць кватэру і перабрацца ў драўляную хату: па народных прымхах, гэта мусіла дапамагчы ад кашмараў. Таму жанчыны прадалі кватэру з выгодамі і перабраліся ў былы габрэйскі дом у квартале гета, які значна саступаў па камфорце. Што цікава, спаць Антаніна і праўда стала лепей.

Перабіраліся са Старышова смешна. Гаргаз, дзе працавала мама, выдзеліў машыну, каб перавесці рэчы. У кабіну залезла спачатку прабаба Галеня, якой пасадзілі на рукі ката. Пасля да яе далучылася цяжарная мной мама, якой на калені далі сабаку. А баба Вера ехала ў кузаве і трымала свінню. Толькі котка адмовілася пераязджаць у горад і засталася на «маткаўшчыне». Туды яе хадзілі падкормліваць.

Прабаба памерла, як толькі я нарадзілася. А бабуля, як і абяцала, дачакалася, калі ў сям'і нарэшце з'явіцца настаўнік, яшчэ дапамагла нам з мамай ва ўнівермагу выбраць касцюм для майго першага ўрока.

А сваіх дзядоў я ўжо, канечне, памінаю. ◆

### Гісторыя ў прыказках

Цікавая і супярэчлівая гісторыя Каменца знайшла сваё адлюстраванне ў самабытнай фразеалогіі.

Напрыклад, выраз ***«мусыт, стовп Камынэцькій звалівся»*** мае значэнне ‘здарылася нешта незвычайнае’ (Камянецкі слуп — помнік архітэктуры XII стагоддзя, сімвал непахіснасці).

Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў Каменцы пражывала 500 яўрэйскіх сем'яў, або прыкладна 2500 чалавек, што складала большую частку насельніцтва мястэчка. Пасля вайны яўрэяў не стала, але памяць пра іх у мове добра захавалася.

***Як Лайзэрува курова*** кажуць пра чалавека, які не пільнуецца хаты, нешта шукае па свеце: *Іі хлопыць ныколі дома ны бувае,* ***ходыт як Лайзэрува курова***. Фразеалагізм узнік з аповеда пра карову яўрэя Лазара (Лайзэра), якая часта мінала вароты і не ішла з пашы дадому.

***<Звівся> на Іцькувуго субаку*** — пра зморанага, бледнага чалавека. *Звылася вуна з тэі руботы* ***на Іцькувуго субаку***. Фразеалагізм звязаны з гісторыяй, нібыта ў яўрэя Іцькі (Іцхака) быў сабака, якога гаспадар ніколі не карміў, і таму жывёліна была зморанай.

***На жыдувьскуго Юр'я*** — ніколі. У іўдаізме няма і ніколі не было свята Юр'я.

***Я тубі ны Хацкель, ты мні ны Пуцкель*** — розныя людзі, якія не маюць паміж сабою нічога супольнага: *Мыжы намы ныць буты ны можэ. Я тубі ны Хацкель, ты мні ны Пуцкель.*

Уплыў польскай мовы таксама прасочваецца ў фразеалогіі. Напрыклад:

***Як врона на галонці*** — адзін, адзінокі*: Стала вуна после смэрты чулувіка свуёго як врона на галонці.*

***Мыгдалув ны хватае*** — вялікая раскоша: *У Васыля всё е для сына: і машына, і хата, тулько мыгдалув ны хватае.*

***Добры жорна вшыстко змеле*** — так гавораць пра чалавека з добрым апетытам.

***Уд уднэі маткі ны удны дзяткі*** — нават пры аднолькавых умовах бываюць розныя вынікі: *Як можна всіх удінаково учыты? Навыть уд уднэі маткі ны удны дзяткі.*

***Шчо задужэ, то нэздрово*** — ва ўсім павінна быць мера.

*Прыказкі сабрала Вера Філосаф*

currency·com




# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ КРЫПТАБІРЖА


даступна больш за **1300+** рынкаў


да **10 BTC** на дэма-акаўнт


**18000+** кліентаў


**24/7** служба падтрымкі

## ПРЭСА ПРА НАС

Forbes COINTELEGRAPH coindesk

BBC The New York Times BUSINESS INSIDER



ТАА "Карэнсі Ком Бел", УНП 193130368

Токены не з'яўляюцца сродкам плацяжу, не забяспечваюцца дзяржавай і набыццё токенаў можа прывесці да поўнай страты грашовых сродкаў і іншых аб'ектаў грамадзянскіх правоў, якія перададзены ў абмен на токены (у тым ліку ў выніку валацільнасці кошту токенаў; тэхнічных збояў (памылак); здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў, уключаючы крадзеж). Раскрыццё інфармацыі аб сродку і форме ўзнагароды: рэкламная інфармацыя размешчана на платнай аснове і аплачваецца ў грашовай форме ТАА "Карэнсі Ком Бел".

## Як у ВКЛ пашыралася Літва і змяншалася Русь

# З русінаў у ліцвіны

**У мінулым нумары кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч пісаў, дзе пры Міндоўгу лакалізавалася Літва («Русь і Літва. Дзе канчалася адна і пачыналася другая?»). Цяпер ён працягвае тэму і піша, як мянялася культурнае і прасторавае ўяўленне пра гэтыя землі ў Вялікім Княстве Літоўскім пазнейшых стагоддзяў.**

### Рускі — значыць праваслаўны

За першае стагоддзе свайго існавання, з сярэдзіны XIII да сярэдзіны XIV стагоддзя, Вялікае Княства Літоўскае і Рускае трывала замацавала ў сваім складзе ўсю тэрыторыю сённяшняй Беларусі і пашырылася далей на поўдзень і ўсход.

Становішча, пра якое пісаў некалі кіеўскі летапісец Нестар, істотна змянілася, у тым ліку сам сэнс назвы «Русь». Калі раней галоўнай прыкметай Русі было знаходжанне пад уладай княскай дынастыі Рурыкавічаў, то цяпер русінаў ад навакольных народаў найбольш яскрава адрознівала не дынастыя і нават не мова, а праваслаўнае веравызнанне. Усе іх суседзі былі альбо каталікамі, як палякі і немцы-крыжакі, альбо язычнікамі, як



Літвою з часам сталі называць абшар, дзе літоўцы і русіны жылі сумесна. **На фота: від на Навагрудак з Замкавай гары.**

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

літоўцы і татары. Таму паняцці «рускі» і «праваслаўны» пачалі змешвацца, а само праваслаўе ва Усходняй Еўропе пачалі называць «рускай верай».

Для літоўца перайсці ў праваслаўе значыла часткова ператварыцца ў русіна. Гэта тычылася і літоўскіх князёў, якія прымалі хрышчэнне. Захавалася згадка пра хрысціянскае імя аднаго з братоў Гедыміна — Фёдара. Сын Гедыміна Глеб (Нарымонт), які ў розныя часы княжыў у Полацку, Вялікім Ноўгарадзе і Пінску, ужываў хрысціянскае імя ў афіцыйных дакументах і на сваёй пячатцы. Старэйшыя сыны Альгерда, якія пачалі актыўна дзейнічаць у 1350–1360-я гады, вядомыя толькі пад хрысціянскімі імёнамі: Андрэй, Дзмітрый, Уладзімір, Канстанцін, Фёдар. Напэўна, сынам Кейстута быў гарадзенскі князь з праваслаўным імем Патрык (Патрыкій).

**Паняцці «рускі» і «праваслаўны» пачалі змешвацца, а само праваслаўе ва Усходняй Еўропе пачалі называць «рускай верай»**

### Горадна становіцца Літвой

У такіх умовах адрозненне паміж Літвой і Руссю пачало страчваць этнічны сэнс. Перш за ўсё гэта праявілася ў Гарадзенскім княстве — яно Руссю не лічылася ўжо ў XIV стагоддзі. Апісваючы дзеянні Патрыкія пры абароне Горадна ў 1365 годзе, ордэнскі храніст Віганд з Марбурга дадаў, што ў наступным годзе Кейстут перавёў яго ў іншую воласць, у Рускай зямлі.

У 1379 годзе той жа Віганд апісаў маштабныя набегі крыжакоў на Рускую і Гарадзенскую землі Кейстута, якія вымусілі таго падпісаць мірнае пагадненне з ордэнам. У гэтым дагаворы сапраўды фігуруюць дзве зямлі: Руская (з гарадамі Берасце, Камянец, Ваўкавыск, Сураж, Драгічын, Мельнік, Бельск) і Гарадзенская.

Атрымліваецца, што Гарадзенская зямля адносілася да Літвы — як і сумежнае Троцкае княства, якое ў 1387 годзе вялікі князь літоўскі Ягайла, абраны польскім каралём, надаў свайму брату Скіргайлу. У адпаведным прывілеі выразна адзначаецца, што Скіргайлу надаецца «ў Літоўскай зямлі княжанне Троцкае», а таксама шэраг валасцей «на Рускай старане», сярод якіх — Менск, Лагойск (Лагожаск), Полацк і іншыя ў Падняпроўі.

Гэтак жа ў 1388 годзе Вітаўт, на той час гарадзенскі і берасцейскі князь, падараваў Віленскаму біскупству шэраг паселішчаў у землях Літвы і Русі (*in terries nostris Lythuanie et Russie*). З яго тагачасных уладанняў да Літвы можна было аднесці толькі Горадна, а Берасце, Ваўкавыск і гарады Падляшша яўна належалі да Русі, што цалкам адпавядае зместу дагавора 1379 года. Іншымі часткамі Літвы былі Віленскае княства, якое Ягайла пакінуў за сабой, і Кернаўскае, якім у 1388 годзе валодаў яго малодшы брат Вігунд-Аляксандр.

А вось Новагародская зямля ў тое першае стагоддзе ВКЛ з Літвой яшчэ не злілася. Гэта бачна, у прыватнасці, з «Літоўскага дарожніка», апублікаванага ў якасці дадатку да хронікі Віганда. У ім прыведзеныя апісанні 100 маршрутаў па Жамойці і Літве, складзеныя ў 1380–1390-я гады на падставе нататак ордэнскіх разведчыкаў і праваднікоў. ▶




▸ У гэтай крыніцы маршруты, якія праходзілі праз Гарадзенскае княства, апісваюцца сярод іншых «дарог на Аўкштайцію, ці Верхнюю Літву», без аніякіх агаворак. А вось пры апісанні двух маршрутаў, якія дасягалі Дзяляцічаў на Нёмане (пры руху з поўначы) і ракі Моўчадзь (пры руху праз Слонім), адзначаецца, што далей пачынаецца Новагародская зямля (*land Naugarden*).

## Чаму размывалася Літва?

Чыста этнічны сэнс гэтай назвы губляўся галоўным чынам таму, што чыстай Літвы да таго часу не засталося ўвогуле — у адрозненне ад Жамойці, з аднаго боку, і ад чыстай Русі ў Падзвінні, Падняпроўі і на Палессі — з другога. Нават у вузкім сэнсе Літва цяпер вызначала абшар, дзе літоўцы і русіны жылі сумесна.

Часткова гэта было звязана з пашырэннем праваслаўя сярод баяр і простага насельніцтва Літвы.

Частка праваслаўных мела літоўскае паходжанне. Віганд з Марбурга, апісваючы рабаўніцкія набегі крыжакоў на Літву, паведамляе, што ў 1363 годзе ў зямлі Пастова на мяжы Літвы з Жамойцю былі захопленыя ў палон не проста праваслаўныя і язычнікі (*Rutenos et paganos*), як у іншых выпадках, а менавіта ліцвіны і русіны (*Lithwanos et Rutenos*).

У далейшым нашчадкі русінаў у глыбіні Літвы, пераходзячы ў каталіцтва, маглі ператварацца ў літоўцаў. Літоўскія археолагі прасачылі гэта на матэрыялах Кернава. Там сярод знаходак XIII–XIV стагоддзяў ёсць мноства рэчаў, характэрных для жыхароў Русі, у тым ліку нацельныя крыжыкі ў пахаваннях. А вось у канцы XIV стагоддзя, пасля прыняцця Літвой каталіцтва ў 1386 годзе, праваслаўныя могілкі тут перастаюць дзейнічаць. Замест іх з'яўляюцца новыя могілкі пры новазаснаваным касцёле. З гэтага археолагі зрабілі выснову, што рускае насельніцтва Кернава было пераахрышчана ў каталіцтва разам з навакольнымі язычнікамі і паступова злілося з іх нашчадкамі.

У сталічнай Вільні было не так. Там руская супольнасць, ці Рускі горад (*civitas Rutenica*), упершыню прыгаданая Вігандам у 1383 годзе, пазней пастаянна падмацоўвалася прытокам новых перасяленцаў і да канца існавання

ВКЛ заставалася найбольш заможнай і ўплывовай часткай сталіцы.

### З Літвы на Русь

Перасяленне русінаў у Літву мела даўнюю традыцыю — яшчэ з часоў яе данніцкай залежнасці ад Рурыкавічаў. А вось адваротныя міграцыі — з Літвы на Русь — сталі масавымі менавіта пасля ўтварэння ВКЛ. Перасяленцы імкнуліся сяліцца кампактна, нярэдка цэлымі вёскамі. Навакольныя тубыльцы называлі іх паводле паходжання жыхароў. Адтуль і раскіданыя па ўсёй заходняй частцы Беларусі вёскі з характэрнымі назвамі: **Літва** (у Ашмянскім, Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім раёнах), **Яцвезь** ці **Ятвеск** (у Гродзенскім, Ваўкавыскім, Дзятлаўскім, Шчучынскім, Свіслацкім, Карэліцкім, Баранавіцкім, Івацэвіцкім), **Дайнава** ці **Даўноўка** (у Астравецкім, Ашмянскім, Лідскім, Воранаўскім, Іўеўскім, Валожынскім, Маладзечанскім, Мінскім, Пухавіцкім) і нават **Жомайдзь, Жамойск, Жамайдзякі, Жамайцішкі, Жамайтукі** (у Воранаўскім, Валожынскім, Докшыцкім, Івацэвіцкім).

Пра іншыя месцы кампактнага пражывання выхадцаў з Літвы сведчаць выспы каталіцкага насельніцтва сярод праваслаўнага мора, для якіх у канцы XIV — першай палове XV стагоддзя ставіліся касцёлы. Каталікамі ў гэтых мясцінах яўна сталі перасяленцы, якія да 1386 года захоўвалі язычніцтва. Самая далёкая выспа знаходзілася на Віцебшчыне, у Аболецкай воласці — касцёл у Абольцах (цяперашні Талачынскі раён) быў заснаваны ў 1387 годзе. Можна меркаваць, што перасяленцы з Літвы з'явіліся тут у часы, калі Віцебскае княства атрымаў праз шлюб з мясцовай князёўнай князь Альгерд альбо калі Віцебскам валодаў яго сын Ягайла.

Неўзабаве з'явіліся таксама касцёлы ў Гайне і Астрошыцах (цяперашні Лагойскі раён), Паланэчцы, Крошыне і Ішкалдзі (Баранавіцкі), Хоўхле і Радашковічах (Маладзечанскі), Налібаках (Стаўбцоўскі), Ваўкавыску. Яшчэ ў 1501 годзе святары з валоданнем літоўскай мовы былі патрэбныя ў касцёлах Радашковічаў, Маладзечна, Валожына, Койданава (сучасны Дзяржынск), Слоніма і Моўчадзі.




**Вёска Літва ў Стаўбцоўскім раёне.** Назва падказвае, што калісьці сярод русінаў тут кампактна пасяліліся ліцвіны.

**Назвы вёсак накшталт Літва, Яцвезь, Дайнава ці Жомайдзь сведчаць пра тое, што ў гэтых мясцінах у часы ВКЛ аселі перасяленцы з Літвы на Русь**

З часам мясціны, дзе выхадцы з Літвы на працягу XV стагоддзя больш-менш адметна прысутнічалі сярод рускага насельніцтва, пачалі адносіць да літоўскай часткі дзяржавы. Такое ўяўленне не знікала і пасля таго, як прышлае насельніцтва цалкам змешвалася з тубыльцамі. «Устава на валокі» ў 1557 годзе пералічвае дзяржаўныя воласці ў складзе ВКЛ. Пры гэтым яна асобна згадвае воласці рускія і іншыя, наўпрост літоўскімі не названыя. Пералік рускіх валасцей вельмі блізкі да таго, што быў у прывілеі Скіргайлу 1387 года, але з шэрагам істотных адрозненняў. Менск, з якога пачынаўся той пералік, цяпер сярод рускіх валасцей ужо адсутнічае, ён трапіў у склад іншых. А ў Баркулабаўскім летапісе пад 1583 годам Менск і ўвогуле выразна аднесены да Літвы.

### Межы Літвы

У XVI стагоддзі можна знайсці шэраг выпадкаў, калі некалі ▸

▶ рускія маёнткі ўжо вызначалі як літоўскія. Так, у попісе войска ВКЛ 1567 года згадваюцца конныя ваяры, якіх княгіня Чартарыйская ставіла са сваіх асноўных маёнткаў на Валыні, і асобна — з «ыменей літоўскіх: з Глушска [Глуска], з Карэліч і за ўсіх сёл, к ім прыслухаючых у павеце Навагародскім».

Гэтаксама сярод ваяроў іншага валынскага магната, князя Збаражскага, вызначаны тыя, якіх ён ставіў «з ыменей сваіх літоўскіх»: Насілава, Вязыні, Крайска і Жыціна (адпаведна ў сучасных Маладзечанскім, Вілейскім, Лагойскім і Асіповіцкім раёнах). Хоць аднясенне да літоўскіх маёнткаў Глуска і Жыціна на захадзе сучаснай Магілёўскай вобласці можна ўсё ж лічыць выпадковым, бо ў іншых крыніцах тыя самыя мясцовасці адносяцца да Русі.

Некаторыя крыніцы дазваляюць вызначыць, дзе Літва межавала з Руссю і Палессем. Так, гасцінец з Берасця ў Літву праходзіў у 1557 годзе праз Крывыя Балоты (зараз Крываблоты на поўначы Бярозаўскага раёна). Літва пачыналася, такім чынам, далей на паўночны ўсход, за Ясельдай (у Пружанскім і Івацэвіцкім раёнах). Сапраўды, івацэвіцкае Косава ў 1570 годзе згадваецца «ў Літве ў павеце Слонімскім», праз яго ездзілі «з Літвы да іменей палескіх».

На паўднёва-ўсходнім кірунку да Літвы адносілі Агарэвічы (ля Ганцавічаў, у колішняй Клецкай воласці), на поўнач адтуль — Ляхавічы. Далей на ўсход дакумент 1543 года вызначае ўжо «іменія рускія Занёманскія»: Вызну (зараз Красная Слабада ў Салігорскім раёне), Прусы і Вусава (адпаведна ў Салігорскім і Капыльскім).




**Прыдарожныя крыжы — праваслаўны і каталіцкі —** вёскі Жомайдзь Валожынскага раёна. 2019 год.

На ўсходнім кірунку Літва ахоплівала Узду і, як ужо адзначалася, Менск. Далей на поўнач мяжа Літвы прыблізна супадала з мяжой сучасных Лагойскага і Барысаўскага раёнаў, крыху на захад ад Бярэзіны, і працягвалася праз цяперашнія Докшыцкі і Пастаўскі раёны, абмінаючы з захаду Полацкую зямлю.

### Па рацэ Бярэзіне

Уяўленне пра мяжу ўздоўж Бярэзіны ўпершыню зафіксавана ў прыпісцы на палях рукапісу польскага гісторыка Яна Длугаша, зробленай, верагодна, у 1470-я гады: «Рака Бярэзіна аддзяляе Літву ад зямель Русі» (*Fluvius Brzezina Lithwaniam a tenis Russie dividit*). Неўзабаве яно своеасабліва праявілася ў міжнародных стасунках. Сакратар каралевы Боны Станіслаў Гурскі з'едліва адзначаў, што вялікі князь маскоўскі Іван III, пачынаючы ў 1490-я гады вайну са сваім зяцем, вялікім князем літоўскім Аляксандрам, «выдумаў [сабе] панаванне над усёй Руссю аж да ракі Бярэзіны — як яму хацелася бачыць, паводле колішняга дзедаўскага і прадзедаўскага права». На перамовах у Маскве ў 1549 годзе маскоўскія баяры ў чарговы раз заявілі паслам ВКЛ: «*Предки государя нашего все теми городы владели ... русскими, а рубеж был тем городом с Литовской землею по Березыню*».

Хоць значэнне гэтай умоўнай мяжы не варта перабольшваць. Паны і іх падданыя літоўскага паходжання прысутнічалі па абодва яе бакі. Прытым яны ўжывалі ў побыце старабеларускую мову (разам з літоўскай, але часам абыходзіліся і без апошняй), адрозніваючыся ад карэнных русінаў хіба што каталіцкай верай. А з канца XVI стагоддзя ўсё яшчэ больш заблыталася. Паны і літоўскага, і рускага паходжання пачалі пераходзіць на польскую мову, а рускія паны да таго ж — масава прымаць каталіцтва. Значная частка праваслаўных сялян зрабілася ўніятамі, а дзенідзе — і каталікамі. Напрыклад, у маёнтку Корань на Лагойшчыне пасля з'яўлення там касцёла ўсе мясцовыя праваслаўныя сяляне (падданыя Віленскага біскупства) былі пераведзеныя ў каталіцтва.

Такія каталікі русінскага паходжання практычна нічым не адрозніваліся ад нашчадкаў колішніх ліцвінаў-язычнікаў, якія таксама былі акаталічаныя і ўжывалі старабеларускую мову. Невялікай была і розніца паміж імі і ўніятамі.

Так паступова з розных складовых чыннікаў фармавалася новая этнічная супольнасць, якой было наканавана ў будучыні стаць асновай беларускай нацыі. ◆

# Таямніцы «панскай елкі»

**Многія думаюць, што шляхетную лістоўніцу ў Беларусь завезлі з-за мяжы. На праўдзе, мы мелі свае гаі лістоўніцы — дрэва з унікальнымі ўласцівасцямі. Піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

У многіх дзясятках, калі не сотнях, былых шляхецкіх маёнткаў, але пераважна на захадзе сучаснай Беларусі, сустракаюцца фрагменты былых алей або хаця б адзінкавыя дрэвы лістоўніцы, а часам нават невялічкія гаі. Гэта дрэва, якое не прысутнічае ў беларускім фальклоры, у народнай міфалогіі. Часта простыя людзі нават не ведаюць, што такое дрэва існуе. Мне даводзілася чытаць і чуць ад леснікоў пра выпадкі з нядаўняга часу, калі старыя і гожыя лістоўніцы спілоўвалі ўзімку, палічыўшы іх... засохлымі ялінамі. Лістоўніца хоць і хвойная расліна, але не вечназялёная — скідае іголкі на зіму.

А жыхары Ужанкі каля Нясвіжа, былога ўладання роду Бародзічаў, называюць лістоўніцу «панскай елкай». Гэтым дрэвам некалі была абсаджаная ўся алея ад панскага дома да мясцовага «касцёльчыка».

З сённяшняй перспектывы падаецца, што лістоўніца — гэта панская цацка, эстэтычная забава. Вядомы даследчык архітэктуры колішніх панскіх сядзібаў Анатоль Федарук піша: «Цікавасць да лістоўніцы як іншаземнага дэкаратыўнага віду праявілася на землях Вялікага Княства Літоўскага вельмі даўно. Першая вядомая згадка лістоўніцы датуецца 1755 годам. У садзе фальварка Гаўцэвічы маёнтка Смаргонь Гераніма Радзівіла мелася чатыры вялікія лістоўніцы». Але не падобна, што лістоўніца ў Беларусі — расліна выключна экзатычная і выключна дэкаратыўная.

**«Гэтае дрэва перасягае прыгажосцю ўсе астатнія іглічныя дрэвы нашых лясоў»**




**Паглядзіце, як прыгожа цвіце еўрапейская лістоўніца!** Да таго ж у Еўропе яна лічыцца самай хуткарослай хвойнай пародай. Хуткасць росту тлумачыцца яе працяглым вегетацыйным перыядам, які ва ўмовах Беларусі доўжыцца больш за 180 дзён у годзе. І найбольшай колькасцю дзён росту: у Беларусі ў сярэднім каля 80 дзён за сезон, тады як у хвоі звычайнай — каля 47, а ў яліны — 45.

## «Стары дом з лістоўніцы на каменнай падмуроўцы»

То тут, то там давялося сустракаць звесткі пра панскія дамы і касцёлы, пабудаваныя з лістоўніцы. Напрыклад, стары сядзібны дом Рушчыцаў у Багданаве, у якім нарадзіўся славуты мастак Фердынанд Рушчыц, быў пабудаваны каля 1690 года — і менавіта з лістоўніцы. Ужо ў канцы XIX стагоддзя сям'я пабудавала і мураваны дом, але неяк у выніку жыць там падалося няўтульна (хоць студыю Рушчыц пазней уладкаваў менавіта ў ім). Стары дом з лістоўніцы мастак часта з любоўю маляваў на сваіх карцінах.

А вось Станіслаў Аўгуст Панятоўскі з маёнтка Воўчын, шлюбнага пасагу ягонай маці Канстанцыі з Чартарыйскіх, нарадзіўся чамусьці не ў палацыку з лістоўніцы, а ў мураваным будынку архіва (пазней бібліятэкі). Дагэтуль гісторыкі гадаюць, чаму яго маці вырашыла нараджаць там. Але ж так ці інакш, а першы сапраўдны дом апошняга караля Рэчы Паспалітай — таксама з лістоўніцы.

Яшчэ адна славутасць, якой выпаў гонар нарадзіцца ў доме з лістоўніцы, — Юзаф Пілсудскі, народжаны ў маёнтку Жулава на Свянцяншчыне, на самай мяжы з сучаснай Беларуссю, у 1867 годзе. «На невялікім пагорку, атачаным паўколам рэчкі Мера і старымі дрэвамі, узвышаўся стары дом з лістоўніцы на каменнай падмуроўцы, з невялікім зашклёным ганкам, накрыты высокім гонтавым дахам», — апісвае радавое гняздо Пілсудскага даследчык Ежы Струміла.

Здаецца, маёнтак Жулава згарэў у 1875 годзе. Дый адноўлены ў 1930-х дом-музей Пілсудскага не перажыў савецкую ўладу ў Літве. Рушчыцаў Багданаў згарэў у ліпені 1944-га пры адступленні нацыстаў. І, наколькі вядома гісторыкам архітэктуры, на сёння ў Беларусі не засталося ніводнай гістарычнай пабудовы з лістоўніцы. Дый увогуле, праўду кажучы, ці шмат драўляных шляхецкіх сядзібаў дажыло да нашых дзён!?

Але дзве высновы з усіх гэтых урыўкавых звестак я ўсё ж вынес. Па-першае, будаўніцтва з лістоўніцы было даволі шырока распаўсюджана ў нас задоўга да сярэдзіны XVIII стагоддзя. А па-другое, самой лістоўніцы ў распараджэнні шляхецкіх сем'яў сярэдняй рукі мелася дастаткова для пабудовы досыць вялікіх сядзібных дамоў. То няўжо яны будавалі іх з інтрадукаванага экзатычнага дрэва?

## Перасягае прыгажосцю

Тут трэба ўнесці яснасць: шырока вядомая нам з савецкай літаратуры і папулярнай культуры лістоўніца сібірская (*Lárix sibírica*) — сапраўды экзатычны для нас від. Калі яна і расце ў нас, дык адзінкавымі экзэмплярамі, вырашчанымі з саджанцаў.

А вось іншае дрэва з таго самага роду, лістоўніца еўрапейская, гадоў са 150–180 таму яшчэ была ў нас даволі звычайным відам, хоць, відаць, і не з першага паводле распаўсюджанасці дзясятка. У гэтым можна пераканацца, калі звярнуцца да літаратуры па лясной гаспадарцы сярэдзіны XIX стагоддзя. Выдадзенае ў 1854 годзе ў Варшаве «Апісанне лясоў Каралеўства Польскага і заходніх губерняў Расійскай імперыі» засведчыла, што невялікія натуральныя гаі лістоўніцы на той момант сустракаліся аж да поўдня сучаснай Літвы.

І што яшчэ больш каштоўна, лістоўніца апісваецца як усім знаёмае мясцовае дрэва ў «Зельніку эканамічна-тэхнічным» Юзафа Геральда-Выжыцкага (1845), надрукаваным у той самай ▸




**Дом у Багданаве.** Карціна Фердынанда Рушчыца. 1901 год.

► віленскай друкарні Завадскага, дзе пабачылі свет сотні іншых славутых «ліцвінскіх» кніг XIX стагоддзя.

Вось цытата адтуль: «Гэтае дрэва перасягае прыгажосцю ўсе астатнія іглічныя дрэвы нашых лясоў. З-за многіх каштоўных уласцівасцяў у новыя часы яно звярнула на сябе асаблівую ўвагу лясных адміністрацый... У вадзе і глебе яно становіцца чорным і цвёрдым, амаль як жалеза, настолькі, што, калі дрэва, якое праляжала ў вадзе 80 гадоў, паспрабавалі распілаваць, у пілы ламаліся зубы. Па гэтай прычыне яно прыдатнае для будаўніцтва караблёў... Піламатэрыялы і гонт, выробленыя з яго, пераважываць любыя іншыя, таму што смала, якой яны прасякнутыя наскрозь, захоўвае і ад уплыву вільгаці, і ад пашкоджання насякомымі».

### Лістоўніца Міцкевіча

Самае красамоўнае і сімвалічна насычанае сведчанне пра лістоўніцу ў гістарычнай Літве, у тым ліку сучаснай Заходняй Беларусі, належыць вялікаму Адаму Міцкевічу, але для беларусаў, на жаль, яно пры перакладзе страчанае.

Лістоўніца выступае своеасаблівым героем аднаго з самых вядомых твораў паэта — балады «Свіцязянка». Менавіта пад ёй на беразе Свіцязі хлопец клянецца ў вечным каханні дзяўчыне:

> Każdą noc prawie, o jednej porze,
> Pod tym się widzą modrzewiem.

Калі перакласці даслоўна, то гучыць гэта так: «Кожную ноч у адну пару бачацца пад той лістоўніцай». А ў фінале паэмы, пасля гібелі нявернага юнака, які ўтапіўся, спакушаны Свіцязянкай, ягоная душа знаходзіць прытулак у той самай лістоўніцы. На жаль, у беларускім перакладзе Алеся Зарыцкага лістоўніца — *modrzew* — ператварылася ў ясакар:

> Месяца іх стрэч — ясакар таямнічы,
> Што шалясціць каля гаю.
> Хлопец — тутэйшых лясоў паляўнічы,
> Дзеўчына хто? Я не знаю.

Гэта пазбаўляе беларусаў разумення важнага сімвалічнага моманту: паводле вераванняў многіх народаў, лістоўніца была месцам прытулку для душаў людзей, якія загінулі звышнатуральнай смерцю. Магчыма, гэта было звязана з тым, што шмат якія народы прыносілі перад лістоўніцамі чалавечыя ахвяры.

З іншага боку, лістоўніца, дрэва з самым хуткім сярод іглічных ростам, — сімвал маладосці, жыццёвай сілы, што надае сюжэту балады дадатковы кантраст і драматызм. Таму лістоўніцу на беразе возера часта малююць ілюстратары «Свіцязянкі».

Зрэшты, і сёння нашы заходнія суседзі ставяцца да лістоўніцы з вялікай пашанай. Славуты польскі мастак, нашчадак старадаўняга літоўскага роду Анджэй Струміла (1927–2020), калі ў сярэдзіне 1980-х асеў у Мацьковай Рудзе на Падляшшы, пабудаваў сабе з лістоўніцы вялікі дом-майстэрню ў стылі шляхецкай сядзібы. Бо менавіта з лістоўніцы, на яго думку, мусіць быць пабудаваны сапраўдны шляхецкі дом.


WIKIMEDIA COMMONS

**Ілюстрацыя Юліяна Фалата да паэмы «Свіцязянка».**

### На ёй стаіць Венецыя

У Еўропе распаўсюджаная і шырока выкарыстоўваецца ў садаводстве лістоўніца еўрапейская. Гэта, бадай, самая буйная з лістоўніц: старыя 200–300-гадовыя дрэвы дасягаюць у Альпах 50 метраў у вышыню і 2 метры ў дыяметры. Менавіта на пáлях з гэтай лістоўніцы стаіць Венецыя, бо драўніна ўсіх лістоўніц не гніе ў вадзе і да таго ж настолькі шчыльная, што тоне (гл. пра гэта падрабязней у артыкуле Андрэя Дзмітранка ў № 2/2020 «Нашай гісторыі»).
Смалу-жывіцу гэтага дрэва называюць «венецыянскай смалой» і яе выкарыстоўваюць для вырабу найбольш якасных і трывалых мастацкіх фарбаў. Іх вельмі любілі, у прыватнасці, Рубенс і Рэмбрант. А славуты Рафаэль Санці з Урбіна любіў малюваць свае карціны на дошках лістоўніцы. На зрэзе такая драўніна чырвона-жаўтаватая, смалістая, тэкстурай трохі нагадвае дуб.

### Закладзеная Незабытоўскім

Выкарыстоўваць еўрапейскую лістоўніцу пры будаўніцтве звычайных будынкаў даволі цяжка. Яе камлі з узростам часта набываюць форму




**Шляхетная майстэрня Анджэя Струмілы, пабудаваная з лістоўніцы.** Па смерці мастака тут працягвае працаваць ягоная галерэя.

гіганцкага штопара або вінта. Гэтай скручанасці пазбаўленая лістоўніца польская (*Lárix polonica*), найбольш распаўсюджаная ў Паўночных Карпатах. Адныя вучоныя лічаць яе асобным відам, іншыя — падвідам лістоўніцы еўрапейскай. Менавіта роўныя камлі і сталі прычынай таго, што гэты від быў практычна знішчаны пад гаспадарчыя патрэбы. Толькі ў паўночнай Славакіі засталося некалькі соцень дарослых дрэў гэтага віду. Пад аховай яна і ва Украіне.

Магчыма, лістоўніца польская расла і выкарыстоўвалася ў будаўніцтве таксама і ў Беларусі. Але, відаць, большасць экзэмпляраў да апошняй траціны XIX стагоддзя былі зведзеныя і захаваліся толькі ў выглядзе прысадаў і асобных дрэваў, якія ўладальнікі маёнткаў высаджвалі ў парках.

Што да еўрапейскай лістоўніцы, то ў Беларусі сустракаюцца і адносна вялікія яе пасадкі, і, магчыма, рэшткі старадаўніх натуральных лістоўнічных гаёў. Напрыклад, з 1984 года існуе лесанасенная плантацыя пад Глыбокім. З атрыманага на месцы, а таксама закупленага ў Польшчы насення высаджваюцца ўсё новыя пасадкі на тэрыторыі Глыбоцкага доследнага лягаса.

А адна з самых вялікіх пасадак еўрапейскай лістоўніцы ў Беларусі, плошчай каля 1,6 га, знаходзіцца ў Моўчадскім лясніцтве Баранавіцкага лягаса, каля вёскі Андрэеўцы. Яна нават з'яўляецца батанічным помнікам прыроды рэспубліканскага значэння. Гэты гай з лістоўніц, як лічыцца, амаль 150 гадоў таму пасадзіў мясцовы землеўладальнік Незабытоўскі. Можа быць, гэта працяг непарыўнай натуральнай пераемнасці гэтага віду ў Беларусі?

Усяго ж у адным толькі Баранавіцкім лягасе сёння ўжо каля 20 гектараў лістоўніцы. Паўстае задача істотнага пашырэння пасадак гэтага дрэва ў маштабах усёй краіны, асабліва каб падстрахаваць наяўны фонд елкі. Апошнія гады яна часта робіцца ахвярай хваробаў і засыхае. І патрэбная большая відавая разнастайнасць ляснога фонду, тым больш што прадуктыўнасць лістоўніцы — больш як удвая вышэйшая.

Хоць цяжка сказаць, як хутка прамысловыя плантацыі лістоўніцы будуць звыклай рэальнасцю Беларусі. На сёння стабільна атрымліваць яе насенне ў Беларусі яшчэ не зусім навучыліся.

Але хоць у нас даўно не засталося колішніх паноў, часам і звычайныя жыхары беларускай правінцыі сёння вырошчваюць лістоўніцу ў сябе на падворках з чыста дэкаратыўных, сімвалічных меркаванняў. Як, напрыклад, аўтар гэтых радкоў. ◆




**Гонкая і стромкая лістоўніца польская** — ідэальная для даўгавечнага будаўніцтва, праз што амаль зніклая з зямной флоры.




Сёння **парэшткі дзяўчыны з Эгтведа** экспануюцца ў Нацыянальным музеі Даніі ў Капенгагене.

# «Дзяўчына з Эгтведа»

## Жаночая гісторыя з бронзавага веку

**Першыя пісьмовыя звесткі пра жыхароў Паўночнай Еўропы з'яўляюцца толькі ў рымскую эпоху, таму пра тое, як жылі людзі да гэтага часу, мы можам меркаваць толькі з археалагічных звестак. Раней такая акалічнасць рабіла гэтую эпоху «нямой». Сёння ж, дзякуючы новым адкрыццям і пастаяннаму ўдасканаленню методык аналізу знаходак, людзі, якія тады жылі, набываюць голас і магчымасць расказаць нам свае гісторыі. Пра адну такую гісторыю «дзяўчыны з Эгтведа» расказвае Аляксей Казленка.**

Пахаванне «дзяўчыны з Эгтведа» ў Даніі было выяўлена ў 1921 годзе пры зносе кургана Сторэхёй вышынёй 4 метры і шырынёй 30 метраў. Знаходка была цалкам выпадковай. Мясцовы фермер проста вырашыў разраўняць сваё поле і ўжо заканчваў працу, калі рыдлёўка ўдарыла аб вечка труны з суцэльнай дубовай калоды.

Гаспадар неадкладна паведаміў пра сваю знаходку ў Нацыянальны музей у Капенгагене. Каманда археолагаў прыбыла на месца і з усімі неабходнымі мерамі засцярогі раскапала магілу. Труну дасталі з зямлі і даставілі ў музей.

Калі труну адкрылі, усярэдзіне яе археолагі знайшлі парэшткі дзяўчыны ў суправаджэнні небагатага пахавальнага скарбу. З-за кіслотных асаблівасцяў глебы, у якой было зроблена пахаванне, косці шкілета, скура і мяккія тканкі цалкам зніклі. Але пры гэтым добра захаваліся зубы, валасы і пазногці нябожчыцы, ваўняная вопратка, у якую яна была апранутая, а таксама дробныя спадарожныя прадметы, якія суправаджалі яе ў магілу.




**Месца нараджэння і месца смерці «дзяўчыны з Эгтведа».**

Дзяўчыне было ў момант смерці ад 16 да 20 гадоў, яна была ростам 160 см, мела стройную постаць, доўгія светлыя валасы, здаровыя зубы і добра дагледжаныя пазногці. Апранутая яна была ў свабодную ваўняную блузу з рукавамі да локця, а таксама кароткую спадніцу са скураных шнуроў. Дзяўчына расчэсвала валасы касцяным грэбенем і ўкладала іх у тонкую плеценую сетку. У адным вуху яна насіла завушніцу, а на запясцях – бронзавыя бранзалеты. На таліі быў ваўняны пояс з бронзавым дыскам, упрыгожаным спіралепадобным арнаментам.

У труне цела дзяўчыны было пакладзена на валовую шкуру і накрыта зверху ваўнянай коўдрай, нібыта яна проста спала. У нагах было пастаўлена невялікае

### Дзяўчына жыла 3400 гадоў таму

У 1990 годзе быў зроблены дэндрахраналагічны аналіз драўніны труны, які паказаў, што дуб, з якога яна была зроблена, ссеклі каля 1370 года да н. э. Метад дэндрахраналогіі заключаецца ў тым, каб параўноўваць шырыню гадавых кольцаў старажытных дрэў і такім чынам датаваць час іх жыцця. Сённяшняя навука дазваляе пры наяўнасці неабходных зыходных матэрыялаў будаваць дрэўна-кальцавыя храналогіі для асобных парод дрэва і рэгіёнаў на цэлыя тысячагоддзі. Для Даніі дэндрахраналагічная шкала пабудаваная да самай эпохі неаліту (позняга каменнага веку).

берасцяное вядро з піўным напоем. Ля галавы знаходзілася берасцяная скрыначка з крэміраванымі парэшткамі пяці- ці шасцігадовага дзіцяці. Кім было гэтае дзіця і чаму яно пахавана з дзяўчынай у адной труне, невядома. Затое відавочна, што дзяўчыну з Эгтведа пры яе жыцці любілі. Бо перш чым зачыніць вечка труны, хтосьці паклаў зверху на коўдру кветку крываўніка.

### Датчанка родам са Шварцвальда

Незвычайны характар эгтведскага пахавання адразу прыцягнуў да яго шырокую ўвагу грамадскасці. Вобраз «дзяўчыны з Эгтведа» быў шырока растыражаваны ў навукова-папулярных выданнях, стаўшы адным з сімвалаў бронзавага веку Паўночнай Еўропы. Але пры гэтым навукоўцы не так ужо і шмат ведалі тады пра гераіню гэтага буму. Доўгі час дзяўчына з Эгтведа лічылася датчанкай, аднак гэтая прыналежнасць заставалася толькі версіяй.

Урэшце, па меры развіцця навукі, вучоныя змаглі заняцца пытаннем паходжання дзяўчыны больш сур'ёзна. Праўда, зробленая ў 2012 годзе спроба міжнароднай каманды даследчыкаў атрымаць ДНК з валасоў дзяўчыны не мела поспеху. Бо ўсе сляды ДНК былі разбураныя тым самым кіслотным асяроддзем, якое адначасова паспрыяла захаванню пералічаных вышэй парэштkaў нябожчыцы для навукі.
Што добра для аднаго – кепска для іншага.

**Дзяўчына з дацкага Эгтведа нарадзілася і вырасла за сотні кіламетраў ад месца свайго пахавання – у Шварцвальдзе на паўднёвым захадзе сучаснай Германіі**

Рук навукоўцы, аднак, не апускалі. І ўжо праз тры гады, у 2015 годзе, прафесар Карын Маргарыт Фрэй, старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага музея Даніі, здолела атрымаць з зубной эмалі дзяўчыны з Эгтведа ізатопы стронцыю-86 і -87. Вынікі іх апрацоўкі даюць археолагам велізарныя магчымасці. Бо гэтыя ізатопы трапляюць у арганізм разам з вадой ды раслiннай ежай і паступова назапашваюцца ў зубной эмалі. У дзяцінстве зубная эмаль мінералізуецца і ўжо не перажывае далейшых зменаў. А паколькі ўласцівасці



**Рэканструкцыя курганнага пахавання бронзавага веку.**

ізатопаў у розных мясцовасцях істотна вар'іруюцца, то яны, калі здолець іх атрымаць з эмалі, могуць расказаць нам пра тое, дзе чалавек з'явіўся на свет і правёў раннія гады дзяцінства.

Вынікі апрацоўкі і аналізу атрыманых дадзеных дзяўчыны з Эгтведа аказаліся для навукоўцаў даволі нечаканымі. Высветлілася, што на самай справе яна была іншаземкай, якая нарадзілася і вырасла ў Шварцвальдзе, на тэрыторыі сучаснай паўднёва-заходняй Германіі. Аналагічныя вынікі былі атрыманыя для знойдзенай у дубовай труне валовай шкуры і ваўнянага адзення, у якое была апранутая дзяўчына.

А далейшыя даследаванні падрыхтавалі для навукоўцаў некалькі новых сюрпрызаў. Унікальную інфармацыю пра апошнія 23 месяцы яе жыцця далі доўгія валасы дзяўчыны. Паколькі валасы растуць з пастаяннай хуткасцю, прыкладна 1 сантыметр у месяц, па ўзятых з іх ізатопах стронцыю навукоўцы ▶

атрымалі магчымасць вызначыць, дзе яна правяла гэты час. Аказалася, што на працягу 23 месяцаў дзяўчына зрабіла па меншай меры два далёкія падарожжы паміж паўднёвай Германіяй і Даніяй.

Хімічны склад зубной эмалі дзяўчыны з Эгтведа паказаў таксама, што ў дзяцінстве яе харчаванне было недастатковым і ў ім адчуваўся недахоп мяса і іншых крыніц бялку. А вось пасля замужжа і пераезду ў Данію дзяўчына стала харчавацца значна лепш, у яе рацыён у гэты час уваходзіла нямала прадуктаў, прывезеных здалёк. Усё гэта сведчыць як пра багацце яе новай сям'і, так і пра наяўнасць развітых гандлёвых сувязяў у Еўропе часоў бронзавага веку.

WIKIMEDIA COMMONS

**Адзенне дзяўчыны з Эгтведа** складалася з ваўнянай блузы з кароткімі рукавамі і спадніцы са скураных шнуроў. На таліі яна насіла тканы пояс з упрыгожаннямі ў выглядзе кутасаў.

## Замуж за мяжу

Мяркуючы па характары пахавання, дзяўчына з Эгтведа належала да вярхоў грамадства. Таму гісторыю яе кароткага жыцця трэба разглядаць у сувязях, якія аб'ядноўвалі ў гэты час знаць паўднёва-заходняй Германіі і Даніі.

Вядома, што Данія ў эпоху бронзавага веку была крыніцай бурштыну, які высока цаніўся па ўсёй Еўропе і за яе межамі. Упрыгожанні з бурштыну археолагі знаходзяць у мікенскіх шахтавых грабніцах у Грэцыі, на старажытным Блізкім Усходзе і нават у Егіпце. З іншага боку, з Германіі на поўнач Еўропы паступала большая частка бронзы, як у выглядзе зліткаў, так і гатовых вырабаў.



**Бурштынавыя кара́лі.** Нацыянальны музей археалогіі ў Афінах.
Упрыгожанні з бурштыну высока цаніліся ў Еўропе і на Блізкім Усходзе. Экспарт бурштыну забяспечваў паступленне ў Данію дарагой бронзы і іншых рэдкіх рэсурсаў.

**Значнай частцы дзяўчат даводзілася пакідаць радзіму і пераязджаць да мужа, часам далёка-далёка**

Шлюбныя сувязі нярэдка выкарыстоўваліся для таго, каб надаць трывалую форму дзелавым інтарэсам партнёраў, якія жылі ўздоўж шляхоў гандлёвых камунікацый. Дзяўчына са Шварцвальда, выдадзеная замуж за сотні кіламетраў ад месца яе нараджэння, відаць, была свайго

## Выкраданне жонак

Шлюбы ў тыя часы далёка не заўсёды былі добраахвотнымі, жанчын нярэдка і выкрадалі. Самая знакамітая легендарная гісторыя такога кшталту звязаная з выкраданнем сабінянак (сабіны – старажытны народ на тэрыторыі сённяшняй Італіі) рымлянамі. Заснавальнік горада Ромул нібыта зладзіў спартыўнае свята, паглядзець на якое збіраліся жыхары суседніх сабінскіх грамад. У пэўны момант па сігнале Ромула рымскія юнакі пачалі хапаць незамужніх дзяўчат-сабінянак, якіх пасля зрабілі сваімі жонкамі. Сваякі тых дзяўчат неўзабаве сабралі войска і пайшлі на Рым вайной. Але выкрадзеныя сабінянкі да таго часу цалкам прымірыліся са сваім лёсам, рымскія мужчыны адпавядалі іх густам. Таму ў разгар бітвы яны выбеглі на поле бою і развялі сваіх мужоў ды сваякоў, прымусіўшы іх памірыцца.



PINTEREST.RU

**Касцюм дзяўчыны з Эгтведа некалькі разоў рэканструяваўся.** Адна з рэканструкцый выстаўляецца ў Нацыянальным музеі Даніі.

роду зарукай выканання яе сваякамі абавязкаў у дачыненні да сваякоў мужа. Сярод знаці падобныя шлюбы ў тую эпоху зусім не былі рэдкасцю. У той жа час у дзяўчат, якія належалі да менш статуснай групы, відаць, было менш магчымасцяў для такіх далёкіх падарожжаў. Але вынікі праведзеных даследаванняў сведчаць, што ім таксама рэдка даводзілася сядзець на месцы.

Нядаўна спецыялісты з нямецкага Інстытута сусветнай гісторыі Таварыства Макса Планка правялі аналіз ізатопаў стронцыю ў зубах 118 жыхароў даліны ракі Лех у Германіі, пахаванні якіх адносяцца да эпохі паміж 2750 і 1300 гадамі да н. э. Яны выявілі, што большасць мужчын і хлопчыкаў звычайна былі мясцовымі, у той час як значная частка жанчын, старэйшых за 15–17 гадоў, паходзілі з іншых месцаў. Гэтае размеркаванне звязана з патрылакальным характарам грамадства, з забаронай на шлюбы ўнутры грамады. Таму пасля дасягнення шлюбнага ўзросту значнай частцы дзяўчат даводзілася пакідаць радзіму і пераязджаць да мужа на новае месца жыхарства.

Толькі ў адным выпадку даследчыкам удалося знайсці пахаванні генетычна роднасных адна адной жанчын. Пры гэтым сваяцтва па мужчынскай лініі ім звычайна ўдавалася адсачыць на працягу чатырох-пяці пакаленняў. Але этнаграфічныя паралелі дазваляюць выказаць здагадку, што гэтыя перамяшчэнні звычайна былі значна карацейшыя, чым у дзяўчыны з Эгтведа, і ажыццяўляліся ў 20–30-кіламетровай акрузе аднаго рэгіёна. ◆

**Гісторыя Купалаўскага тэатра. Эпоха. Горад, Людзі. The History of the Kupala Theatre the Epoch. The Ciye. The People /** Аўтары тэксту: В. У. Бабкова, К. П. Яроміна, Д. Д. Ермаловіч-Дашчынскі, В. М. Ярмалінская, А. В. Масквін; прадмова П. П. Латушкі. — Мінск: Беларусь, 2020. — 258 с.

Шыкоўнае выданне на беларускай і англійскай мове выйшла да 100-годдзя Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, якое мелася адзначацца восенню гэтага года. Яно багата ілюстравана, у ім выкарыстаны ўнікальныя фота з архіваў самога тэатра, Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, са збору Нацыянальнага гістарычнага музея, з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. Нацыянальнага мастацкага музея, са шматлікіх асабістых архіваў.

Усім сваім зместам кніга падкрэслівае, што нацыянальны тэатр ва ўсе часы быў месцам стварэння нацыі, роля Купалаўскага ў гэтым унікальная. Выдадзены ў сярэдзіне жніўня накладам 500 асобнікаў зборнік мае ўсе шанцы стаць бібліяграфічнай рэдкасцю.

Кнігу можна пакуль набыць у мінскай кнігарні «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72).



# «Сары 19. Куды табе да яе!»

## Прастытуцыя ў міжваенным Брэсце

**У Берасці за польскім часам прастытутак арыштоўвалі, ставілі на ўлік. Але ўсё роўна гэта быў даволі распаўсюджаны занятак, піша Ірына Ваўранюк.**

Прастытуткі ў Берасці вяліся даўно. Асабліва ў перыяды, калі ў горадзе стаяла шмат вайскоўцаў.

У 1919 годзе толькі на цяперашняй вуліцы Савецкай (былой Дамброўскага) было два прыхаваныя публічныя дамы з 15 працаўніцамі сэкс-індустрыі ў кожным. А колькі жанчын яшчэ працавала самастойна!

Прапаноўвалі сэкс-паслугі берасцейскія жанчыны і падчас Першай сусветнай. Але паколькі горад перад адступленнем быў разбураны рускімі войскамі, а яго жыхары выгнаныя ў бежанства, то гэтай прафесіяй займаліся ў асноўным тыя, хто ехаў услед за нямецкім войскам. Гэтак жа ўслед за войскам яны і адступілі. Але нехта і застаўся — як немка фраў Марта, якая паважна шпацыравала па вуліцах Берасця яшчэ ў 1919 годзе. Але яна гэтак дорага цаніла свае паслугі, што ўсё адно вымушана была хутка з'ехаць у Варшаву, каб не памерці з голаду.

На месца тых вайсковых прастытутак услед за польскімі



ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Гледзячы на сціплую, зробленую, напэўна, уласнымі рукамі, вопратку, можна зрабіць выснову, што **брэсцкія прастытуткі-габрэйкі не раскашавалі.**

жаўнерамі прыехалі «паненкі» з Польшчы. Адгукнуліся на попыт рынку і бедныя мясцовыя дзяўчаты, хоць такіх было значна менш.

## Спроба палічыць і ўлічыць

Польская паліцыя бачыла ў шырокім распаўсюдзе прастытуцыі пагрозу маральным нормам, таму перыядычна рабіла захады, хоць і даволі нерашучыя, каб яе спыніць ці прынамсі ўзяць пад кантроль.

Першая такая кампанія мела месца ў 1919 годзе, калі польская ўлада толькі-толькі прыняла на сябе кіраванне горадам. Прынятыя меры выглядалі так: прастытутак арыштоўвалі, абследавалі, заводзілі ўліковыя кніжкі, абавязвалі раз на тыдзень звяртацца да доктара, калі была неабходнасць — прымусова лячылі. З дапамогай анкет збіралі пра жанчын сэкс-індустрыі процьму інфармацыі, уключна з веравызнаннем і колькасцю зубоў у роце. Напрыклад, у анкеце Фейгі Голдфарб запісана, што ў яе ўсе зубы, а вось у анкеце Цырлі Сакольскай — «усяго 20 зубоў». Узяўшы на аловак Суру Хандлан, не забыліся адзначыць пра яе залаты зуб.

Займалася кантролем за прастытуткамі і санітарна-побытавая камісія магістрата Берасця ва ўзаемадзеянні з органамі аховы здароўя. Менавіта яна распрацавала «Правілы для асоб, якія займаюцца прастытуцыяй». Жанчынам прадпісвалася не толькі пастаянна праходзіць санітарна-медычны кантроль, але таксама забаранялася гуляць па вуліцах пасля 24.00, здымаць кватэру паблізу касцёлаў і выхаваўчых устаноў, уступаць у палавы кантакт з непаўналетнімі, наведваць вайсковыя казармы, аддаваць сваю кватэру для заняткаў прастытуцыяй, здымаць кватэру ў доме, дзе ўжо жывуць дзве асобы, якія стаяць на ўліку ва ўпраўленні здароўя, і іншае.

Прастытутку маглі зняць з паліцэйскага і санітарнага кантролю, калі яна на працягу 6 месяцаў не займалася сваім рамяством ці выйшла замуж. Калі ж прастытутка ўладкоўвалася на пастаянную працу, то яе маглі перавесці ў катэгорыю «асоб, якія не займаюцца прастытуцыяй прафесійна».

Зрэшты, зусім забараняць прастытуцыю польскія ўлады не збіраліся. Пра што гаворыць, напрыклад, паліцэйскі загад ад усё таго ж 1919 года. Першы яго пункт вымагаў зачыніць усе публічныя дамы, але другі дазваляў жанчынам сустракацца з кліентамі на прыватных кватэрах «і пад наглядам». Нагляд меўся на ўвазе санітарны.

Паколькі гэта дапамагло вельмі слаба, то наступным этапам барацьбы з прастытуцыяй былі мерапрыемствы ў гасцініцах. Усіх уладальнікаў гатэляў і начлежных дамоў абавязалі з’явіцца ў паліцэйскі ўчастак і падпісаць заяву: «Мы, ніжэйпадпісаныя ўладальнікі гасцініц і гатэляў, выганім прастытутак ▶


ФОТА АЛЯКСАНДРА КАЙГАНКО, KP.BY

**Сучасная Савецкая, у польскі час — вуліца Дамброўскага.** Менавіта тут была самая вялікая канцэнтрацыя прастытутак у Берасці.


Książka kontroli
Komisji Sanitarno-Obyczajowej
w Brześciu n-B.
№ 104
Dla [redacted]
Helena
Dnie oględzin lekarskich
wtorki i piątki
Wydana Brześć n-B.,
d. 2/III 1926 r.
m. p.
Druk. B. Ginzburga Brześć n-B.

В. САРЫЧЕВ. В ПОИСКАХ УТРАЧЕННОГО ВРЕМЕНИ. КН. 4.

**Санітарная кніга прастытуткі з Берасця.**

і не будзем здаваць ім пакоі». Праўда, з 21 уладальніка падпісалі гэты дакумент усяго 14. Астатнія, відаць, не хацелі пазбаўляцца пастаяннага даходу ад прастытутак і іх кліентаў.

### Полькі і габрэйкі

У кожнай злоўленай паліцыяй і ўзятай на ўлік прастытуткі была ўліковая картка з анкетай, а на руках санітарная кніжка, у якой лекар штотыдзень павінен быў уносіць адзнакі пра візіты. У 1923–1925 гадах у «Кнізе ўліку прастытутак, якія пражываюць у Берасці» значылася 210 жанчын — гэта на 30-тысячны горад. Рэальна іх было, вядома, больш, бо ўсіх пагалоўна ўлічыць было немагчыма.

Кім былі гэтыя жанчыны?

**Аказаннем сэкс-паслуг займаліся пераважна полькі і габрэйкі, якія між сабой пастаянна канкуравалі**



ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

**Рохля-Лея з Вільні** падчас працы з кліентам надзявала сукенку гімназісткі і магла душэўна чытаць вершы.

Калі меркаваць па паліцэйскіх анкетах, беларусак і ўкраінак (часцей за ўсё іх вызначалі на падставе праваслаўнага веравызнання) у гэтай прафесіі было менш за 1% — аказаннем сэкс-паслуг займаліся пераважна полькі і габрэйкі, якія між сабой пастаянна канкурыравалі. Дарэчы, міжваеннае Берасце якраз і насялялі пераважна габрэі і палякі. Габрэяў увогуле было больш за 50%, большасць з якіх зусім не багатыя.




За польскім часам прастытуткі працавалі ў асноўным у гасцініцах або прымалі кліентаў дома.

Узрост прастытутак быў розным: ад 18 гадоў да 32. Найбольшай папулярнасцю карысталіся ў кліентаў, як гэта звычайна бывае, маладзейшыя альбо тыя, хто здзіўляў кліентаў чымсьці незвычайным. Напрыклад, прастытутка па імені Рохля-Лея падчас працы з кліентам надзявала сукенку гімназісткі і магла душэўна чытаць вершы.

А прастытутка Лея Грын выконвала рамансы. Пры гэтым яна сцвярджала, што атрымала музычную адукацыю і магла б зрабіць кар'еру спявачкі, але польскі афіцэр у 18 гадоў разбіў ёй сэрца, павёз з роднага дому і, не ажаніўшыся, кінуў на волю лёсу. Так яна нібыта і стала прастытуткай, бо вярнуцца ў родны габрэйскі дом не магла.

Гэта цалкам магло быць праўдай. Прастытуцыя ў габрэйскім асяроддзі лічылася ганебнай справай, і бацькі прылюдна адмаўляліся ад сваіх дачок, калі даведваліся пра іх занятак. Прастытуткам забаранялася ўваходзіць у сінагогу або малітоўны дом, карыстацца міквай (рытуальнай лазняй для іўдзеяў). Дзецям забаранялася нават размаўляць з прастытуткамі на вуліцах. А гаворкі пра тое, каб пусціць у прыстойны габрэйскі дом прастытутку, і быць не магло. Гэтыя жанчыны рабіліся ізгоямі.

Што датычыцца нешматлікіх беларусак-прастытутак, то, напрыклад, Наталля Халвік з вёскі Медна Берасцейскага павета на свой заробак пасля смерці бацькоў утрымлівала дзвюх сваіх малалетніх сясцёр, якія засталіся на апецы старэйшага брата.

### Правяраць іншым спосабам

Работніц сэкс-індустрыі прымушалі наведваць лекара не проста так. Многія з іх мелі

## Панаехалі

Амаль усе берасцейскія прастытуткі былі прыезджымі — у асноўным з Польшчы (Варшава, Лодзь і іншыя мясцовасці).
Арыгінальна закінуў лёс у памежны горад Хелену Броўскую. Хелена раней вандравала з трупай «Цырка Станеўскага». У 1922-м цырк наведаў з гастролямі Берасце, і па нейкіх абставінах дзяўчына тут засталася. Пасля гэтага яна не раз трапляла ў паліцэйскія зводкі за свае «цыркавыя нумары»: то голай бегала па вуліцы Садовай, то п’янай назаляла мужчынам на вуліцы Мядовай, то ў тэатры Сарвера прапаноўвала свае паслугі пераапранутаму паліцыянту ў антракце.
З 1929 года, хутчэй за ўсё, яна з’ехала «гастраляваць» у іншы горад, бо яе імя са зводак знікла.




ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

**Беспрацоўны габрэй Неха Харо** аскандаліўся на тым, што здаваў пагадзінна жонку і сястру.

венерычныя захворванні, найчасцей — ганарэю і пранцы (сіфіліс). Прытым не сказаць, каб жанчыны былі моцна зацікаўленыя ў лячэнні, і не толькі з-за ўласнай бесклапотнасці. Выяўленых пацыентак накіроўвалі ў спецыяльныя бальніцы ў іншых мясцовасцях Польшчы. А калі б тое лячэнне прапаноўвалі на месцы, то, магчыма, сітуацыя была б іншай.

Што не ўсе жанчыны ехалі лячыцца, бачна па прыкладах габрэйкі Соркі-Нехі Эрліх і полькі Федэцыі Стыцковай, якіх у 1919 годзе накіравалі лячыцца ў Варшаву. Праз тры месяцы пасля іх ад’езду да берасцейскіх паліцыянтаў прыйшоў запыт з Беластока на высвятленне асоб гэтых жанчын. Яны там пасяліліся ў здымнай кватэры каля казармаў і забаўлялі вайскоўцаў.

Тым часам прастытуцыя пачала моцна хваляваць не толькі паліцыю, але і цывільныя ўлады Берасця. Яе маштабы «сталі пагражаць маральнасці горада», таму магістрат вырашыў праводзіць патрулі па пэўных месцах.

### Адзін з правяральшчыкаў быў «застуканы на кватэры ў Рохлі» паліцыянтамі

Падчас такой праверкі адбыўся казус: адзін з правяральшчыкаў быў «застуканы на кватэры ў Рохлі» паліцыянтамі. Гэтую абуральную справу разбіралі на закрытым пасяджэнні камісіі магістрата, паколькі злоўлены быў «паважаным чалавекам, прыстойным сем’янінам, бацькам дваіх дзяцей». Яму патлумачылі, што правяраць, ці вылечылі прастытутку ад ганарэі, трэба было іншым спосабам.

Але ніякія захады мясцовых уладаў па барацьбе з распаўсюдам венерычных захворванняў не мелі плёну. З кожным годам, як канстатавалі лекары, «заражаных салдат і афіцэраў Войска Польскага станавілася ўсё больш». У войску, праўда, чыталі лекцыі пра венерычныя захворванні і іх шкоду, паказвалі адпаведныя плакаты. Але гэта слаба спыняла асноўных кліентаў.

Вядома, да паслуг сэкс-работніц звярталіся і цывільныя асобы, калі яны мелі пастаянны прыбытак. Але ўсё роўна гэта былі пераважна палякі, бо найчасцей менавіта ў іх была добрая праца і грошы. Наведвалі «жрыц кахання» і забяспечаныя габрэі, калі не былі перакананымі вернікамі.

Да прыкладу, пастаянным кліентам прастытутак быў адзін з самых знакамітых габрэяў горада — уладальнік найбуйнейшага гарадскога тэатра Абрам Сарвер. Ён аддаваў перавагу маладзенькім дзяўчатам, часам сяліў іх у сябе. Некалькі разоў трапляў у скандалы з-за любоўных прыгод ▶

з непаўналетнімі, але адказнасці за гэта пазбягаў. Адной з яго любімых фраз была такая: «Хачу памерці ў 100 гадоў у ложку з 18-гадовай!»

## Пастаянным кліентам прастытутак быў уладальнік найбуйнейшага гарадскога тэатра Абрам Сарвер

32

1.Nazwisko i imię: Kleszcz Julja
2.Nazwisko panieńskie: Lubaszko
3.Imiona rodziców: Stanisław - Anna
4.Dzień,miesiąc i rok urodzenia: 25/VI 1895 r.
5.Miejsce urodzenia,miasto lub wieś,gmina,powiat: Mińsk-Mazowiecki
6.Miejsce stałej przynależności gminnej: Magistrat m. Mińsk-Mazowiecki
7.Zawód ewent.srodki do życia: mężatka
8.Wyznanie i narodowość: rzymsko-katolickie - polska
9.Stan: mężatka, z mężem nie żyje
10.Ostatnie miejsce zamieszkania: Brześć n/B. ul. [illegible] N 27
11.Czy rodzice żyją: żyją
12.Stan majątkowy rodziców: gospodarstwo rolne
13.Czem się trudnią rodzice: pracą na roli
14.Czy opusciła rodziców,lub męża,kiedy i z jakiego powodu: z powodu zatargów osobistych w roku 1915 opuściła męża
15.Czy mieszka przy rodzicach: nie
16.Czy umie czytać i pisać i jakie posiada wykształcenie: Umie czytać i pisać, 6 oddziałów szkoły powszechnej
17.Czy obecnie pracuje zarobkowo: nie
18.Od kiedy trudni się nierządem: od roku 1923
19.Co ją zmusiło do nierządu: niedostatek
20.Czy kto w rodzinie zajmuje się nierządem: nie
21.Kiedy dostała perjod: w roku 1911
22.Kiedy utraciła niewinność: w roku 1912 po zamąż-
23.Dobrowolnie czy gwałtem: pójściu
24.Czy przechodziła ciążę,ile razy i czem się to skończyło: W roku 1921 przechodziła ciążę i urodziła córeczkę

ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Паліцыя намагалася ведаць усіх **прастытутак у твар.**

### Скандалы вакол прафесіі

Свет прастытуцыі не абыходзіўся без сваіх скандалаў, якія таксама траплялі ў паліцэйскія зводкі, а пасля ў архіў, дзе мы іх і знаходзім.

Напрыклад, у 1928 годзе пад прыцэл грамадскай увагі трапіла прадпрымальная Рухля Фантух, удава 53 гадоў, якая не грэбавала ніякім заробкам. Яна трымала піўную, але замест звычайных афіцыянтак наймала прастытутак. Паліцыя да таго ж даводзіла, што прастытуткі гэтыя заражалі кліентаў ганарэяй.

Беспрацоўны габрэй Неха Харо, былы рамеснік з Варшавы, застанецца ў гісторыі Берасця як чалавек, які быў сутэнёрам для ўласных жонкі і сястры.

Бывалі выпадкі і камічныя. У 1928 годзе дзве прастытуткі — полька Ілона Хмельская і габрэйка Сара Гольд — не падзялілі кліента. Пастаянны кліент Ілоны Гжэгаж Гральскі па парадзе сяброў адным восеньскім вечарам пайшоў да Сары Гольд, якая прымала кліентаў у тым жа доме, што і Ілона. Ілона гэта ўгледзела і вырашыла не аддаваць кліента без бою. Дзве прастытуткі гэтак біліся, што суседзі вымушаныя былі паклікаць паліцыю. Але пакуль паліцэйскія прыйшлі, у двары засталася сядзець толькі Ілона Хмельская з пасмай уласных валасоў у руцэ.

Паліцыянты доўга грукалі ў дзверы Сары, але толькі праз паўтары гадзіны адтуль выйшаў задаволены п'яны кліент і сказаў: «Сара дакладна лепшая!» А паколькі ў Гжэгажа Гральскага прэтэнзій ні да каго не было (у яго адарвалі толькі адзін гузік з пінжака), то яго адпусцілі.

Затое паліцыянтам прыйшлося доўга суцяшаць Ілону, асабліва пасля слоў суседа: «Сары ўсяго 19, а табе хутка 30 будзе! Куды табе за ёй!» ◆

# СТЫПЕНДЫЯЛЬНАЯ ПРАГРАМА

## міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча

# GAUDE POLONIA

**Нацыянальны цэнтр культуры ў Варшаве аб'яўляе набор на XX конкурс (на 2021 год) стыпендыяльнай праграмы міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча "Gaude Polonia".**

**Праграма "Gaude Polonia" прызначана для маладых творцаў і перакладчыкаў з краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у першую чаргу з Беларусі і Украіны.**

**Стыпендыяльнае знаходжанне ў Польшчы пачнецца 1 лютага і будзе доўжыцца да 31 ліпеня 2021 года. Набор удзельнікаў ажыццяўляецца на конкурснай аснове. Кандыдаты павінны валодаць польскай мовай на базавым узроўні.**

**Заяўкі прымаюцца да 15 кастрычніка 2020 года.**

**Неабходныя дакументы:**

- **заяўка на атрыманне стыпендыі;**
- **мінімум 2 рэкамендацыі ад вядомых у абранай кандыдатам галіне дзейнасці творцаў;**
- **партфоліа ў папяровым выглядзе, на флэшцы ці на CD/DVD.**

**Заяву на ўдзел можна падаць праз Польскі інстытут у Мінску (Мінск, вул. Валадарскага, 6) або непасрэдна ў Нацыянальны цэнтр культуры ў Варшаве (01–231 Варшава, вул. Плоцка, 13).**

**Падрабязная інфармацыя аб Праграме, умовах удзелу і бланкі анкет на старонцы: https://www.nck.pl/dotacje-i-stypendia/stypendia/programy/gaude-polonia/dokumenty.**

**Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Нацыянальным цэнтры культуры ў Варшаве (тэл. +4822 3509530, e-mail: bberdychowska@nck.pl).**




Ministerstwo Kultury i Dziedzictwa Narodowego.



NARODOWE CENTRUM KULTURY



# Класіка: тушаная капуста з грыбамі



SHUTTERSTOCK.COM, BY ANNA-2118

**Гэтая страва вядомая беларусам яшчэ з Сярэднявечча, піша Алесь Белы.**

У свой час мне давялося абурацца той «качкай», якую запусціў расійскі культуролаг-аматар Вільям Пахлёбкін, быццам бы ў традыцыйнай беларускай кухні амаль няма грыбных страў. І асабліва тым, як у самой Беларусі гэтыя сумнеўныя тэзісы бяздумна і даверліва паўтараюць за савецкім «мэтрам».

Гісторыя грыбной кухні ў Беларусі яшчэ не напісаная, хаця ў ёй можа быць шмат цікавых старонак. Бо страў з грыбамі на нашых сталах — многія дзясяткі.

Багацце і разнастайнасць нашай грыбной кулінарыі пакінулі сляды і ў старых літаратурных помніках ды афіцыйных дакументах. Напрыклад, жартаўлівая песня «Ваенны паход грыбоў» Дамініка Рудніцкага часткова цытуецца ў паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». А адна з самых старых пісьмова зафіксаваных беларуска-літоўскіх страў — тушаная капуста з грыбамі, пра гісторыю якой хочацца коратка распавесці.

## Спачатку грыбы, пасля капуста

Тушаная капуста з грыбамі — страва досыць простая, але і для яе ўзнікнення былі патрэбныя пэўныя ўмовы. Напрыклад, сама капуста: яна лічыцца абарыгенам Міжземнамор'я, і ў Цэнтральную ды Усходнюю Еўропу трапіла не адразу. Прычым на Русь, дзякуючы шчыльным культурным сувязям з праваслаўнай Грэцыяй, — прыкладна ў XI стагоддзі, тады як у Польшчу, здаецца, толькі ў XIV, праз германскае пасярэдніцтва. І, магчыма, у Польшчы доўгі час існавала пэўная засцярога перад гэтай гароднiннай культурай, шырокае ўвядзенне якой у гастраномію часта прыпісваюць ужо каралеве Боне (XVI стагоддзе).

А вось выкарыстанне ў кухні грыбоў — агульная старажытная рыса славянскіх і балцкіх народаў. Можна меркаваць, што тушэнне капусты з грыбамі — традыцыя, якая склалася на Русі яшчэ ў дамангольскую эпоху. А з дамангольскай Русі трапіла і ў Літву — асабліва шырока пасля стварэння Вялікага Княства Літоўскага.

У выдадзеным польскім паэтам эпохі барока Гіяцынтам Пшэтоцкім зборніку вершаў «Посны абед» (1653) ёсць чатырохрадкоўе, прысвечанае літоўскай капусце з грыбамі:

Літоўскі, пэўне, прысмак —
капуста з грыбамі.
У Вільні стаў на стол яго,
паміж паўміскамі.
Бо ў Польшчы грыб у дуброве,
капуста ж — у агародзе,
А калі ў адным гаршку,
дык там нэндза будзе.

## Тушаная капуста з грыбамі

Гэты рэцэпт старадаўні, з ільняным алеем. Бо які іншы алей мог бы быць у XVII стагоддзі? Памятайма толькі, што смажыць на такім алеі нельга, таму цыбулю абсмажвайце на рафінаваным.

**Інгрэдыенты:**

- 1 кг квашанай капусты
- 50 г сушаных лясных грыбоў (найлепш баравікоў) або 700–800 г свежых
- паўшклянкі льнянога алею (і дадаткова лыжка для поліўкі)
- дзве цыбуліны (нарэзаныя кубікамі і абсмажаныя)
- паўлыжачкі кмену
- 2 лаўровыя лісткі
- соль, перац чорны і духмяны на смак
- 1 лыжка пшанічнай мукі

Сушаныя грыбы пакінуць у вадзе на ноч (свежыя гатаваць, як звычайна гатуюць грыбы). На наступны дзень парэзаць іх на дробныя кавалачкі (ваду з-пад грыбоў можна захаваць і пазней дадаць да тушанай капусты). Старанна прамыць квашаную капусту ў халоднай вадзе. Тады нарэзаць і змяшаць з грыбамі і цыбуляй. Узяць рондаль з тоўстым дном і наліць тонкім пластом ільняны алей на дно. Затым дадаць квашаную капусту, накрыць яе і тушыць на малым агні, пакуль не стане мяккай. Можна дадаць ваду, якую выкарыстоўвалі для замочвання грыбоў, каб паскорыць працэс. Таксама дадаць кмен.

У канцы зрабіць заправу для поліўкі з лыжкі льнянога алею і пшанічнай мукі і дадаць яе ў страву. Запраўіць соллю і перцам. Тушыць яшчэ некалькі хвілін.

А вось рэестр выдаткаў і закупаў за 1699 год магістрата Магілёва — самага вялікага горада з процілеглага, рускага полюса дзяржавы: сярод іншага, для пачастунку прадстаўнікоў гарадской улады купілі «да тэй капусты алею, баравікоў і перцу». Што ўжо дае нам даволі празрысты намёк на рэцэптуру стравы.

### Начынка да модных страў

Можна меркаваць, што ў часы Рэчы Паспалітай гэтая страва, як і многія іншыя, характэрныя для Літвы і Русі Літоўскай, у Польшчы яшчэ мела невысокую рэпутацыю (самы яскравы прыклад — «варварскае» бацвінне, пра якое ў Пшэтоцкага таксама ёсць сатырычнае чатырохрадкоўе). Пройдзе яшчэ пару стагоддзяў, а асабліва пара падзелаў і паўстанняў, і многія раней пагарджаныя літоўска-беларускія стравы набудуць у Польшчы асаблівую папулярнасць. Найперш пад уплывам рамантычнага вобразу Літвы, краю Касцюшкі, Міцкевіча, Манюшкі, які вядзе зацятае змаганне з Расійскай імперыяй. І дакараць які ў такіх умовах за беднасць і прымітыўнасць, у адрозненне ад часоў барока, робіцца непрыстойным блюзнерствам.

Паступовае распаўсюджанне тушанай капусты з грыбамі на захад, у каронную Польшчу, аказала істотны ўплыў і на рэцэптуру іншых страў. Гэта добра відаць на прыкладзе бігасу.

Старапольскі бігас класічнай сармацкай эпохі рабіўся без аніякай капусты. Гэта была страва з тушаных кавалкаў мяса або рыбы (нават сушанай), дзе кіслы смак дасягаўся праз дадаванне дарагіх лімонаў або не зусім таннага віннага воцату. «Бігасаваць» тады азначала секчы на кавалкі. «Бігасаваць!» — крычала на сейміках раз'юшаная шляхта, пагражаючы расправай партыі праціўнікаў. ▶

**Старапольскі бігас класічнай сармацкай эпохі рабіўся без аніякай капусты**



Сваяк нашай тушанай з грыбамі капусты — польскі бігас.

SHUTTERSTOCK.COM, BY LILIYA KANDRASHEVICH

▶ Толькі ў XVIII стагоддзі, як мы ведаем з дзённікаў ксяндза Енджэя Кітовіча, з'явіўся гэтак званы «гультайскі» бігас, у якім менавіта капуста складала большую частку аб'ёму, а мяса было толькі дадаткам. Пачаткова як страва людзей незаможных і тэрытарыяльна — пераважна менавіта ў небагатай Літве, якая ўжо была вядомая сваёй капустай з грыбамі.

Але і яшчэ ў некалькі знакавых страў увайшло гэтае класічнае спалучэнне ўжо ў якасці начынкі. Па-першае — у лазанкі. У страву — нашчадак італьянскай лазанні, даўно і трывала адаптаваную ў Рэчы Паспалітай праз дадаванне да квадратных мучных локшынаў тыпова мясцовых інгрэдыентаў. І што можа быць лепшым у пост, і ў тым ліку на посную Вігілію, калі не лазанкі, тушаныя з капустай і грыбамі?

Па-другое, тую самую начынку можна выкарыстаць у варэніках, якія ў Літве называлі калдунамі.

І нарэшце — у кулябякі. Гэтая страва ўвогуле зрабіла даволі мудрагелісты шлях на нашы землі. Спачатку гэта быў маскоўскі традыцыйны, вядомы з XVII стагоддзя пірог



SHUTTERSTOCK.COM, BY NEDIM BAJRAMOVIC

**Лазанкі можна гатаваць і са свежай капусты**, хоць гэтая страва не пахваліцца той жа гісторыяй, што лазанкі з тушанай капусты і з грыбамі.



SHUTTERSTOCK.COM, BY PEARL PHOTOPIX

**Лазанкі ў хатніх умовах.**

## Лазанкі
(базавы рэцэпт)

**Інгрэдыенты:**
- 2 шклянкі мукі
- 2 яйкі
- 5–6 лыжак вады
- соль

Муку прасеяць на роўную паверхню, зрабіць паглыбленне, убіць яйкі, уліць ваду, перамяшаць да атрымання загусцелай, цвердаватай масы. Цеста падзяліць на часткі і кожную тонка раскачаць і пакінуць, каб падсохлі. Затым пасыпаць мукой, скруціць у рольку, якую пакроіць на палоскі шырынёй 2–2,5 см см, а іх падзяліць на квадрацікі або ромбы і раскачаць па дошцы.

Лазанкі апусціць у кіпячую падсоленую ваду, перамяшаць, прыкрыць накрыўкай, паварыць, адцадзіць.

## Лазанкі з кіслай капустай і грыбамі

Прыгатаваць лазанкі па папярэднім рэцэпце або набыць 500 г гатовых, напрыклад, італьянскіх.

**Інгрэдыенты начынкі:**
- 500 г кіслай капусты
- 1 цыбуліна
- 50 г сушаных баравікоў
- 2 сталовыя лыжкі мукі
- 2 сталовыя лыжкі масла
- алей
- соль, перац на смак

Грыбы старанна мыем, замочваем на ноч у халоднай вадзе, затым варым да гатоўнасці, адцэджваем і дробна крышым (адвар не выліваем). Капусту, калі занадта кіслая, палошчам, затым заліваем грыбным адварам, трохі разбаўляем вадой і варым да мяккасці. Цыбулю дробна крышым, падсмажваем на патэльні да празрыстага стану, дасыпаем муку і дасмажваем.

Адварваем лазанкі да стану *al dente* — трохі недаваранага. Змешваем капусту з грыбамі і засмажкай, дадаём 1–2 лыжкі алею і яшчэ хвіліну дасмажваем на малым агні. Дадаём соль і перац на смак. Выкладаем слаямі лазанкі і начынку на пашмараваную маслам ці алеем бляху і запякаем у духоўцы пры тэмпературы 200°С каля 20 хвілін.

з дражджавога цеста, з начынкай з капусты, грэцкай кашы, крутых яек, сушанай і варанай рыбы, грыбоў, цыбулі. На мяжы XVIII і XIX стагоддзяў французскія кулінары, якія працавалі ў Расіі, надалі кулябякам міжнародную вядомасць і адаптавалі іх рэцэптуру пад патрабаванні высокай кулінарыі: іх сталі гатаваць з больш далікатнага слаёнага, ці, як казалі даўней, французскага, цеста, а ў якасці начынкі ўжываць дзічыну, шампіньёны, рыс, ласося і г. д. Мода на кулябякі, ужо пад французскім уплывам, трапіла і ў арыстакратычныя двары Польшчы, Беларусі, Літвы, дзе кухмістры мясцовых магнатаў стварылі свае арыгінальныя рэцэпты гэтай стравы. І некаторыя з іх спрабавалі спалучаць руска-французскую форму з ліцвінскім зместам. Вось «кулябяк а-ля Сапега» якраз і выкарыстоўвае старую добрую ліцвінскую капусту з грыбамі ў якасці начынкі.

І сама такая капуста, і вытворныя ад яе стравы маюць яскрава вігілійны, калядны вобраз. Дарэчы, неяк так склалася, што амаль усё традыцыйнае вігілійнае меню

**Кухмістры магнатаў спалучалі французскую форму з ліцвінскім зместам**

каталікоў-ліцвінаў, пачынаючы ад Куцці, мае тыпова ўсходні, русінскі склад. Відаць, гэта чарговае пацвярджэнне, што задоўга да каталіцкага хросту праваслаўе і русінская культура пусцілі ў Літве даволі глыбокія карані, якія шмат у чым захаваліся і пад пазнейшымі лацінскімі напластаваннямі. ◆


Кулябяка з тушанай з грыбамі капустай.

ANIAGOTUJE.PL

# Ён так жадаў палепшыць *свет*

**Ён запісаў амаль тысячу народных песень «з-над Нёмана і з-над Дзвіны», сам пісаў вершы па-беларуску і ўжо ў першай палове XIX стагоддзя лічыў, што беларуская мова вартая стварэння граматыкі і слоўніка. Ягонымі фальклорнымі зборнікамі Адам Міцкевіч на чужыне лячыў настальгію, а ў гадзіну смерці сябра бачыў яго ў сне. Пра паэта і фальклырыста Яна Чачота піша Васіль Герасімчык.**




**Ян з Мышы**, або ў студэнцкай версіі Ян Ментар Чачот.

7 ліпеня 1796 года ў вёсцы Малюшычы Наваградскага павета (сёння — Карэліцкі раён) у сям'і беззямельнага шляхціча Тадэвуша Чачота і яго жонкі Клары (у дзявоцтве — Гасціцкай) нарадзіўся сын. Як і дзядулю, малога, народжанага па старым стылі на Купальскае свята, назвалі Янам.

Спачатку яго ахрысцілі ва ўніяцкай царкве, а пасля дадаткова і ў каталіцкім касцёле. Імя хлопец займеў падвойнае — Ян Антоній.

### Смаленскія карані і наваградская радзіма

Род Чачотаў паходзіў са Смаленскага княства. Але пасля захопу маскоўскімі войскамі ўсходніх тэрыторый Вялікага Княства Літоўскага ў XVI стагоддзі шляхціч Васіль Данілавіч Чачот пераехаў у Слонімскі павет, у якім з дазволу караля Жыгімонта Аўгуста ў 1545 годзе пераняў маёнтак свайго цесця Беліка.

Напрыканцы XVIII стагоддзя Чачоты дашчэнту збяднелі. Бацька Яна стаў беззямельным арандатарам, які ўладкаваўся аканомам да графа Тызенгаўза. Тады сям'я пераехала ў фальварак Рэпіхава, размешчаны непадалёк ад ракі Мышанкі — прытока Шчары, дзе і прайшло дзяцінства будучага паэта і фальклярыста. Сёння на гэтым месцы — парк у межах вёскі Крывошын Ляхавіцкага раёна.

Далей быў Наваградак, колішняя сталіца Вялікага Княства. Туды ў 1809 годзе Ян паехаў вучыцца ў дамініканскую школу, дзе пазнаёміўся і пасябраваў з іншым вучнем — Адамам Міцкевічам. Вядомы навуковец таксама родам з Наваградчыны, Ігнат Дамейка, сведчыў пра адзінства душ сваіх землякоў: «Два нашы вучні навагрудскай школы з маленства ведалі наш літоўскі народ, палюбілі яго песні, праніклiся яго духам і паэзіяй..., прыглядаліся да кірмашоў, фэстаў, бывалі на сялянскіх вяселлях, дажынках і пахаваннях... Яшчэ ў школе саламяная страха і народная песня распалілі ў грудзях сяброў першае паэтычнае натхненне».

А пасля заканчэння ў 1815 годзе школы сябры выправіліся ў Вільню, каб стаць студэнтамі.

### Бедны студэнт

Трапіць з першай спробы на дзяржаўны кошт навучання ў Віленскім універсітэце пашчасціла толькі Міцкевічу. Чачот жа вымушаны быў спачатку падпрацоўваць адвакатам, пасля працаваць пісарчуком у спецыяльнай

канцылярыі па ўпарадкаванні родавага архіва князёў Радзівілаў. Тут ён актыўна вывучае Статут ВКЛ і па працоўных патрэбах падарожнічае па былых уладаннях наймагутнейшага магнацкага роду.

Праз год, у 1816-м, Ян Чачот усё-такі становіцца студэнтам, паступае на факультэт маральных і палітычных навук. Аднак гэтае дасягненне мала яго радуе на фоне пастаяннага безграшоўя. Бацькі мала чым маглі дапамагчы. Таму Ян прымае нялёгкае рашэнне і пасля першага ж года навучання вяртаецца на працу ў Радзівілаўскую камісію. Праўда, працягвае хадзіць і на лекцыі гісторыкаў Іаахіма Лялевеля ды Ігната Даніловіча вольным слухачом.

Адсутнасць фармальнага студэнцкага статусу, само сабой, не перашкодзіла Чачоту па пратэкцыі Адама Міцкевіча далучыцца да патаемнага Таварыства філаматаў. «Ян з Мышы», як прадставіў яго сябар, адразу ж зрабіўся адным з найактыўнейшых і шанаваных дзеячаў таварыства, нават заняў у ім пасаду сакратара.

**Ён марыў удасканаліць чалавецтва. Нават у сабраных аўтэнтычных народных песнях Чачот паслядоўна замяняў частае слова «гарэлка» на «мёд» і «піва»**

### «Сапраўдная сялянская натура»

Чачот у філамацкім коле стаў «штатным» паэтам-песеннікам. Яго спецыяльнасцю «былі беларускія песні, якія ён складаў на падзеі дня па ўзоры народных песень». Напрыклад, на ўзор «Чаму дзеўку не любіць, калі дзеўка ладна» ён стварыў песню «Што старыя за вар'яты». На паэтычным турніры 21 снежня




**Былы дамініканскі касцёл у Навагрудку.** Менавіта пры ім існавала школа, якую закончылі сябры Адам Міцкевіч і Ян Чачот.

**Прыклад маралізатарства Чачота** — ягоны ўласны беларускамоўны верш «Да мілых мужычкоў», надрукаваны ў 1846 годзе ў адным з фальклорных зборнікаў. У першай палове верша аўтар захапляецца народнай творчасцю («Ой, што ж вы напелі тут, ды якога дзіва!»), а ў другой заклікае сялян да руплівай працы і цвярозага ладу жыцця:

Трэба толькі слухаць нам
Рады таго татка,
Што то казаў гараваць,
Каб аджыла хатка.

Толькі, мусіць, той сынок
Не піў, як мы, водкі,
А то б яму вялеў ён:
Кінь і мёд салодкі.

Ой, гаруйма, братцы, мы,
Кіньма горку жлопель,
Што не з жыта гоняць ўжо,
А з аўса, з картопель.

Кіньце першы, жонкі, вы,
Мілыя дзяўчаты,
Доля, шчасце зачне жыць,
Дзе цвяроза хата.

Благаславіць будзе Бог
Ў каморы, аборы,
І не будзе такі люд
Бяссільны, як хворы.

Ой, каб колісь нам дажыць
Да такой паправы,
То запеў бы з вамі я,
Што нам Бог ласкавы!

1818 года Чачот быў прызнаны трэцім па значнасці віленскім паэтам — пасля Адама Міцкевіча і Тамаша Зана. Ігнат Дамейка так узгадваў пра тагачаснага Яна Чачота: «Жывы, чуллівы, вясёлы, кампанейскі, просты, уражлівы, спагадлівы — сапраўдная сялянская натура».

Да ліку найлюбімейшых філаматамі яго песень была «Да пакіньце горла драць», напісаная да ўгодкаў сябра-філамата Дзіянісія Хлявінскага. ▸




**Камень філарэтаў.** Ён знаходзіцца непадалёк ад вёскі Карчова, ля Туганавіцкага парку ў Баранавіцкім раёне. Існуе даволі абгрунтаваная гіпотэза, што ў 1820 годзе падчас гасцявання ў Верашчакаў ля каменя сустрэўся касцяк філаматаў, каб абмеркаваць падрабязнасці стварэння даччынай арганізацыі — Таварыства філарэтаў.
Карціна «Ля Каменя філарэтаў» Міхася Карпука (2006 год).

▶ Асабліва яе палюбіў Тамаш Зан, за што аднаго разу паплаціўся. Аднойчы (31 кастрычніка 1820 года) Зан спыніўся ў заезным доме ў Канвелішках (цяпер у Воранаўскім раёне), мірна сабе спаў, пакуль не быў пабуджаны сярод ночы гэтай песняй. Выканаўцамі аказаліся Адам Міцкевіч і Ян Чачот, якія даведаліся пра начлег сябра ў тым жа доме, дзе спыніліся і яны.

На суд сваіх сяброў-філаматаў на працягу 1818–1819 гадоў Ян Чачот напісаў восем балад: «Бекеш», «Наваградскі замак», «Калдычэўскі шчупак», «Звінячая гара ў Пазяневічах», «Радзівіл, або Заснаванне Вільні», «Узногі», «Мышанка», «Свіцязь». Найбольшае іх значэнне хіба ў тым, што яны прабудзілі геній Адама Міцкевіча і прывялі таго да сваёй літаратурнай каляіны. Міцкевіч гэта асэнсоўваў і быў удзячны.

Сам Чачот быў упэўнены, што літаратура павінна служыць высакароднай мэце маральнага ўдасканалення чалавецтва. Таму крыху грашыў у сваіх псеўданародных песеньках маралізатарствам, спадзяваўся, што ў павучальным выглядзе яны пойдуць у народ і прынясуць плён. Чачотава імкненне палепшыць свет было такім чыстым і моцным, што нават у сабраных аўтэнтычных народных песнях ён паслядоўна замяняў частае слова «гарэлка» ці «водка» на «мёд» і «піва».

## Муза

1 лютага 1823 года Ян Чачот пісаў да Адама Міцкевіча: «...цяпер мая мілая муза Зося зрабіла мяне здольным кожны дзень (быў бы толькі час) выдаваць новую прадукцыю, але гэта не тое, што магло б узвысіць мяне і ўсіх зрабіць маімі здзіўленымі прыхільнікамі. Замяню гэтыя недахопы ўвагаю, маральнасцю, заўсёды высокім бачаннем сутнасці і мэты паэзіі *et sic porro*».

## Таварыства філаматаў і філарэтаў

Тайнае студэнцкае Таварыства філаматаў (аматараў навук) утварылася ў Віленскім універсітэце ў 1817 годзе. Прасунутая моладзь паставіла сабе за мэту больш вывучаць родны край і спакваля будзіць грамадскую актыўнасць. Удзельнікі рыхтавалі ў сваім коле даклады, ладзілі дэбаты, аглядалі тагачасны друк і літаратуру, збіралі фальклор, вывучалі мясцовую культуру.
Нягледзячы на такую бяскрыўдную з сённяшняга гледзішча дзейнасць, філаматам даводзілася збірацца строга патаемна, паколькі любыя студэнцкія аб'яднанні на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай былі забароненыя царскімі ўладамі. Новых сяброў выбіралі толькі па пратэкцыі і вельмі асцярожна, таму за ўвесь час існавання ў Таварыства філаматаў уваходзіла ўсяго... 19 чалавек.
Нягледзячы на малалікасць, філаматы імкнуліся пашырыць свой уплыў на іншую моладзь, таму пачалі ствараць іншыя саюзы і таварыствы. Так, у 1820 годзе з'явіўся «Саюз прамяністых», хутка перайменаваны ў Таварыства філарэтаў (прыхільнікаў маральнай чысціні).
Першым таварыствам, якое выкрылі ў 1823 годзе ўлады, было больш разгалінаванае Таварыства філарэтаў, пасля кола замкнулася і вакол філаматаў. Каля ста студэнтаў год правялі ў турме, пакуль ішло следства. Рэальныя выракі атрымалі 10 чалавек — у тым ліку Адам Міцкевіч, які накіраваўся ў высылку ў Пецярбург. Трое з 10 павінны былі выехаць за Урал і перад вольным пасяленнем адбыць спачатку зняволенне ў крэпасці. Сярод гэтых трох быў Ян Чачот.

Згаданай музай для Яна Чачота была дачка рэктара Віленскага ўніверсітэта Сымона Малеўскага і родная сястра аднаго з філарэтаў і будучага заснавальніка польскамоўнага «Тыгодніка Пецярбургскага» — Францішка Малеўскага. Для яе ён пісаў свае вершы, якія потым клаліся на музыку і выконваліся пад піяніна. Зосі Малеўскай былі прысвечаныя 170 з 200 вершаў і песень, занатаваных у спецыяльным сшытку.

Вобраз Зосі заўсёды прысутнічаў у думках Яна Чачота падчас будучай ягонай ссылкі:

Я панясу да магілы
Любасць да краю і Зосі,
Хоць мне любоў гэта ў сэрцы
Столькі няшчасцяў прыносіць.

Дарэчы, аўтар гэтых радкоў так ніколі і не ажаніўся.

## Да далёкай Русі...

Таемная грамадская дзейнасць у Вільні ў пачатку 1820-х віравала, і Чачот браў у ёй вельмі актыўны ўдзел. Пасля заснавання новага таварыства, філарэтаў, ён узначаліў яго літаратурны аддзел. Чачот чынна ўзяўся за выхаванне моладзі, за што атрымаў мянушку Ментар. А ў 1820-м студэнты арганізавалі яшчэ адно таварыства — «Прамяністыя» на чале з Тамашом Занам. У ім Ян Чачот быў скарбнікам і адным з ініцыятараў стварэння інструкцыі па вывучэнні насельніцтва і геаграфічнага становішча краю. Гэтую інструкцыю Чачот разам са сваім таварышам Янам Юндзілам таемна ў начны час, падкупіўшы наборшчыкаў, надрукаваў у віленскай базыльянскай друкарні. Размножаныя асобнікі раздалі філарэтам перад зімовымі канікуламі 1821 года.

Але шанцавала нядоўга. Калі ў 1823 годзе расійскія ўлады выкрылі таемныя таварыствы, над іх удзельнікамі распачаўся судовы працэс. Ян Чачот больш за год утрымліваўся за кратамі, пакуль 10 кастрычніка 1824 года не быў сасланы ў Арэнбург. Узяўшы разам з Тамашом Занам і Адамам Сузіным усю віну за дзейнасць таемных таварыстваў, ён быў асуджаны да 10 гадоў выгнання ўглыб Расіі. Апошняй з напісаных ім за кратамі стала развітальная песня:

Да лятуць, лятуць да дзікія гусі,
Да нас павязуць да далёкай Русі…

## На чужыне

Паўгода Ян Чачот правёў у Кізільскай крэпасці (тэрыторыя сучаснай Чэлябінскай вобласці Расіі), дзе не пераставаў дзівіцца, што для мясцовых ён — паляк: «Цяпер арэнбургская лінія, можна сказаць, запруджана палякамі (так нас называюць тут і за такіх прымаюць)».

22 кастрычніка 1825 года ён пісаў сябрам: «Наш дом — маленькая хатка: зробленая яшчэ пры жыцці пустэльніка магіла. Усю зіму аж да 15 мая я пражыў у халаднейшай, чым Сібір, абвахце, заўсёды з салдатам перад вачамі і з рознымі каравульнымі, якія забруджвалі мой пакой сваім тытунём і размовамі. У гэтай дзіравай і недагледжанай хованцы часам быў такі жахлівы холад, што я змушаны быў сядзець тут адзеты, як у павозцы, — у кажуху, паліто, цёплых ботах, рукавіцах і шапцы. Я так замярзаў колькі разоў, што не ведаю, як яшчэ не захварэў — калі б не ўнутранае цяпло, можна б было ператварыцца ў лёд. Схаваныя рукі былі ўсё роўна застылыя, гэтак жа сама і душа».

Але найгоршым для Чачота было тое, што губернатар загадаў пазбавіць яго магчымасці пісаць лісты дадому і загадаў, каб ▶

Больш пра героя гэтай публікацыі можна даведацца, праглядзеўшы **дакументальны фільм тэлеканала «Беларусь-3» «Ян Чачот: дабрадзейны паэт-песеннік»** з цыкла «Запіскі на палях».






**Помнік Яну Чачоту** ў Карэлічах.

MAJAKRAINABELARUS

у ссыльнага не было «ні пяра, ні чарніла, ні паперы». Гэта ў тыя часы было распаўсюджанай формай пакарання для творчых людзей — згадаем хоць бы хрэстаматыйны выпадак з украінскім геніем Тарасам Шаўчэнкам, якога праз 20 з лішкам гадоў прымусова выправілі на вайсковую службу — спачатку ў тую ж Арэнбургскую губерню з забаронай пісаць і маляваць.

У выніку Чачоту цяжка было сябе заняць. Месяц ён працаваў у якасці гувернёра ў адной з жыхарак Кізіла, пакуль тая адтуль не выехала. Спрабаваў перакладаць апавяданні амерыканскага пісьменніка Вашынгтона Ірвінга. Шмат чытаў, у асноўным рускія кнігі, каб засвоіць мову. А вось пісаць зусім не атрымлівалася, і зусім не з-за забароны губернатара: «З таго, што завецца вершамі, апрача некалькіх уздыханняў да нашай дарагой, я нічога не напісаў. Усе адлятаюць з вятрамі, не магу іх затрымаць для людскога вока рыфмамі».


PIOSNKI WIEŚNIACZE

Z NAD NIEMNA.

WE DWÓCH CZĘŚCIACH.

WILNO.

DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO.

1837.



ROSSZUKI.BLOGSPOT.COM

Тытульная старонка першага тома **«Сялянскіх песень»**.

Пасля Кізіла была Уфа, служба канцылярыстам у бюро арэнбургскага губернатара, рэпетытарства. А ў 1830 годзе Чачота нарэшце вызвалілі ад паліцэйскага нагляду, пасля чаго ён 3 лютага 1831 года перабраўся ў Маскву. Адсюль 9 чэрвеня выехаў на працу ў Цвер, але затрымацца там не давялося па зусім дзіўнай прычыне. У горад якраз прыйшла эпідэмія халеры, і на фоне вестак пра паўстанне ў колішняй Рэчы Паспалітай з'яўленне заразы звязалі з чужынцам-«палякам». У выніку Чачот вымушаны быў уладкавацца на працу ў горад Таржок. Адначасова ён заняўся зборам этнаграфічнага матэрыялу, які адсылаў свайму сябру Восіпу Кавалеўскаму ў Казань. На жаль, гэтыя матэрыялы, аб'ёмам каля 200 аркушаў, бясследна зніклі.

**Усяго Ян Чачот сабраў 957 песень: 400 «з-над Нёмана» і 557 «з-над Дзвіны»**

## «Сялянскія песні»

У 1833 годзе Ян Чачот вярнуўся ў Беларусь і ўладкаваўся ў мястэчку Лепель канцылярыстам у дырэкцыю Бярэзінскага канала. Тут ён ходзіць у мясцовы касцёл, слухае спевы, што яго да глыбіні душы кранаюць, і міжволі вяртаецца да думкі выдаць вясковыя беларускія песні, так знаёмыя з самага дзяцінства.



2KOLA.BY

**Ад колішняга маёнтка Рэпіхава**, дзе нарадзіўся Ян Чачот, застаўся толькі раскошны парк у Крывошыне.

Для гэтага ён звяртаецца па дапамогу да некалькіх паненак. Адной з іх, Юзэфе Дамейка, ён тлумачыць, чаму яму патрэбная дапамога: «Нашы сарамлівыя вясковыя жанчыны не лёгка адважваюцца пераказаць свае песні мужчыну, толькі кабета ўмее іх з лёгкасцю ўпрасіць, каб ёй расказалі. Таму не адмоў, пані, у маёй просьбе, а я не сумняюся, што і сама знойдзеш вялікую прыемнасць у гэтым занятку. Прашу толькі настойліва захоўваць у запісах вымаўленне вясковых слоў, а таксама заўсёды пытаць і занатоўваць, калі і пры якіх абрадах ці забавах спяваюць якую песню».

Вынікам гэтай працы стала з'яўленне ў 1837 годзе ў віленскай друкарні Юзафа Завадскага зборніка «Сялянскія песні з-над Нёмана», у якім Чачот пераклаў на польскую мову беларускія песні. Першапачаткова была задума ўкласці зборнік у дзвюх частках, «з тэкстам арыгінала», але





2KOLA.BY




2KOLA.BY

яна, на жаль, не была рэалізаваная. А ў 1838 годзе выйшла другая частка «Сялянскіх песень».

За добрую службу 1 снежня 1838 года Ян Чачот атрымаў чын губернскага сакратара, а ў 1839 годзе імператар Мікалай I нарэшце дазволіў яму вярнуцца на радзіму — на Наваградчыну. Ён уладкаваўся бібліятэкарам ў сядзібу графа Адама Храптовіча ў мястэчку Шчорсы, дзе на працягу 1842–1844 гадоў піша «Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года» на падставе твораў Мацея Стрыйкоўскага і Тэадора Нарбута. А таксама працуе над іншымі часткамі «Сялянскіх песень».

У 1844 годзе выйшаў чацвёрты зборнік — «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны, з дадаткам арыгінальных на славяна-крывіцкай мове». Беларускі сялянскі фальклор нарэшце дачакаў часу, калі яму дадуць слова на роднай мове.

## Пара для граматыкі і слоўніка

Найважнейшым з усіх зборнікаў стаў шосты, выдадзены ў 1846 годзе, — «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны, некаторыя прыказкі на славяна-крывіцкай мове і яе самабытныя словы, з назіраннямі над гэтай мовай».

У зборніку з жалем канстатавалася: «Іншыя дыялекты славянскага паходжання — больш шчаслівыя, бо нават такія, як, напрыклад, краінскі, краацкі і далмацкі, кожны з якіх паасобку не налічвае да трох разоў па сто тысяч кожны жыхароў... маюць свае граматыкі і слоўнікі і тое ад 1584, 1595 і 1670 г. Тут наадварот, крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў насельніцтва, не мае нічога болей, апрача катэхізіса, выдадзенага нядаўна ў Віленскай епархіяльнай друкарні, якога, аднак, мне не давялося ўбачыць. Цяпер уласна надыходзіць пара ўзнагародзіць гэтае занядбанне мінулых вякоў і ўзяцца за складанне граматыкі і слоўніка крывіцкага дыялекту, пакуль за малымі выключэннямі ёсць яшчэ ў сваёй чысціні...».

Усяго Ян Чачот сабраў 957 песень: 400 «з-над Нёмана» і 557 «з-над Дзвіны», некаторыя з якіх апублікаваныя і ў беларускім арыгінале. 126 песень былі сабраныя ў вёсцы Стокі, іх у 1834 годзе надыктавала «маладая ▶

▶ і прыстойная дзяўчына Бася, потым жонка Мацейкі».

Чачот паставіў пытанне аб правапісе «крывіцкай» або «славяна-крывіцкай» (беларускай) мовы і ўслед за Зарыянам Даленгам-Хадакоўскім выканаў яе апісанне, склаўшы слоўнік «Некаторых крывіцкіх ідыём (уласнаназваў) з Навагрудскага павета, а таксама асобных слоў, што розняцца па значэнні са словамі іншых славянскіх моваў». Таксама ён змясціў там «крывіцкія прыказкі». Пазней гэтыя кірункі беларусазнаўства былі працягнутыя Іванам Насовічам.

### Сябры навечна

Вясною 1847 года, каб паправіць здароўе, Чачот выехаў у Друскенікі. Тут у жніўні яго разбіў паралюш. 23 жніўня ён памёр і там жа быў пахаваны, паблізу касцёла ў вёсцы Ротніца.

У гэты час Адаму Міцкевічу снілася, што яго сябар прыехаў у Парыж, але так і не змог з ім






**Перадсмяротны партрэт Яна Чачота.** Раман Вічынскі, 1847 год.

**Апошні раз Ян Чачот прысніўся Адаму Міцкевічу за некалькі месяцаў да смерці, «як бы запрашаючы мяне да сябе»**

сустрэцца. «Вестка пра смерць Янкі прашыла мяне наскрозь», — пісаў Міцкевіч Ігнату Дамейку ў Чылі: «Перад смерцю ён выдаў беларускія песні, і яны там мелі вялікую прыхільнасць». Зборнік «Сялянскіх песень» Адам Міцкевіч чытаў у «мінуты адзіноты і настальгіі». А апошні раз Ян Чачот прысніўся Адаму Міцкевічу за некалькі месяцаў да смерці, «як бы запрашаючы мяне да сябе». ◆



**Магіла Яна Чачота** ў Друскеніках, сучасная Літва.

### Крывіцкі слоўнік

У шостым зборніку «Сялянскіх песень» Ян Чачот падрыхтаваў невялікі крывіцкі слоўнік тлумачальнага тыпу. Большасць слоў з першай паловы XIX стагоддзя актыўна ходзяць і ў сённяшняй беларускай. А некаторыя засталіся ў тым часе ці прынамсі актыўна не выкарыстоўваюцца ў літаратурнай мове.

**Дубас** — вялікі і тупы нож.

**Ціхень, ціхінь** — невялікі гром. Выйшаў ціхінь — загрымела. Гэта слова наводзіць на аналогію з другім выразам сялян: у час пажару замест *гарыць* кажуць *мокне*. Ціхіня — таксама азначае спакойны чалавек, які не ўмее пастаяць за сябе: не ўмее адважыцца.

**Дурэц** — зелле, якое дурманіць, верагодна, дурман.

**Глузды** — кемлівасць. Ці маеш ты глузды? — Ці кемлівы ты? Страціў глузды — страціў прытомнасць. Бязглузды — дурны. Разглуздацца — апомніцца, перадумаць, вярнуцца да прытомнасці.

**Кажан** — лятучая мыш. Называюць кажаном таксама чалавека малога росту альбо дзіця, якое кепска расце, нэндзнае.

**Кудаса** — завея, замець.

**Лёстачкі** — нейкія пяшчоты для выманьвання чаго-небудзь. Можа, роднасны расійскаму «лесть» альбо польскаму неўжыванаму *lostować* — лашчыць, забаўляцца, раскашаваць.

Цалкам слоўнік можна паглядзець у прысвечаным Яну Чачоту томе серыі «Беларускі кнігазбор» (Ян Чачот, «Выбраныя творы», Мінск, 1996).

# БЕТХОВЕН

## *Без барацьбы няма перамогі*

**Пра кампазітара неверагоднага таленту, які пісаў, нават калі аглух, піша піяніст Віталь Стахіевіч.**

Людвіг ван Бетховен, 250 гадоў з дня нараджэння якога мы адзначаем сёлета, — бацька сучаснага фартэпіяннага мастацтва. Ён пакінуў па сабе цудоўных вучняў-піяністаў, найперш Фердынанда Рыса і Карла Чэрні. Чэрні напісаў мноства фартэпіянных эцюдаў рознай ступені складанасці, міма якіх не праходзіць ніводны вучань, які займаецца на піяніна.

Вучнем Карла Чэрні быў вялікі венгерскі кампазітар і піяніст Фер態нц Ліст, які ў сваю чаргу перадаў сакрэты майстэрства Антону Рубінштэйну, Ігнату Яну Падэрэўскаму і Тэадору Лешаціцкаму — айцу рускай фартэпіяннай школы. У Лешаціцкага, дарэчы, займаўся Уладзімір Пухальскі, ураджэнец Менска, якога вельмі падтрымліваў ягоны зямляк Станіслаў Манюшка.

І сёння практычна кожны выпускнік класа фартэпіяна Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі вядзе свой «музычны радавод» ад уласнага педагога — праз выдатных прафесараў Маскоўскай, Санкт-Пецярбургскай, Варшаўскай, Кіеўскай кансерваторый — аж да Ліста, Чэрні і Бетховена.


WIKIMEDIA COMMONS

Ёзэф Карл Штылер. **Партрэт Людвіга ван Бетховена**, 1820 год.

### Асаблівая частыя *sforzato*

Людвіг ван Бетховен нарадзіўся 16 снежня 1770 года ў Боне. З 1949 года гэты ў прынцыпе не надта буйны горад 40 гадоў выконваў функцыю сталіцы Германіі. А ў бетховенаўскія часы гэта таксама быў, лічы, сталічны горад, бо ў ім размяшчаўся двор ▶



**Ёган ван Бетховен (1739–1792) і Марыя Магдалена Кеверых (1746–1787)**, бацькі кампазітара. Партрэт невядомага мастака.

## Цяжкасці перакладу

Нідэрландскі прыдомак да прозвішча «ван» (насамрэч — «фан», *van Beethoven* вымаўляецца [фан Бе:тофэн]) ніколі не азначаў прыналежнасці да арыстакратыі. Але яго часта блыталі з нямецкім арыстакратычным прыдомкам *von* («фон»), а таму як арыстакрата ўспрымалі і Бетховена. Аднойчы Бетховену давялося адстойваць правы на апякунства пасля смерці брата над пляменнікам Карлам. Пазоў разглядаўся ў земскім судзе для найвышэйшых саслоўяў, але Людвіг падчас разгляду выпадкова прагаварыўся пра гэтую моўную недакладнасць. Гэта каштавала яму нямала непрыемнасцяў, а разгляд справы быў перанесены ў больш просты грамадзянскі суд магістрата.

▸ кёльнскага курфюрста Святой Рымскай імперыі, прыдворныя тэатр і капэла.

Тата Людвіга Ёган быў спеваком у бонскай капэле. Дзед будучага кампазітара — таксама Людвіг, або па-фламандску Лёдэвяйк, — паходзіў з Мехелена (сёння — Бельгія) і таксама быў музыкантам, спяваў і дырыжыраваў у бельгійскіх царкоўных хорах, пакуль не быў запрошаны баварскім курфюрстам у Бон, дзе стаў капельмайстрам (галоўным дырыжорам).

Таму і маленькі Людвіг з самага ранняга дзяцінства жыў музычным жыццём. Займаўся на фартэпіяна і скрыпцы, у 12 год ужо іграў у аркестры музычнага тэатра, даваў сольныя канцэрты і нават меў першыя апублікаваныя творы. Нават ягоныя юнацкія спробы, хоць і падобныя да музыкі Франца Ёзафа Гайдна, Вольфганга Амадэя Моцарта або першага настаўніка Хрысціяна Готлаба Нефэ, адразу прыцягвалі ўвагу сваім нязвыклым тэмпераментам і віртуознасцю. Асабліва арыгінальнымі былі частыя *sforzato* — асобныя ноты ў партытурах, якія іграюцца з нечаканым гучным акцэнтам.

**Дэвіз усяго жыцця Бетховена: «Без пакут няма барацьбы, без барацьбы няма перамогі, без перамогі няма кароны»**

З маленства Бетховена параўноўвалі з Моцартам — самым знакамітым вундэркіндам тых часоў, на той момант ужо шырока вядомым кампазітарам. Аднак, у адрозненне ад маленькага Вольфганга, чый бацька Леапольд арганізоўваў для геніяльнага сына стамляльныя канцэртныя туры па гарадах Еўропы, Людвіг у дзяцінстве амаль не падарожнічаў. Ледзь не адзіным выключэннем была паездка разам з маці ў 1783 годзе на гістарычную радзіму ў Нідэрланды, ад якой Бетховен, праўда, быў не ў захапленні.

Тата Бетховена меў цяжкі нораў і з часам ўсё больш цягнуўся да бутэлькі. Затое матуля Марыя Магдалена вызначалася мяккім і цярплівым характарам. Ёй належыць выказванне, якое можна назваць дэвізам усяго жыцця кампазітара: «Без пакут няма барацьбы, без барацьбы няма перамогі, без перамогі няма кароны».

### «Гайдн проста зайздросціць»

У 21 год Бетховен паехаў вучыцца ў Вену — на той час музычную сталіцу Еўропы, дзе стаў вучнем такіх зорак, як Ёзаф Гайдн, Антоніа Сальеры і Ёган Георг Альбрэхтсбергер. Але характарам Людвіг пайшоў у бацьку, таму меў цяжкія стасункі




**Выгляд знакамітай венскай вуліцы Грабэн** у пачатку 1800-х, у бетховенаўскі час.

з усімі. Нават калі кампазітар першай велічыні і еўрапейскай вядомасці Гайдн прапанаваў пазначыць на тытульнай старонцы бетховенаўскага трыа, што мелася выйсці з друку, «вучань Гайдна» — не дзеля ўласнага славалюбства, а проста каб палегчыць малавядомаму яшчэ выхаванцу дарогу да поспеху, — Бетховен гнеўна адмовіўся. Маўляў, «Гайдн яму папросту зайздросціць».

Вена стала домам Бетховена да самага канца ягонага жыцця. Спачатку малады музыка жыў там на невялікую стыпендыю ад баварскага курфюрста. Але па меры таго, як прыходзіла вядомасць, Бетховен пачаў стала атрымліваць замовы на новыя творы ад заможных аматараў музыкі. Умовы зазвычай былі такія: замоўца мог выказваць пажаданні што да фармату твора (склад удзельнікаў, жанр) і папрасіць, каб новы твор быў, напрыклад, не надта складаны тэхнічна. У той жа час музычны складнік новых опусаў і ўзровень іх наватарства цалкам аддаваліся на жаданне кампазітара. Твор прысвячаўся замоўцу, і той атрымліваў ноты з умовай, каб анікому іх не перадаваць на працягу паўгода. Толькі сам кампазітар меў права распараджацца нотамі як хацеў, напрыклад — аддаць іх у друк.

### Адзіная завершаная опера

Бетховена «Фідэліа», якая першапачаткова ствараласяпад назвай «Леанора», запатрабавала ад кампазітара вялікіх высілкаў і перажыванняў. Прэм'еры ў лістападзе 1805 года папярэднічалі пераносы, выкліканыя тэхнічнымі цяжкасцямі твора, а таксама барацьбой з цэнзурай, і некаторыя перапрацоўкі. За тыдзень да прэм'еры Вену заняло французскае войска, арыстакратыя збегла з горада, таму першыя тры паказы адбыліся ў амаль пустой зале. Гэта было музычнае і фінансавае фіяска.




Крысціян Хорнэман. **Партрэт маладога Бетховена**, 1803 год.

## Бетховена як піяніста адрознівала здольнасць на напеўны, вельмі працяглы гук

Першыя опусы, якія выдаваліся вядомай венскай друкарняй «Артарыя», пабачылі свет дзякуючы акцыям, якія мы сёння назвалі б краўдфандынгам. Спярша ў газеце абвяшчалася падпіска ▶

на новы твор, адпаведна з яе вынікамі друкарня атрымлівала замовы. Прычым некаторыя сем'і маглі замовіць адразу 3, 5 або нават 20 экзэмпляраў, чаго, лічы, хапала на пакрыццё ўсіх друкарскіх выдаткаў. Потым ноты выходзілі з друку, і маладому кампазітару прыбытку ад іх хапала амаль на год жыцця.

Але выключна на самаакупляльнасці Бетховен не жыў. Ад пачатку творчага шляху яго падтрымлівалі некаторыя тагачасныя буйныя мецэнаты, вялікія аматары музыкі, такія як прынц Фердынанд Вальдштайн, прынц Карл Ліхноўскі (які раней таксама падтрымліваў Моцарта), барон Готфрыд ван Світэн. Дзякуючы іх падарункам і грашовым ахвяраванням Бетховен змог выступаць у Празе, Дрэздэне і Берліне, мець канцэрты з аркестрамі, выдаваць свае творы.

### Змаганне з дэпрэсіяй

Калі Бетховену было каля 30 гадоў, ён, ужо вядомы піяніст, аўтар некалькіх канцэртаў для фартэпіяна з аркестрам, квартэтаў, санат, адчувае праблемы са слыхам. Жахліва, калі ты разумееш свае магутныя здольнасці, поўны планаў і мараў, задумваеш новыя сімфоніі, оперы, канцэрты, атрымліваеш усё новыя і новыя замовы, і раптам — пагроза глухаты.

Малады кампазітар занураецца ў сябе, перастае прымаць наведвальнікаў, нарэшце, увогуле выязджае з Вены і бавіць некаторы час у блізкім курортным мястэчку Хайлігенштат (сёння гэта адзін з раёнаў Вены). Лекаванне ў тамтэйшых дактароў, насуперак чаканням, не дае аніякага выніку.

6 кастрычніка 1802 года ў Хайлігенштаце быў напісаны знакаміты запавет, які Бетховен адрасуе двум сваім братам, Карлу і Ёгану. Гэта кранальны па шчырасці дакумент, у якім Бетховен разважае пра самагубства, наракае на лёс, які пазбаўляе яго самага неабходнага ў жыцці — слыху, і просіць братоў паклапаціцца аб ягонай маёмасці і інструментах.

І ўсё ж характар Бетховена перамагае (узгадаем тут яго матулю), і ён вяртаецца да жыцця і творчасці. І адразу складае яшчэ больш грандыёзныя, маштабныя творы, такія як Трэцяя сімфонія «Гераічная», араторыя «Хрыстос на гары Аліўнай» або Кройцарава саната для скрыпкі і фартэпіяна.

Праз тры гады брат Напалеона Банапарта Жэром, які быў прызначаны каралём Вестфаліі, прапанаваў Бетховену стаць сваім прыдворным капельмайстрам у горадзе Касэль. Кампазітар нават быў пагадзіўся і ўжо пачаў збірацца ў дарогу, калі адчуў, наколькі моцна венцы насамрэч яго цанілі. Найбольш уплывовыя прыхільнікі ягонага таленту прызначылі яму пажыццёвую пенсію ў памеры 4 000 флорынаў, каб толькі ён застаўся. Гэта былі вялікія грошы, на гэтую пенсію скідваліся некалькі арыстакратаў.




**Нясвіжскі ардынат Антоній Генрык Радзівіл** таксама быў патронам мастацтваў увогуле і кампазітара ў прыватнасці. Бетховен прысвяціў яму ўверцюру *opus* 115 «На імяніны».



**Пакой у доме-музеі Бетховена ў Боне**, дзе знаходзіцца тагачасны раяль *«Broadwood»*, адзін з самых дасканалых на той момант, які вельмі падабаўся кампазітару.

### Да «несмяротнай каханай»

Сямейнага шчасця Бетховен не спазнаў, хоць каханне яго не абмінула. Некалькі разоў даходзіла нават да прапановы рукі і сэрца з боку кампазітара, але аб'екты яго захаплення звычайна былі прадстаўніцамі

найвышэйшага саслоўя, тады як ён, хоць і быў арыстакратам духу, заўсёды востра адчуваў несправядлівасць падзелу грамадства на класы.

**Бетховен быў арыстакратам духу, які востра адчуваў несправядлівасць падзелу грамадства на класы**

Пасля смерці Бетховена сярод яго папер знайшлі вельмі інтымны і пяшчотны ліст да «несмяротнай каханай», напісаны падчас адпачынку ў курортным горадзе Тэпліц (цяпер Тэпліцэ ў Чэхіі) улетку 1812 года. Адрасаткай маглі быць і Джульета Гвічардзі (якой прысвечана знакамітая 14-я Месяцовая саната) і Антонія Брэнтана (самы верагодны варыянт), і яе дачка Бэціна Брэнтана (якая пазнаёміла Бетховена з Гётэ, чыя творчасць натхніла яго на некалькі істотных твораў, напрыклад, на ўверцюру «Эгмант»), і Жазэфіна Брунсвік (маці шасцярых дзяцей ад двух мужоў, якая кахала Бетховена, але яны супольна вырашылі назаўсёды застацца сябрамі пад ціскам абставін і тагачаснай маралі), і Ганна-Марыя Эрдэдзі, і нават нявестка кампазітара Ягана.



WIKIMEDIA COMMONS

**Жазэфіна Брунсвік** (1779–1821). Маці шасцярых дзяцей ад двух мужоў, якая ўзаемна кахала Бетховена. Але яны вырашылі назаўсёды застацца сябрамі пад ціскам абставін і тагачаснай маралі. Партрэт алоўкам невядомага мастака.

**Палітычныя погляды Бетховена** былі дэмакратычныя, прагрэсіўныя як на тыя часы. Трэцюю сімфонію ён збіраўся прысвяціць Напалеону Банапарту. На тытульным аркушы ўжо было напісана *Buonaparte*. Але калі вучань Бетховена Фердынанд Рыс паведаміў, што Банапарт абвясціў сябе імператарам (20 мая 1804 года), Бетховен пракрычаў: «Дык значыць, і ён таксама не больш як звычайны чалавек! І ён таксама растопча ўсе чалавечыя правы дзеля ўласных амбіцый! Ён паставіць сябе па-над усімі і стане тыранам!» І кампазітар са злосці расшкуматаў першую старонку сімфоніі і шпурнуў яе пад ногі.

Пакуты — фізічныя і сардэчныя — мелі вынікам кранальныя, вельмі глыбокія лірычныя сачыненні. Калі ў хуткіх творах або частках твораў генія мы часам чуем нешта грубаватае, простанароднае, асабліва ў нечаканых магутных акцэнтах і неўтаймаваных напорыстых гучаннях, то яго павольная музыка найчасцей надзвычай рамантычная, пачуццёвая, узнёслая. Пазней гэты кірунак знойдзе развіццё ў творах Шуберта, Брамса, Шапэна, Рахманінава, Пракоф'ева...

### Завярнуць у далёкую танальнасць

Музыка Бетховена працягвае традыцыю венскай класікі (Гайдн, Моцарт), але амаль заўсёды выходзіць за рамкі звычаяў. Бетховен або перастравіць часткі санаты месцамі, або дасць раялю ▶




Тытульны аркуш аўтографа Трэцяй сімфоніі Бетховена.

PINTEREST.COM

▶ сольны фрагмент на самым пачатку канцэрта, тады як звычайна экспазіцыю павінен іграць толькі аркестр. Асабліва цікава, як ён распараджаецца танальнасцямі, зноў і зноў прымушаючы дасведчанага слухача (асабліва тагачаснага!) з захапленнем уздымаць бровы.

Любімы прыём — нечакана завярнуць у зусім-зусім далёкую танальнасць, якая не мае ніякага дачынення да агульнай схемы твора, і правесці ў ёй пэўную тэму на празрыстае *pianissimo*.

Яшчэ адна асаблівасць музыкі Бетховена — яе надзвычайная маўленчасць і выразнасць. І фігуратыўныя пасажы, і віртуозныя нагрувашчванні нот або акордаў, не кажучы ўжо пра мелодыі, заўсёды нібыта гавораць і ідуць проста ад сэрца. Гэта можна было б назваць наіўнасцю, калі б змест музыкі, прычым нават ранняга перыяду, а тым больш апошнія бетховенаўскія творы, не быў настолькі глыбокі, шчыры, сапраўды нябесны.

**Пасля смерці Бетховена сярод яго папер знайшлі вельмі інтымны і пяшчотны ліст да «несмяротнай каханай», адрасат якога дагэтуль невядомы**

У творах для фартэпіяна, якія складаюць істотную частку даробку Бетховена, адбываецца сапраўдная эвалюцыя. Жыццё кампазітара — гэта акурат перыяд, калі старадаўні клавесін саступае месца новаму інструменту — раялю. На працягу жыцця кампазітара гэты новы інструмент увесь час удасканальваўся, чаму якраз у немалой ступені паспрыялі творы Бетховена, усё больш віртуозныя і разгорнутыя. Сваімі санатамі і варыяцыямі, працяглымі па гучанні і змястоўнымі, як раманы, ён адкрыў шлях для будучых сольных канцэртаў аднаго піяніста на працягу ўсяго вечара. Цяпер мы ўспрымаем гэта як нешта звыклае, але ў тыя часы гэта было ў навінку.




**Бетховен падчас працы.**
Карл Шлёсэр, 1811.

### Фінальны акорд

1815–1817 гады пазначаныя зніжэннем творчай актыўнасці Бетховена. Гэта магло быць выклікана і паразамі на асабістым фронце, і ўзмацненнем глухаты, і іншымі прыкрымі хваробамі, што пачалі даймаць яго. Пра гэты перыяд жыцця мы ведаем нямала, бо на схіле гадоў Бетховен з-за глухаты вымушаны быў карыстацца размоўнымі сшыткамі. Многія з іх захаваліся, што дае нам неацэнныя крыніцы падрабязнасцяў жыцця кампазітара (як калі б нехта ўсталяваў дыктафон у яго пакоі).

Аднак на весткі пра паразы войскаў Напалеона ў Віторыі, Ляйпцыгу, Ватэрлоа Бетховен разам з іншымі аўстрыйцамі рэагаваў з захапленнем і склаў некалькі твораў, мастацкую вартасць якіх сёння цяжка ацаніць асобна ад палітычнага кантэксту тых часоў (напрыклад, *Wellingtons Sieg* — Батальная сімфонія).

На апошні перыяд жыцця Бетховена прыпалі сапраўды

**Уладзімір Караткевіч** неаднаразова ў сваёй творчасці звяртаўся да постаці Бетховена. Напрыклад, у цыкле «Горкія напевы» ён пачуццёва намаляваў канфлікт генія з грамадствам ці, хутчэй, з вяршкамі гэтага грамадства. Канфлікт, добра вядомы кожнаму яркаму творцу — у тым ліку самому Караткевічу.

[…]
Каб, пачуўшы, як катуюць «Лунную»,
Утрапёны Людвіг мог устаць,
Ён бы паглядзеў і проста плюнуў:
Дзеля вас не варта паміраць.
І сказаў бы: «Хопіць біць у грудзі.
Хай мяне пазбавяць галавы,
Каб мяне не прызнавалі людзі,
Чорта з два мяне любілі вы.
Лаялі б за «дзікія акорды»,
Сваркі з «мецэнатамі» штодзень,
За галечу, барацьбу і гордасць
І за тое, што глухі як пень.
Што пражыў жыццё, не стаўшы Крэзам,
Што ішоў дарогаю прамой.
Што метал магутны «Марсельезы»
Прагучэў у творчасці маёй.
Ад суседства «Эгманта» з факстротам
Ашалее ўрэшце і святы.
До разводзіць тут нуду і слоту.
Я іду. Хадзем са мной і ты.
[…]




ФОТА ВІТАЛЯ СТАХІЕВІЧА

вялікія, нават каласальныя творы. Сярод іх і такія, як *Missa Solemnis* («Урачыстая імша», якую Бетховен неаднаразова называў галоўным творам свайго жыцця) або Дзявятая сімфонія (для сімфанічнага аркестра, хору і салістаў, са знакамітай «Одай да радасці», якая сёння стала афіцыйным гімнам Еўрапейскага саюза).

Калі ў 1824 годзе Дзявятая сімфонія была завершаная, Бетховен ужо амаль дзесяць год не меў уласных канцэртаў у Вене і таму сумняваўся, ці не адстаў ад густаў тамтэйшай публікі. Ён нават зрабіў захады, каб прэм'ера гэтай сімфоніі прайшла ў Берліне. Але адразу ж Бетховен атрымаў калектыўны ліст ад найбольш паважаных музыкантаў Вены з просьбай пра першае выкананне твора менавіта там.

7 мая 1824 года Бетховен дырыжыраваў прэм'ерай Дзявятай сімфоніі ў перапоўненай венскай зале, дзе толькі каралеўская ложа засталася пустою, з авацыямі і крыкамі «Віват!», якія практычна глухі на той момант кампазітар нават не мог пачуць. Рэцэнзіі на канцэрт былі выдатныя, і 23 мая адбыўся паўторны. Яму было суджана стаць апошнім у жыцці Бетховена.

Праз тры гады, 26 сакавіка 1827 года, Людвіг ван Бетховен памёр падчас моцнай навальніцы. На яго пахаванне 29 сакавіка прыйшло каля дваццаці тысяч чалавек. ◆

**Дваццаць гадоў таму ў горадзе-пабрацiме Мiнска, Боне, адбыўся цыкл канцэртаў, у якiх дзевяць беларускiх пiянiстаў выканалi дзевяць сiмфонiй Бетховена ў транскрыпцыi для фартэпiяна Феранца Лiста.** Тады, у верасні 2000-га, на галоўнай плошчы горада, ля помніка Бетховену, сімфоніі гучалі на працягу некалькіх дзён у храналагічным парадку. Ігралі студэнты Беларускай акадэміі музыкі, якія сёння ўжо — сталыя выканаўцы: Сяргей Смірноў, Кацярына Глазоўская, Віталь Стахіевіч, Караліна Кірыльчык, Алег Бабій, Аляксандр Музыкантаў, Дзмітрый Уласюк, Расціслаў Крымер, Іван Сцепанцоў. Яшчэ раней, 25 гадоў таму, адбыўся падобны праект, у якім ігралі народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў, Юрый Бліноў, Ксенія Кузменка, Ганна Шыбаева, Сяргей Мікулік, Вікторыя Пуцілава, Ірына Шырынава і іншыя.



**Пахаванне Бетховена.** Карціна Франса Шцёбера, 1827.



**Бетховенаўская Дзявятая сімфонія** ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Запіс тэлеканала «Беларусь-3» з канцэрта да Дня Еўропы, 2014 год.

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

# Гета, якое разбурыла муры

**Дарога ў Гета.** Венецыя.

**Пандэмія каранавіруса прымусіла чалавецтва адчуць тое, што цягам гісторыі неаднаразова зведаў габрэйскі народ, — жыццё ў ізаляцыі. Пра першае ў гісторыі гета, што амаль тры стагоддзі існавала ў Венецыі, піша Андрэй Дзмітранок.**

1865 год. На старонках нямецкай энцыклапедыі *«Rotteck-Welckeschen Staatslexikon»* друкуецца невядомае раней слова «антысемітызм». Вызначэнне новае, але нецярпімасць і варожае стаўленне да габрэяў старое як свет.

Яшчэ на стэле егіпецкага фараона Мернептаха (1213–1203 да н. э) напісана «*I.si.ri.ar*», што інтэрпрэтуецца як «Ізраіль спустошаны, яго семені няма». І гэта толькі першая пісьмовая згадка. Выгнанне, знішчэнне, побытавы пераслед з боку суседзяў — у чым так правініліся нашчадкі цара Давіда?

Навукоўцы бачаць вытокі стаўлення ў іх веры — іўдаізме. Ён, у адрозненне ад іншых старажытных рэлігій, меў непарушны прынцып веры ў адзінага Бога. Монатэістычныя хрысціянства і іслам з'явяцца пазней, і доўгі час габрэям давядзецца быць у цэлым свеце адзінымі незразумелымі і небяспечнымі дзівакамі. Да таго ж гэты народ ва ўсе часы, як мог, пазбягаў асіміляцыі, што дазволіла яму захаваць самабытнасць, але ніяк не спрыяла добрасуседству.

Чужыя, закрытыя, лічаць сябе абраным народам, а яшчэ распялі Ісуса Хрыста — усё гэта рабіла іх ізгоямі. Антысемітызм стане часткай дзяржаўнай палітыкі многіх уладароў задоўга да вынаходніцтва гэтага тэрміна. Які, між іншым, зусім некарэктны, бо арабы, цяперашнія непрымірымыя суседзі-ворагі габрэяў, таксама належаць да той жа семіцкай моўнай сям'і. Але «антысемітызм» — гэта выключна пра габрэяў.

### Спалучаць супрацьлеглае

У старажытнасці габрэі мелі Іўдзейскае царства, але з I–II стагоддзя н. э., пасля паразы паўстанняў супраць Рымскай імперыі, аж да XX стагоддзя яны жылі ў рассеянні, у выгнанні.

У Венецыянскай лагуне іўдзеі пачалі сяліцца з XII стагоддзя. Але ў Венецыю яны доступу не мелі — жылі пераважна на астравах Джудэка, якія дзякуючы ім і займелі такую ▶

# Кароткая гісторыя габрэйскага выгнання

Хоць буйная габрэйская дыяспара па-за межамі Палесціны пачала рознымі шляхамі фармавацца яшчэ ў сярэдзіне I тысячагоддзя да н. э., сітуацыя, калі выгнаным з роднай зямлі стаў практычна ўвесь габрэйскі народ, бярэ пачатак з першых стагоддзяў I тысячагоддзя н. э.

Родная для габрэяў Зямля Ізраільская, вядомая з Бібліі, з VI стагоддзя да н. э. не мела поўнай палітычнай самастойнасці. Вярхоўнае кіраванне ёю ажыццяўлялі заваёўнікі, якія змянялі адзін аднаго: вавіланяне, персы, грэкі, рымляне. Калі габрэяў пачыналі надта моцна ўціскаць, замахваючыся на іх самабытнасць, перадусім рэлігійную, то тыя ўздымалі паўстанні. Адразу некалькі іх адбылося ў I–II стагоддзях н. э. супраць рымлян, і гэтыя выступленні, якія часта называюць Іўдзейскімі войнамі, скончыліся для габрэйскага народа катастрофай. У 70 годзе святы для яго Іерусалімскі храм быў спалены, сам горад разбураны, а сотні тысяч габрэяў мусілі скіравацца ў выгнанне.

Сыход габрэяў з Палесціны (такую назву гэтаму рэгіёну далі рымляне) пад уплывам розных неспрыяльных для іх фактараў працягваўся некалькі стагоддзяў. У выніку яны ператварыліся на гістарычнай радзіме толькі ў невялікую меншасць. Габрэйская ж дыяспара тым часам разрасталася, большыя ці меншыя абшчыны ўтвараліся літаральна ва ўсіх кутках тагачаснага свету.

Сувязяў паміж сабой габрэі розных мясцовасцяў часта не мелі, але ад асіміляцыі іх ратавала надзвычайная вернасць сваёй старажытнай рэлігіі — іўдаізму. Гэта адбывалася на фоне пераможнага шэсця дзвюх іншых, тады яшчэ зусім маладых монатэістычных рэлігій, хрысціянства і мусульманства, на карысць якіх добраахвотна ці пад прымусам з часам зрабілі выбар амаль усе іншыя народы Еўропы, Заходняй Азіі і Паўночнай Афрыкі.

Пры вялікай расцярушанасці па свеце габрэйская дыяспара проста не магла быць зусім аднароднай. Розныя ўмовы жыцця ў розных краінах, рознасць стаўлення з боку дзяржаўных і рэлігійных уладаў і рознасць узаемаадносін з мясцовым насельніцтвам не маглі не накладаць на розныя часткі дыяспары істотнага адбітку. Абшчыны кожнай краіны розніліся паміж сабой, а ўся дыяспара падзялялася на тры асноўныя групы: ашкеназы (габрэі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, размоўнай мовай якіх быў ідыш з германскай моўнай групы), сефарды (габрэі Паўднёвай Еўропы, размоўная мова якіх — ладзіна з раманскай моўнай групы) і мізра́хі (габрэі, якія жылі ў розных краінах Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі і размаўлялі ў асноўным па-арабску ці па-персідску). Адрозненні былі не толькі моўныя — вызнаваны ў розных рэгіёнах іўдаізм таксама мог мець у дэталях пэўныя асаблівасці, бо многае залежала ад інтэрпрэтацый Пісання вучонымі рабінамі.

Вернасць габрэяў іўдаізму і будаванне асабістага жыцця людзей ды ўсёй супольнасці ў адпаведнасці з патрабаваннямі габрэйскага закона (Галахі) мелі вынікам, як правіла, ізаляцыю габрэйскай супольнасці ў адпаведных грамадствах. Адносна загадкавых іншаверцаў складаліся негатыўныя стэрэатыпы, часта на іх ускладалі віну за розныя няшчасці. Усё гэта, абцяжаранае эканамічнай канкурэнцыяй, прыводзіла да амаль няспынных канфліктаў, рэпрэсій і пагромаў.

У дачыненні да габрэяў часта прымяняліся дыскрымінацыйныя абмежавальныя захады, накшталт рысы аселасці, якая практыкавалася ў Расійскай імперыі з канца XVIII стагоддзя да Першай сусветнай вайны. А часам улады той ці іншай краіны ўвогуле выганялі ўсіх габрэяў са сваёй тэрыторыі пад страхам смерці, як гэта адбывалася, напрыклад, у Англіі ў 1280 годзе ці ў Іспаніі ў 1492-м. Найбольш жа вядомы і трагічны выпадак антыгабрэйскіх рэпрэсій — генацыд, учынены нямецкімі нацыстамі падчас Другой сусветнай вайны, ахвярамі якога стала большая частка габрэйскага насельніцтва на падуладных Трэцяму рэйху тэрыторыях.

Габрэі ў выгнанні ніколі не забываліся пра сваю «Зямлю запаветную» і Іерусалім, краіна і святы горад заўсёды заставаліся для іх ідэалам і сімвалам, яны марылі туды вярнуцца. Былі часам нават і канкрэтныя крокі, на гэта скіраваныя, але яны не набывалі шырокага размаху. Толькі ў XIX стагоддзі, калі сярод габрэйскай супольнасці аналагічна з іншымі народамі Еўропы пачалі развівацца працэсы нацыянальнай эмансіпацыі, узнік шырокі палітычны рух за вяртанне на зямлю продкаў, які ад сімвалічнай для габрэяў гары Сіён атрымаў назву сіянізму.

Пад уплывам сіяністкіх ідэй яшчэ з пачатку 1880-х гадоў пачаліся перасяленні асобных энтузіястаў у Палесціну, якая ў той час была часткай Асманскай імперыі. Пасля гэтага перасяленчы рух ужо ніколі не спыняўся і чым далей, тым набываў усё больш масавы характар, тым больш што гэтаму спрыяў пашыраны ў розных краінах Еўропы антысемітызм. У выніку да 1940 года колькасць габрэйскага насельніцтва ў Палесціне (з 1922-га падмандатнай тэрыторыі Вялікабрытаніі) дасягнула 450 тысяч чалавек, каля траціны ўсяго насельніцтва. Наступная ж палітычная кан'юнктура дазволіла ў 1948 годзе дабіцца ўтварэння Дзяржавы Ізраіль, што дало габрэям магчымасць нарэшце рэалізаваць сваю надзею, «якой дзве тысячы гадоў», — «быць свабодным народам на сваёй зямлі, краіне Сіёна і Іерусаліма».

назву (ад італьянскага слова *Giudei* — «габрэі»).

Чым была і якой велічы дасягала Венецыянская рэспубліка, можна пачытаць у артыкуле «Венецыя, якая патанае» (№2/2020 «Нашай гісторыі»), а зараз я адзначу адну важную асаблівасць. Гэта быў горад, які браў адусюль найлепшае і ведаў, як спалучаць супрацьлеглае. У 1382 годзе Сенат Венецыянскай рэспублікі дазваляе іўдзеям жыць у Венецыі. Спачатку на тры гады, але потым тэрмін неаднаразова падаўжаюць, бо габрэі спрыяюць развіццю горада, а ў Венецыі няма ніякіх рэсурсаў, апроч мора і таленту яе жыхароў.

Так распачынаюцца ўзаемавыгадныя адносіны, якія неаднаразова будуць перарывацца рэлігійнымі абвастрэннямі, калі габрэяў выганялі, каб потым вярнуць. Гойданне арэляў спыніў у пачатку XVI стагоддзя дож Леанарда Ларэдана: загадам ад 29 сакавіка 1516 года ён дазволіў іўдзеям жыць на ўскрайку Венецыі, у межах астравоў Канарэджа. У раёне пад назвай *Ghetto*.

## Варта хрысціянская, а плата габрэйская

Калі трапляеш у сённяшнюю Венецыю, Гета не падаецца нечым значным. Яго можна мінуць і нават не заўважыць, настолькі гэта малая і непрыкметная на першы позірк прастора. Ужо потым звяртаеш увагу, што дамы тут вышэйшыя, чым у іншых раёнах, а вулкі вузейшыя.

Першапачатковае значэнне слова *ghetto* — ліцейня, ці плавільня, бо тут адлівалі медзь для гармат рэспублікі. Але вытворчасць, звязаная з агнём, прыводзіла да частых пажараў, таму збройнікаў, як і вытворцаў шкла, перасялілі на аддаленыя астравы. Пасля гэтага Гета-«плавільня» дала прытулак габрэям з усёй Еўропы і набыла сімвалічны сэнс. Бо ўрэшце стала тым месцам, дзе гандлёвы досвед і веды сефардаў (габрэяў Іспаніі і Партугаліі) спалучаліся з банкаўскімі і рамеснымі здольнасцямі ашкеназі (цэнтральнаеўрапейскіх габрэяў). Народ праз стагоддзі яднаўся, каб выйсці з плавільні Гета яшчэ больш загартаванай сталлю.

Толькі разглядаць гэтую гісторыю як цалкам пазітыўную не выпадае. Адначасова з паратункам (рэспубліка гарантавала адносную недатыкальнасць ад інквізіцыі) Гета стварала прыніжальную ізаляцыю. Габрэі не маглі валодаць нерухомасцю, усё іх жытло было арэндным, і плацілі яны за яго ўтрая больш за венецыянцаў. Сам востраў Гета нагадваў крэпасць, зачыняўся ўначы з апошнім ударам званоў сабора Сан-Марка і адмыкаўся раніцай. Выходзіць дазвалялася выключна габрэям-дактарам: хваробы не зважалі на гадзіннік і загад дожа. Каб прыніжэнне было больш адчувальным, за ізаляцыяй сачыла



**Венецыя з вышыні птушынага палёту.** Прыблізная тэрыторыя Гета ўзятая ў кружок. Яна была вельмі маленькая.

SHUTTERSTOCK.COM, BY GOKTURK_06

хрысціянская варта, а заробак за гэта ёй выплачвалі іўдзеі.

За межамі Гета габрэйскія мужчыны павінны былі насіць на вопратцы жоўтыя кругі (пазней жоўтыя берэты), жанчыны — жоўтыя шалікі. У 1553-м на плошчы Сан-Марка спаляць Талмуд, а ў 1568-м — тысячы іншых габрэйскіх кніг. Калі такая Венецыя выглядала паратункам, страшна сабе ўявіць, што адбывалася за яе межамі.

## Небараку чакала кастрацыя

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што габрэйская царква мела свой інтарэс у ізаляцыі. Невыпадкова вокны дамоў Гета выходзілі ў двары: хрысціянскія святы лічыліся ідэалагічна варожымі. У Венецыі праходзіць карнавал? Габрэі пра яго толькі чулі — удзельнічаць ім забаранілі ў сінагозе. Усё чужое, што несла пагрозу еднасці і цэласнасці грамадзе, расцэньвалася як здрада. Калі мужчына-габрэй меў інтымную сувязь з хрысціянкай, небараку чакала кастрацыя. За пераход у хрысціянства ўвогуле не было даравання. Не верыце? Калі стоміцеся гуляць па Венецыі, знайдзіце пліту на Канарэджа, дзе высечана на мармуры: «Яго Светласць і мае абаронцы веры забараняюць габрэям, якія перайшлі ў хрысціянства, уваходзіць у Гета на любой падставе. У выпадку непадпарадкавання вінаватых чакаюць турма, катарга і народнае высмейванне. Інфарматары будуць узнагароджаныя працэнтам ад тавару, канфіскаванага ў здраднікаў веры».

## Чатыры прафесіі

Статус габрэяў у Венецыі быў заўжды хісткі. Напрыклад, у 1571 годзе венецыянцы добра


SHUTTERSTOCK.COM. BY CLARA BONITTI

У Венецыянскае гета прыязджаюць **габрэі з розных краін.** Цяпер гэта месца памяці.

сходзілі ў крыжовы паход і на радасцях ад перамогі вырашылі выгнаць суседзяў. Але калі падлічылі магчымыя страты, то зрабілі ласку: дазволілі застацца, падняўшы падаткі. Урэшце, Венецыя найперш кіравалася камерцыйнымі інтарэсамі. Любая радыкалізацыя настрояў пагражала стратай даверу з боку купцоў, што прыплывалі сюды з усяго свету. Да таго ж дзе яшчэ можна хутка знайсці грошы, як не ў габрэяў?

Хрысціянская царква забараняла даваць грошы пад працэнт, а іўдзейская такую дзейнасць вітала. У Гета адкрываюцца «Чырвоны», «Зялёны» і «Чорны» банкі. Колеры мелі практычны сэнс: чэкі, як і сцены банкаў, адпавядалі назвам, што было асабліва важным для непісьменных. Фактычна хрысціяне самі стваралі нагоду, каб потым папікаць габрэяў ліхвярствам і няправедна нажытым багаццем. Камусьці было неабходнае фінансаванне для гандлёвых аперацый, а хтосьці шукаў грошы, каб пражыць бягучы дзень — іх усіх чакалі ў Гета.

Апроч банкаўскай справы, габрэям яшчэ дазвалялася лячыць, гандляваць і займацца рамонтам, іншыя прафесіі былі забароненыя. Толькі навошта столькі лекараў, гандляроў ды банкіраў з рамонтнікамі? Каб забяспечыць заняткам усіх, у банках працавалі толькі па два дні, а далей давалі магчымасць зарабіць іншым. Ва ўмовах ізаляцыі і цеснаты салідарнасць была неабходнасцю. Пашырэнне межаў Гета за кошт далучэння ў 1541 годзе Старога Гета (*Ghetto Vecchio*), а ў 1633 годзе — Найноўшага Гета (*Ghetto Novissimo*) палепшыла становішча, але не кардынальна.

На піку росквіту ў XVII стагоддзі насельніцтва Гета налічвала пяць тысяч чалавек, што вельмі шмат для такой маленькай тэрыторыі. Уявіце васьміпавярховы дом, у ім маленькую кватэру, дзе жывуць ад 10 да 15 чалавек, а вышыня столі роўная прыкладна 170 см. Таму дома бывалі, каб паспаць ды паесці, астатні час бавілі на вуліцы ці на плошчы Кампа дэль Гета (*Campo del Ghetto*). ▶

### ▸ Чырвонага і залатога

Ліхвярства прыносіла грошы, а яны давалі магчымасці. Габрэі не маглі быць архітэктарамі, але маглі заплаціць Бальтасару Лонгену, аўтару знакамітага храма Санта Марыя дэла Салютэ, каб ён спраектаваў Вялікую Іспанскую і Леванційскую сінагогі. Асабліва вылучаецца раскоша Іспанскай з яе каларыстыкай чырвонага і залатога ў атачэнні чорных калон, з балюстрадай з вішнёвага дрэва і срэбнымі кандэлябрамі.

Свае ўласныя храмы мелі габрэі Італіі, Францыі і Германіі — агулам было і застаецца 5 сінагог. Такім чынам, габрэйская супольнасць здолела стварыць свой маленькі, але самадастатковы свет з крамамі, што гандлявалі кашэрнымі прадуктамі, і друкарнямі — найбуйнейшымі ў Еўропе. Славу прыносіў габрэйскі тэатр, на тэрыторыі Гета дзейнічала кансерваторыя.

Венецыя была заможнай. Яе параўноўвалі з куфрамі, поўнымі каштоўных камянёў, і нават у ізаляцыі адбываўся

## Гета сёння — гэта што?

Гісторыю і сучаснасць Гета я абмеркаваў з Рыкарда Калімані, віцэ-прэзідэнтам габрэйскай супольнасці Венецыі. Сям'я Калімані — увасабленне Гета. Яны жывуць тут ад пачатку яго заснавання: Эліа Калімані быў фундатарам *Banco Rosso*, Сымон Калімані ў XVIII стагоддзі напісаў маральны трактат. Сёння іх нашчадак — аўтар шматлікіх кніг пра іўдаізм і грамадскі дзеяч.

**— Сіньёр Рыкарда, Гета сёння — гэта што?**

— Гета ўжо не габрэйскі квартал. У пачатку XX стагоддзя габрэяў у Венецыі было дзве тысячы, да Другой сусветнай вайны заставалася 1 200, больш за 200 пазней загінула ў лагеры смерці. Сёння агулам у Венецыі жыве каля 400 габрэяў, а непасрэдна ў Гета — толькі пяць сем'яў. Невялікая колькасць. Але Гета ўнікальнае сваім гістарычным досведам і скарбамі, што захоўваюць нашы архівы і пяць сінагог. Тут квітнела вельмі важная кніжная індустрыя, здольная экспартаваць кнігі па ўсім свеце. Гета дапамагло захаваць нашу ідэнтычнасць.



SHUTTERSTOCK.COM, BY ALESSANDRO CRISTIANO

Плошчы ў Венецыі адыгрывалі важную ролю, бо там знаходзіліся калодзежы. У Гета значэнне плошчы падвойвалася. **На Кампа дэла Гета збіраліся ўсе, вялікія памеры плошчы дазвалялі не адчуваць цеснату свайго жытла і брамаў, што апускаліся за мастамі.**



ФОТА З АРХІВА RICCARDO CALIMANI

**Рыкарда Калімані.**

**— Сёлета чалавецтва сутыкнулася з неабходнасцю схавацца па кватэрах і жыць не адзін месяц у ізаляцыі. Вы можаце параўнаць нашу сітуацыю з тым, што зведалі габрэі?**

— Што цікава, дык гэта тое, што дзве ізаляцыі маюць кропкі судакранання, але і адрозненні таксама вельмі прыкметныя. Тады ізаляцыя тычылася толькі аднаго народа, зараз усіх. Але што тады, што сёння галоўнае — не перасварыцца сярод сваіх жа, і для гэтага мусіць быць вялікая салідарнасць і ўзаемадапамога.

**— Як ва ўмовах ізаляцыі габрэі знаходзілі сілы?**

— Унутры Гета адбывалася інтэнсіўнае і вельмі палкае культурнае жыццё, сілкаванае этыкай і перш за ўсё моцнай сацыяльнай згуртаванасцю. Гэта быў маленькі і цесны свет, але здольны да вельмі моцнага сацыяльнага кантролю, які заўсёды імкнуўся да Свабоды з вялікай літары. Такім чынам, жыццяздольнасць ніколі не згасала, а ізаляцыя была магутнай спружынай, якая, як толькі стала магчыма, паспрыяла нашаму росквіту і незвычайнаму імпульсу ў будучыню.

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Манумент ахвярам Халакосту на плошчы Гета.** Падчас Другой сусветнай вайны 250 габрэяў Венецыі былі адпраўленыя ў канцэнтрацыйныя лагеры Аўшвіца і Трыеста. Вярнуліся толькі васьмёра.

культурны абмен паміж хрысціянамі і габрэямі. Даследчыкі бачаць у творчасці мастака XVI стагоддзя Цінтарэта (*Tintoretto*) уплыў габрэйскай супольнасці Венецыі. А венецыянец у сваю чаргу натхняў шмат у чым Рэмбранта з ягоным апісаннем жыцця габрэяў Амстэрдама.

## Брамы ўрачыста спалілі

Свабоду ў 1797-м прынёс Напалеон. Для Венецыянскай рэспублікі адзінаццаць стагоддзяў незалежнай і самабытнай гісторыі скончыліся акупацыяй, а для габрэяў гэта азначала пачатак Свабоды. Брамы ў Гета ўрачыста спалілі, але канчатковага вызвалення давядзецца яшчэ чакаць, бо Францыя перадасць кантроль над Венецыяй Аўстрыі, якая адновіць дыскрымінацыю. Толькі ў 1866 годзе, пасля ўтварэння адзінай Італіі, Гета нікога больш не будзе абмяжоўваць. Частка габрэяў пакіне яго адразу, накіраваўшыся пераважна ў Амерыку, частка пераедзе ў іншыя раёны Венецыі, а хтосьці застанецца.

Цяпер Гета — гэта гісторыя. Як і пяць стагоддзяў таму, можна прайсціся тымі ж вулкамі — экстэр'еры амаль не змяніліся. Ёсць бібліятэка Рэната Маэстра, Музей габрэйскага мастацтва, прадаюцца кашэрныя ласункі, піца.

Але гэта не проста турыстычнае месца. Тут на невялічкай прасторы ўвасобіліся боль і слава цэлага народа, адсюль нацысты ўзялі ідэю габрэйскіх гета ў XX стагоддзі. Гісторыя павінна чамусьці вучыць. Гета няма, і яно мусіць не паўтарыцца ніколі зноў. ◆



**Падрабязней пра гісторыю і сучаснасць гэтага раёна Венецыі** глядзіце ў дакументальным фільме аўстрыйскага рэжысёра Клаўса Штандля «Венецыянскае гета. 5 стагоддзяў гісторыі» (2016 год).

# І ўжо не ведаеш, што лепш

## *Ад свінарнікаў да спіртзавода: як у БССР выкарыстоўвалі зачыненыя цэрквы*

**У храмах захоўвалі збожжа і гародніну, глядзелі фільмы, займаліся спортам, танцавалі, вучыліся, жылі, лячыліся і працавалі. Піша экскурсавод Сцяпан Лютых.**

Да пачатку Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі налічвалася больш за 3 тысячы цэркваў, паўтысячы касцёлаў, каля 2 тысяч сінагог і малельных дамоў, 30 пратэстанцкіх храмаў і два дзясяткі мячэцяў.

Але ў 1917 годзе да ўлады прыйшла партыя бальшавікоў, адной з ідэалагічных асаблівасцяў якой было ваяўнічае бязбожніцтва. Бальшавікі ад самага пачатку свайго кіравання з імпэтам узялі курс на выкараненне рэлігіі, і палова Беларусі, якая знаходзілася пад іх уладай міжваеннае дваццаціголдзе, адчула гэта на сабе ў поўнай меры. У 1937-м у тагачаснай БССР (без заходняй часткі) засталося толькі 74 царквы, 71 сінагога і 11 касцёлаў. А ў наступным годзе адбыўся ўвогуле «круты пералом», пасля якога дзейнымі засталіся толькі тры праваслаўныя храмы (у Бабруйску, Оршы і Мазыры), а дзейных касцёлаў, сінагог і мячэцяў не засталося зусім (гл. пра антырэлігійную палітыку ў БССР тых часоў артыкул Андрэя Дынько «“Канчатковае вырашэнне” праваслаўнага пытання ў даваеннай БССР» у №11/2019 «Нашай гісторыі»).

У 1939 годзе да БССР была далучана Заходняя Беларусь, у якой на той момант налічвалася каля 800 дзейных цэркваў, больш за 400 касцёлаў, прыкладна такая ж колькасць сінагог і каля двух дзясяткаў мячэцяў. Зачыніць такую колькасць храмаў за кароткі тэрмін (ужо праз паўтара года пачалася нямецка-савецкая вайна) не было магчымасці, таму «за першымі саветамі» большасць іх ацалела.

Падчас вайны ж рэлігійная палітыка савецкага ўрада змякчылася, стаўка была зроблена на тое, каб узяць царкоўнае жыццё пад поўны дзяржаўны кантроль (гл. пра гэта артыкул Ігара Лялькова «Як Сталін стварыў Рускую праваслаўную царкву» ў №11/2019 «Нашай гісторыі»). Таму барацьба з рэлігіяй у 2-й палове 1940-х і ў 1950-я не насіла такога татальнага і разбуральнага характару, як гэта было перад вайной.

### «Лічыць БССР першай “бязбожнай” рэспублікай»

Але пасля XXII з'езда КПСС у 1961 годзе, які абвясціў курс на фарсіраваную пабудову камунізму, з падачы тагачаснага 1-га сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова пачалася новая хваля


SMORGON.ORG

Склад у **касцёле Святога Міхала Арханёла ў Смаргоні.**


SNSOBOR.BY

Асаблівы прыклад — **сабор Святога Мікалая ў Бабруйску**. З 1967 года ён функцыянаваў у якасці басейна.

ўвогуле афіцыйна забароненая, усё ж не ўдалося.

Улады давалі дакладныя рэкамендацыі, пад што варта прыстасоўваць зачыненыя храмы, але на месцах усё залежала ад фінансавых магчымасцяў і надзённых патрэбаў канкрэтнага населенага пункта. У выніку многія храмы неаднаразова пераабсталёўваліся і мянялі сваю гаспадарчую «спецыялізацыю», прычым часам вельмі радыкальна.

Мабыць, самым яскравым прыкладам гэтага можа служыць касцёл Панны Марыі ў Бабруйску. У 1935 годзе ў будынку размясцілі выставу дасягненняў сельскай гаспадаркі, а пачатак вайны храм сустрэў у ролі збожжасховішча і склада. З 1946 годзе касцёл стаў філіялам абласнога краязнаўчага музея, затым на некалькі гадоў тут размясцілі архіў, а яшчэ ▶

ганенняў на Царкву. Храмы тады зноў масава зачыняліся і пераабсталёўваліся пад свецкія патрэбы. На думку партыйных ідэолагаў, гэта павінна было дэманстраваць адміранне рэлігіі ў грамадстве і спрыяць фармаванню атэістычнага мыслення ў насельніцтва.

У 1960-я гады колькасць дзейных у Савецкай Беларусі храмаў дасягнула гістарычнага мінімуму. Дайшло нават да таго, што кіраўніцтва краіны звярнулася ў Маскву з прапановай лічыць БССР першай «бязбожнай» рэспублікай Савецкага Саюза. Праўда, перахапіць у гэтым пытанні пальму першынства ў Албаніі, адзінай дзяржавы Еўропы, дзе ў 1967 годзе рэлігія была


FOTKI.YANDEX.RU/USERS/SOKIRKO-V

**Касцёл Святога Мікалая ў Міры** пасля многіх гадоў эксплуатацыі ў якасці склада. 1982 год. Такі быў лёс многіх «складоў», бо будынкі ніхто не рамантаваў.




Супрацоўнікі Дзяржаўнага архіва Полацкай вобласці **ў Сафійскім саборы**.

▸ пазней кіналекторый. У 1968 годзе да фасада неагатычнага касцёла прыляпілі звыродлівую пяціпавярховую каробку будаўнічага трэста №13, а сам храм ператварылі ў клуб. Вярнулі касцёл вернікам толькі ў 1990 годзе.

У іншых храмаў лёс быў не такі пакручасты, але не менш драматычны. І нямэтавае прызначэнне іх было самае разнастайнае.

## У Святым Андрэю салілі агуркі

Спосаб эксплуатацыі касцёлаў і цэркваў як складоў быў самым папулярным, хоць зверху рэкамендавалася перарабляць зачыненыя храмы перадусім пад школы, музеі, бібліятэкі, архівы і кнігасховішчы. Але ўсё гэта магло быць актуальна толькі для гарадоў. У вёсках, дзе знаходзілася большая частка зачыненых цэркваў і касцёлаў, такія ўстановы былі не вельмі запатрабаваныя. А складаць заўсёды было што.

Захоўваць у храмах маглі ўсё што заўгодна: кіслую капусту, паліва, угнаенні, ядахімікаты, гной. Так, у Слоніме ў вытанчаным барочным касцёле Святога Андрэя салілі агуркі і захоўвалі соль. Касцёл у Воўчыне на Камянеччыне, дзе быў незадоўга перад Другой сусветнай вайной пахаваны прах апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, стаў складам паліва. У старажытнай Петрапаўлаўскай царкве ў Мінску да вайны стаялі бочкі з селядцом. А ўнікальную царкву-крэпасць у Сынкавічах Зэльвенскага раёна прыстасавалі пад сховішча для гародніны. Мінская мячэць да вайны таксама служыла ў якасці харчовай базы.

У гарадскіх храмах улады чамусьці вельмі любілі ладзіць склады з мэбляй: відаць, праз прастору і высокія столі. Пад гэта прыстасавалі касцёлы ў Вялікай Бераставіцы, Верхнядзвінску, Валожыне, Кобрыне, Навагрудку і шмат дзе яшчэ. Доўгі час мэблевы склад знаходзіўся і ў галоўнай сінагозе Слоніма.

Каменныя храмы вельмі часта ператвараліся ў збожжасховішчы. Пры гэтым калгасна-саўгасныя ўлады разлічвалі ў такіх выпадках на больш «добразычлівае стаўленне вернікаў», большасць з якіх самі працавалі на зямлі і лічылі, што хлеб — «дар Божы».

## Свінарнік у Пеліканах

Нярэдка храмы выкарыстоўваліся пад гаражы. Так былі пераабсталяваны касцёлы ў Лепелі і Пеліканах на Браслаўшчыне, Грыневічах Свіслацкага, Міжэрычах Зэльвенскага, Шылавічах Ваўкавыскага раёнаў, сінагогі ў Барысаве і Уздзе. Матацыклы




Пажарная часць у былым **касцёле Святога Андрэя Баболі ў Антопалі**.


GLOBUS.TUT.BY

Застаецца туманным лёс **уздзенскага драўлянага касцёла XVIII стагоддзя, у якім, дарэчы, хрысцілі дзеда і бацьку Янкі Купалы.** Нядаўна Дом культуры, які знаходзіўся ў храме, зачыніўся, а будынак выставілі на аўкцыён для продажу.

мясцовага ДТСААФ даволі доўга паркаваліся ў царкве Раства Багародзіцы ў Гродне. Гараж спартыўнага мотаклуба некалькі гадоў знаходзіўся і ў бабруйскай сінагозе па вуліцы Чангарскай, 29.

У Антопалі Драгічынскага раёна мясцовыя ўлады абсталявалі ў касцёле паўнавартасную пажарную часць. Аналагічным чынам зрабілі з сінагогамі ў Дзятлаве і Оршы. Пажарныя службы размяшчаюцца ў гэтых храмах да гэтага часу.

**Асабліва балюча вернікам было глядзець, як іх храмы ператвараюць у стайні і свінарнікі**

Асабліва балюча вернікам было глядзець, як іх храмы ператвараюць у стайні. Пад такі здзек падпалі касцёлы ў Росіцы Верхнядзвінскага і ў Дварцы Дзятлаўскага раёнаў, праваслаўная царква ў Стрэшыне Жлобінскага. Яшчэ менш пашанцавала касцёлу Святога Апостала Якуба ў Пеліканах. У ім мясцовыя ўлады дадумаліся абсталяваць свінарнік. У былой праваслаўнай царкве вёскі Манькавічы Пастаўскага раёна разводзілі трусоў.

## Каб не абуджаць перажыткі

У гарадах і гарадскіх пасёлках улады імкнуліся прыстасаваць былыя храмы пад дамы культуры, клубы, дамы піянераў, залы-лекторыі, бібліятэкі, кінатэатры, канцэртныя залы, музеі. Пры гэтым выгляд касцёлаў і цэркваў, як правіла, кардынальна змяняўся, каб не «абуджаць у насельніцтва рэлігійныя перажыткі». Пасля такіх мадэрнізацый былыя храмы было не адрозніць ад звычайных савецкіх будынкаў.

І калі цэрквы і касцёлы пасля прыходу новых часоў паступова ўсё ж перадавалі вернікам, то сінагогі вяртаць звычайна ўжо проста няма каму: калісьці шматлікая ▶


GLOBUS.TUT.BY

**У былым Крыжаўзвіжанскім касцёле ў Целяханах** кінатэатр дзейнічаў да зусім нядаўняга часу. Толькі ў мінулым годзе ў будынку нарэшце аднавіліся службы.


FOTKI.YANDEX.RU/USERS/SOKIRKO-V

**Закінуты будынак касцёла Святога Міхаіла Арханёла ў Мсціславе.** У былым езуіцкім касцёле спачатку прапісаўся раённы Дом культуры (між іншым, вельмі прыстойны, з більярдам і буфетам), затым памяшканне прыстасавалі пад кіназалу. У 1961 годзе ў горадзе з'явіўся сучасны кінатэатр, а касцёл так і не дачакаўся паўнавартаснай рэстаўрацыі, у снежні 2017 года абрынулася адна з яго сценаў.

габрэйская супольнасць у Беларусі была амаль цалкам вынішчана ў апошнюю вайну. Таму дамы культуры, як і раней, дзейнічаюць у сценах сінагог у Васілішках, Жалудку і Астрыне на Шчучыншчыне, Лунне Мастоўскага раёна, Любчы на Навагрaдчыне, Камянцы і ў іншых былых мястэчках. У колішняй галоўнай Барысаўскай сінагозе працягвае працу Дом дзіцяча-юнацкай творчасці. Але ў такім выглядзе гэтыя будынкі маюць прынамсі шанец не паўтарыць лёс сінагогі на вуліцы Камсамольскай, 53 у Бабруйску, якая з 2003 года перастала быць гарадскім Домам культуры, а цяпер стаіць незапатрабаваная і імкліва разбураецца.

Шырока вялася практыка пераводу культавых установаў на службу найважнейшаму з мастацтваў, якім, як вядома, у Савецкім Саюзе лічылася кіно. Але часцей за ўсё пра нейкі камфорт у такіх кінатэатрах казаць не даводзілася, пры ўсёй іх добрай акустыцы. Ацяпленне ў іх, як правіла, адсутнічала, таму і дзейнічалі многія з іх толькі ў цёплую пару года і да таго часу, пакуль у населеным пункце



**Брэсцкі абласны краязнаўчы** музей у касцельным будынку. 1987 год.



**Планетарый у будынку сабора Святых Пятра і Паўла ў Гомелі.** Падобныя былі ў Кобрыне і Лідзе.

не пабудуюць новы, сучасны кінатэатр.

### Музей ратаваў ад знішчэння

Мабыць, самы прымальны варыянт выкарыстання храма не па яго прамым прызначэнні — адкрыць у будынку з сакральнай гісторыяй музей. Хоць мясцовыя ўлады часта дэкларавалі менавіта такія намеры, на практыцы гэта не мела шырокага прымянення. У якасці адваротнага прыкладу можна адзначыць перадусім Полацк. У гэтым горадзе ў розныя перыяды музеі працавалі ў трох храмах. Невялікі музей народных рамёстваў у 70–80-я гады працаваў у былым кальвінскім зборы ў Заслаўі. У Гродне царкву Раства Багародзіцы доўгі час займаў адзіны тады ў Беларусі музей гісторыі рэлігіі і атэізму.

Касцёлы пераараблялі ў музеі куды радзей. Адзін з такіх храмаў — Крыжаўзвіжанскі касцёл у Брэсце. У 1950-х яго перарабілі пад абласны краязнаўчы музей і вярнулі вернікам у 1990 годзе. У касцёле Святога Мацвея ў Раўбічах з 1979 года і па сёння працуе музей беларускага народнага мастацтва. Дарэчы, менавіта музей у свой час і выратаваў храм ад знішчэння.

### А ў харальнай варылі жыгулёўскае

І цэрквы, і касцёлы, і сінагогі актыўна выкарыстоўваліся ў якасці розных вытворчых памяшканняў. Многія каталіцкія храмы з-за сваіх памераў і архітэктурных асаблівасцяў сталі цэхамі даволі буйных прадпрыемстваў.

Пасля перадачы касцёла Святога Міхала Арханёла ў Ашмянах Віленскаму заводу радыёвымяральных прыбораў у ім запрацаваў цэх па вытворчасці пластмас, а вялікі валожынскі касцёл Святога Язэпа стаў філіялам мінскага завода «Тэрмапласт». Пад цэх мэблевых фабрык прыстасавалі былы касцёл цыстэрцыянаў у Мазыры і царкву Дзмітрыя Салунскага



CJA.HUJI.AC.IL

**У слонімскай сінагозе па адрасе Чырвонаармейская, 1** функцыянуюць адразу дзве крамы: мэблевая і віна-гарэлачная.

ў Гомелі. Там жа ў канцы 1930-х пад трыкатажную фабрыку прыстасавалі стараверскую Ільінскую царкву.

Паспяхова выкарыстоўваліся храмы і для невялікіх вытворчасцяў. Профіль майстэрняў, пад якія прыстасоўвалі храмы, здзіўляе сваёй разнастайнасцю. У Харальнай сінагозе Гродна доўгі час пасля вайны знаходзіліся мастацкія майстэрні, у касцёле Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыйскіх могілках у Мінску выраблялі надмагіллі, а сталічную царкву Марыі Магдалены яшчэ ў 1930-я гады прыстасавалі пад сталярныя майстэрні. Незвычайнае прымяненне знайшлі для кальвінскага збору ў Кухцічах Уздзенскага раёна: каля 30 гадоў у ім працавала электрастанцыя.

Будынкі, у якія людзі перш прыходзілі па духоўную ежу, часцяком мабілізаваліся для вытворчасці ежы матэрыяльнай. У малочныя цэхі ператварылі сінагогі ў Лепелі, Шклове (мясцовы масларобны завод паспяхова працуе ў ёй дагэтуль), касцёл Сэрца Езуса ў Іллі на Вілейшчыне. У Пакроўскай царкве ў Полацку да 1960-х працавала цукерачная фабрыка, а адна з сінагог Ляхавіч стала часткай дзейнага і дагэтуль кансервавага завода.

Яшчэ далей пайшлі ў Бягомлі Докшыцкага раёна: тут мясцовую царкву прыстасавалі пад спіртзавод. А ў Харальнай сінагозе Кобрына доўгі час варылі жыгулёўскае піва (пазней мясцовы кансервавы завод наладзіў у ёй выпуск безалкагольных напояў).

## Здаровае цела

У Савецкім Саюзе заўсёды вялікае значэнне надавалі фізічнай культуры. «Здаровы дух» савецкаму грамадзяніну было заклікана забяспечыць «здаровае цела», а не малітва. Як наступства гэтага, дзясяткі храмаў па ўсёй краіне ператварыліся ў дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, залы адзінаборстваў, дамы фізкультуры і г. д.

Працей за ўсё пад спартыўныя ўстановы было прыстасаваць адносна невялікія, але ў той жа час досыць прасторныя сінагогі. У былых сінагогах дагэтуль размяшчаюцца школы алімпійскага рэзерву ▶


MOZYRXXVEK.BLOGSPOT.COM.BY

**Былы касцёл Святога Крыжа ў Мазыры**, які належаў мэблевай фабрыцы. За гады эксплуатацыі храм быў настолькі знявечаны шматлікімі пераробкамі, што сёння далёка не кожны зможа распазнаць у ім культавае збудаванне.



VK.COM/OLD_ORSHA

Перабудаваны ў аэраклуб **Вазнясенскі сабор у Оршы.**

▶ ў Баранавічах і Магілёве. Навучэнцы слонімскага медыцынскага каледжа ходзяць на фізкультуру ў сінагогу 2-й паловы XIX стагоддзя. Працягваюць працаваць спартыўныя школы ў былых сінагогах у Іўі, Бабруйску, Барысаве, Воранаве, Гродне. Мінская шахматна-шашачная школа на вуліцы Ракаўскай — таксама колішняя сінагога Зальцмана.

## Нестандартныя рашэнні

Часам улады дзейнічалі нестандартна, прыстасоўваючы храмы пад бары, сталовыя і кафэ. У Рэчыцы, горадзе з даўнімі піваварнымі традыцыямі, «саабразіць на траіх» можна было ў касцёле Святой Тройцы, дзе адкрылі піўны бар. Пазней бар перарабілі пад дзіцячае кафэ.

Дзіўным чынам лёс рэчыцкага касцёла паўтарыла Свята-Узнясенская царква ў Петрыкаве. У 70-я гады ў ёй таксама дзейнічаў піўны бар, а ў 80-я храм перапрафілявалі ў дзіцячае кафэ «Марожанае». Сталовая працавала пасля вайны на першым паверсе Свята-Георгіеўскай царквы Бабруйска (на другім паверсе дзейнічала бібліятэка імя Леніна).


FOTKI.YANDEX.RU/USERS/SOKIRKO-V

У вялікіх гарадах закрытым храмам часта адводзілася роля архіваў і кнігасховішчаў. Як **касцёлу Святога Станіслава ў Магілёве**. За час эксплуатацыі храма ў якасці архіва былі істотна пашкоджаныя роспісы і знішчаны ўнікальны арган. 1982 год.

## Месцы пакутніцтва

Былі ў былых храмах школы і крамы, бальніцы і дыспансеры, канцэртныя залы і галерэі, праўленні калгасаў і суды. У цяжкія паваенныя гады ў культавыя будынкі нават сялілі людзей.

А зусім страшная доля выпала сабору Святога Міхаіла Арханёла ў Мазыры. У 30-я гады ў храме і на прылеглай да яго тэрыторыі размяшчалася абласная турма НКВД. За некалькі перадваенных гадоў у прасторных падвалах гэтай царквы было пахавана (у рэчаіснасці проста засыпана пяском і вапнай) каля 2 тысяч расстраляных і памерлых зняволеных.

# «Мы любаваліся гарой цаглін...»

Нават варварскае пераабсталяванне культавага будынка было для яго ўсё ж не самым горшым варыянтам, бо гэта часта дазваляла ацалець і перачакаць да лепшых часоў прынамсі яго сценам. Але шмат храмаў, якія з'яўляліся неацэннымі помнікамі гісторыі і культуры, былі ў савецкія часы проста бясследна знішчаныя, прычым многія без асаблівай патрэбы, а проста з ідэалагічных меркаванняў. Самы вядомы і сімвалічны прыклад — падрыў у ноч на 29 лістапада 1961 года збудаванай у XVI стагоддзі Фары Вітаўта ў Гродне (гл. пра яе артыкул Яўгена Аснарэўскага ў №4/2019 «Нашай гісторыі»).

Знішчэннем прыгожага помніка XVIII стагоддзя, Свята-Успенскага кафедральнага сабора ў Віцебску, у верасні 1936 года кіраваў будучы генерал і вядомы савецкі дысідэнт Пятро Грыгарэнка, які тады быў начальнікам штаба сапёрнага батальёна. Праз гады ён з горыччу і пакаяннем згадваў пра гэта ў сваіх успамінах «У падполлі можна сустрэць толькі пацукоў...»:

«Увогуле, уся праца была ўскладзена на мяне. І перамовы з Віцебскім гарсаветам, і арганізацыя выбуху, і сам выбух...

...Я пайшоў проста ў царкву, каб прыкінуць на месцы, як гэта можа атрымацца. Аказалася, што царква абсталяваная як дзейная: абразы, алтар, падсвечнікі — усё на месцы.

Усё ўва мне перавярнулася. Нічога рабіць тут я не мог. Павярнуўшыся да прадстаўніка гарсавета, я рэзка заявіў: "Пакуль адсюль не вывезуць усе абразы і царкоўнае начынне, я нічога рабіць не буду. Толькі майце на ўвазе — не проста вывезці, а запрасіць святара, каб ён гэта зрабіў, як патрэбна па-праваслаўнаму. Інакш я не буду ўдзельнічаць. Я не хачу, каб насельніцтва абвінавачвала нас у святатацтве". У Віцебску тады акрамя сабора было яшчэ 3 ці 4 царквы, і святары гэтых цэркваў пры дапамозе вернікаў арганізавалі вынас з сабора святыняў і царкоўнага начыння. Пасля мне, праўда, закідалі, што "Грыгарэнка арганізаваў царкоўнае шэсце па Віцебску". За такое, вядома, магло і дастацца істотна, але мне пашанцавала…

...Роўна паўтара месяца заняла падрыхтоўка выбуху. Выбуху ў звычайным разуменні ўвогуле не было. Толькі гул і трасканіна цаглін, якія сыпаліся зверху. Храм проста асеў, выдаўшы працяглы стогн, і ператварыўся ў груду цаглін. Менавіта цаглін, а не абломкаў сцен. Выбух мы зрабілі на світанні. І вось я стаю каля вялізнай цаглянай кучы і, шчыра прызнаюся, любуюся сваёй працай, тым, як прыгожа падарвана: пад'язджай і проста з гэтай кучы кідай цэглу ў машыну. Аднекуль з'явіліся людзі і таксама выказвалі сваё здзіўленне і захапленне "чысцінёй" працы. Асабліва дзівіліся таму, што дом стаіць як нічога не было і што царква пераўтворана не ў руіны, а ў будаўнічы матэрыял. І нікому, мне ў тым ліку, у галаву не прыйшло, што на гэтым месцы быў шэдэўр архітэктуры і месца духоўных кантактаў людзей з Богам. Забыўшыся пра гэта, мы любаваліся гарой цаглін.

Віцебскі гарсавет расчуліўся і прэміраваў (звыш дамоўленых сум) мяне і падрыўнікоў "за выдатную якасць выбуху, якая забяспечыла захаванасць жылога дома". Гэта таксама вельмі падобна да 30 срэбранікаў».

З 1937 года пад перасыльную турму будзе прыстасаваны Свята-Мікольскі сабор у Магілёве. Сюды звозілі сем'і раскулачаных сялян, асуджаных на высылку (у 90-я гады падчас рэстаўрацыйных работ на тэрыторыі манастыра былі выяўленыя шматлікія чалавечыя парэшткі).

### Дэсакралізацыя — не абавязкова варварская

Пры гэтым не варта думаць, што практыка выкарыстоўваць культавыя збудаванні ў свецкім жыцці — гэта выключна савецкая з'ява. За апошнія 20 гадоў з-за адсутнасці вернікаў сотні храмаў па ўсёй Еўропе перарабілі пад гасцініцы, студэнцкія інтэрнаты, кніжныя крамы, кінатэатры, спартыўныя цэнтры і г.д.

Але ў еўрапейскай дэсакралізацыі ёсць істотная розніца ад савецкай — гэта адбываецца без гвалту і беражліва захоўваюцца архітэктурныя формы. Падчас савецкай жа барацьбы з рэлігіяй быў знішчаны цэлы пласт гісторыі, змянілася аблічча гарадоў і вёсак, і раны, нанесеныя гісторыка-культурнай спадчыне і духоўнаму здароўю нацыі, не загаіліся да гэтага часу. ◆




**Піўны бар у сценах касцёла ў Рэчыцы** ў 1970-я гады.

# Адкуль у Слуцку ленінскі бранявік?

**У цэнтры Слуцка ёсць вуліца Манахава. Як звычайна бывае, большасць жыхароў гэтай самай вуліцы не адкажуць вам, што гэта за чалавек і чым заслужыў такі гонар. Але да Слуцка ён мае дачыненне, і з яго іменем звязаная загадкавая гісторыя. Піша Андрэй Кулеш.**


**Ленін на браневіку** на карціне Уладзіміра Сярова «Хай жыве Кастрычніцкая рэвалюцыя!». 1951 год.

PINTEREST.COM

Калі ў часе польска-савецкай вайны 1920 года часці Чырвонай арміі занялі Слуцк, камандаванне 1-га і 23-га бальшавіцкіх аўтабронеатрадаў прыняло рашэнне дагнаць на шашы Слуцк – Баранавічы калону палякаў і атакаваць яе.

У баі, які адбыўся ў раёне вёскі Бязверхавічы, брала ўдзел і бронемашына пад камандаваннем Манахава. Палякі яе падбілі, Манахаў загінуў. Бальшавікі ўрачыста пахавалі свайго баявога таварыша ў Слуцку. Тое пахаванне прывяло да нараджэння аднаго міфа.

### Бранявік «Враг капитала»

Пра пахаванне Манахава ёсць згадка ва ўспамінах былога камандзіра браневіка 23-га аўтабронеатрада Мікалая Сяргеева: «Хавалі Манахава на другі дзень, 16 ліпеня 1920 года. Труну з целам паставілі на бранявік “Враг капитала”, той самы бранявік, з якога Ленін у красавіку 1917 года каля Фінляндскага вакзала зрабіў прамову. І ён, гэты бранявік, прайшоў па ўсім Слуцку ў гарадскі сад для пахавання Аляксандра. Усе случчакі выйшлі праводзіць у апошні шлях героя».

Захавалася і фота з пахавання Манахава, на якім добра бачная гэтая машына. З якой нібыта звязаны важны сюжэт не толькі гісторыі народаў былой Расійскай імперыі, але і ўсяго свету.

Пасля нечаканай перамогі Лютаўскай рэвалюцыі ў Расію сталі масава вяртацца тыя рэвалюцыянеры, якія да таго знаходзіліся на эміграцыі. Сярод іх быў і лідар партыі бальшавікоў Уладзімір Ленін, якога вестка пра рэвалюцыю заспела ў швейцарскім Цюрыху. Дамовіўшыся з уладамі кайзераўскай Германіі, якая тады ваявала з Расіяй, аб пропуску пламбіраванага вагона з ім і ягонымі 35-цю паплечнікамі праз сваю тэрыторыю, Ленін затым праз тэрыторыю Швецыі і Фінляндыі прыехаў у рэвалюцыйны Петраград.

3 (16) красавіка 1917 года на Фінляндскім вакзале Леніна сустрэў вялікі натоўп рабочых, салдат і матросаў, перад якім ён выступіў з палымянай прамовай, у якасці трыбуны скарыстаўшы бранявік. У прамове Ленін упершыню публічна выказаў ідэю, што партыя бальшавікоў ужо зараз павінна неадкладна ўзяць курс на перарастанне

буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную, хоць тое і супярэчыла марксісцкай тэорыі. Тое выступленне Леніна на браневіку ў савецкі час разглядалі як адну з ключавых падзей у гісторыі расійскай рэвалюцыі.

Выходзіць, гістарычны бранявік праз тры гады дабраўся з Петраграда да нашага Слуцка? Ці сапраўды так было?

## У пошуках рэліквіі

Гісторыя сустрэчы Леніна на Фінляндскім вакзале ў Петраградзе пасля яго вяртання з эміграцыі — міфалагізаваная. Мемуары адных людзей аказвалі ўплыў на ўспаміны іншых, штосьці ў іх карэктуючы, а нешта і яўна скажаючы. Далей усё гэта ўплывала на масавую культуру, а тая, у сваю чаргу, спрычынялася да тварэння міфалогіі.

У савецкія часы лічылася, што той самы бранявік захаваўся і быў «знойдзены» ў 1940 годзе. Раней ён стаяў у двары Ленінградскага філіяла музея Леніна (Мармуровы палац), а цяпер машына экспануецца ў Ваенна-гістарычным музеі артылерыі, інжынерных войскаў і войскаў сувязі ў Санкт-Пецярбурзе.



**Аляксандр Манахаў.**

Мэтанакіраваны пошук гэтай «ленінскай рэліквіі»пачаўся толькі праз 10 гадоў пасля рэвалюцыі, у 1927 годзе. Ініцыяваў яго Фёдар Быкаў, які ў 1917-м быў камандзірам аўтакулямётнаматацыклетнага бронеатрада пры выканкаме Петрасавета і сам удзельнічаў у той сустрэчы Леніна. Паколькі ў тагачасных музеях такога прадмета не было, то ён і вырашыў заняцца пошукамі экспаната.

Быкаў даведаўся, што ленінскі бранявік меў важныя асаблівасці. Гэта была машына англійскай маркі «Остын» 2-й серыі (пастаўка 1915 года) з дзвюма гарызантальна размешчанымі вежамі (у шэрагі побач, а не адна за адной), а таксама з двума (пярэднім і кармавым) рулявымі пастамі. Пры гэтым кармавое рулявое кіраванне было змантавана саматужна ўжо ў Расіі ў майстэрнях Заходняга бронедывізіёна і абсталяванае знешнімі фарамі пярэдняга святла. Кіруючыся гэтымі арыенціроўкамі, агледзелі больш за трыццаць машын маркі «Остын», якія захаваліся да таго часу, але «ленінскай» сярод іх так і не знайшлі.

Што ж тады паставілі ў музей? Пачалі падбіраць хоць бы нешта найбольш падобнае па асноўных прыкметах. У пачатку 1939-га больш-менш адпаведны бранявік быў знойдзены ў Сасноўцы пад Ленінградам. Ён і стаў экспанатам.

Надпіс «Враг капитала» на ім выявілі толькі ў сакавіку 1972 года пры правядзенні рэстаўрацыі. Аказалася, што на бранявік падчас яго эксплуатацыі былі нанесеныя ажно чатыры пласты фарбы, а надпіс знаходзіўся на самым ніжнім.



**«Остын-пуцілавец», або «Остын рускі».**



**Бранявік «Остын» 2-й серыі** з кармавым пастом кіравання і бронеабаронай кулямётаў. З кнігі Максіма Каламійца «Браня рускай арміі».

Тыя ж самыя словы былі напісаныя і на ленінскай машыне. Але гэта не падстава для таго, каб лічыць іх ідэнтычнымі. Бо музейны экспанат і трыбуна для правадыра вельмі адрозніваюцца паводле сваёй канструкцыі. ▶

## «Остыны» брытанскія і пуцілаўска-іжорскія

Ужо ў наш час шляхі «ленінскага» браневіка ўзяўся прасачыць расійскі даследчык Максім Каламіец, супрацоўнік Маскоўскага цэнтральнага музея ўзброеных сілаў. Вывучыўшы ўсе кантракты на пастаўкі браневікоў з Англіі ў Расійскую імперыю, ён высветліў, што ўсяго фірма «Остын» атрымлівала тры расійскія замовы на браневікі з дзвюма побач размешчанымі вежамі, агулам на 168 штук.

Апошнім кантрактам прадугледжвалася пастаўка 60 шасі без бронекарпусоў, а карпусы павінен быў спраектаваць петраградскі Пуцілаўскі завод. Ён нават пачаў выконваць кантракт, але за 1917 год не зрабіў аніводнай машыны новага тыпу, а ў 1918 годзе вырабіў іх усяго пяць. Таму замову перадалі Іжорскаму заводу. Выпушчаныя там у 1919 годзе браневікі былі з дзвюма дыяганальнымі вежамі (адна за адной, а не побач, як у брытанскіх машынах) — якраз такімі, як у музейнага «Врага капитала».

Таксама адной з галоўных прыкмет ленінскага браневіка лічылася кармавое рулявое кіраванне, выкананае саматужна. Але калі зазірнуць пад дно музейнай машыны, то можна пабачыць, што тут гэты элемент выкананы відавочна ў заводскіх умовах.

Што тычыцца надпісу «Враг капитала», які вылез пры рэстаўрацыі, то ён выкананы ў новай арфаграфіі, без цвёрдага знака на канцы першага слова. А на новую арфаграфію, як вядома, Расія перайшла толькі ў пачатку 1918 года.

Улічваючы ўсё гэта і распрацоўваючы тэму далей, Каламіец вызначыў, што машына, якая атрымала імя «Враг капитала», была выраблена на Іжорскім заводзе ў чэрвені 1919 года. Адтуль яна адразу паступіла ў аўтаброненатрад Камітэта абароны Петраграда, а затым — у 28-ы аўтаброненатрад, у складзе якога ў жніўні адбыла на фронт. Пасля ж, атрымаўшы пашкоджанне, прайшла рамонт і была перададзена ў 1-ы аўтаброненатрад, які ў ліпені 1920 года ваяваў з палякамі ў Слуцку.

Такім чынам, выяўлены на фотаздымку са Слуцка бранявік, відаць, той самы, які доўгія гады экспануецца ў піцерскім музеі як «ленінскі», але гэта ніяк не тая машына, з якой Ленін у красавіку 1917-га казаў сваю знакамітую прамову. Браневікі слуцкага тыпу пачалі вырабляцца ў таварных колькасцях толькі з 1918 года на расійскіх заводах, ужо пры бальшавіцкай уладзе. А ў сапраўднага ленінскага «Врага капитала» колы, рама, рухавік і браня — цалкам капіталістычныя.




**Пахаванне Аляксандра Манахава.** «Той самы», са словаў Мікалая Сяргеева, бранявік.

**Слуцкі бранявік, відаць, той самы, які доўгія гады экспануецца ў музеі як «ленінскі», але гэта не тая машына, з якой Ленін у красавіку 1917-га казаў сваю знакамітую прамову**

### Бальшавікі і іх рэліквіі

Нехта спытаецца: а куды ж тады знік «той самы» бранявік?

У 1918–1920 гадах ішла грамадзянская вайна, улада бальшавікоў часам вісела літаральна на валаску. І ім, натуральна, куды важней было яе ўтрымаць любой цаной, чым зберагаць жалеза для гісторыі.

Ды і ў мірны час асэнсаванне важнасці падобных рэчаў

прыйшло не адразу. Паказальная ў гэтым плане гісторыя славутага браняносца «Пацёмкін». Вакол паўстання на ім у часы рэвалюцыі 1905—1907 гадоў бальшавіцкія ідэолагі шумелі шмат, але гэта не перашкодзіла ў 1925 годзе сам браняносец адправіць на металалом. Прытым адбылося гэта акурат у год выхаду аднайменнай прапагандысцкай кінастужкі. Таму сёння ў музеі Чарнаморскага флоту захоўваецца толькі частка фок-мачты «Пацёмкіна». Падобная гісторыя і з крэйсерам «Аўрора». У Другую сусветную крэйсер удзельнічаў у абароне Ленінграда, а пасля познесавецкай рэстаўрацыі «Аўроры» ў ёй мала што засталося ад арыгінальных вузлоў. ◆



**Слуцкі краязнаўчы музей.** Навуковы супрацоўнік праводзіць экскурсію.




Да ўвагі школьнікаў, студэнтаў, настаўнікаў, бацькоў

## «Наша гісторыя» абвяшчае конкурс для моладзі

Запрашаем да ўдзелу аматараў гісторыі ад 1 да 21 года.

Прымаем работы ў трох фарматах: тэксты, фотаздымкі, відэа. Гэта могуць быць работы пра цікавых людзей — і няважна, персанажаў сусветнай гісторыі ці членаў вашай сям'і, аповеды пра гістарычныя падзеі, мясціны, тэксты пра праблемы беларускай і сусветнай гісторыі, якія вас закранаюць і прымушаюць паразважаць...

Тэма і фармат — на ваш выбар. Галоўнае, каб тэкст цікава чытаўся, прадстаўляў арыгінальны погляд на гісторыю, а фота і відэа — ўражвалі. Да фотаздымкаў дадавайце, калі ласка, разгорнуты подпіс.

Пішыце самі, з сябрамі, бацькамі або настаўнікамі.

Ацэньвацца будзе душэўнасць, інфарматыўнасць, арыгінальны падыход, навізна думкі. Ад аднаго ўдзельніка прымаецца не больш за тры работы.

Найлепшыя тэксты і фота з'явяцца на старонках «Нашай гісторыі» (пры патрэбе рэдакцыя дапаможа іх дапрацаваць), а відэаработы — у сацсетках нашага часопіса.

Пераможцаў чакаюць прызы: грашовыя ўзнагароды, экскурсія ў рэдакцыю і сустрэча з найлепшымі гісторыкамі сучаснасці, добрыя кніжкі і іншыя прыемнасці.

Не чакайце,дасылайце вашы матэрыялы на пошту **nivanasha@gmail.com** ужо цяпер! Конкурс працягваецца да 20 снежня. У тэме ліста пазначайце: на конкурс «Нашай гісторыі».

# Смерць сармата

## Як рыхтаваліся да скону ў Вялікім Княстве Літоўскім

**Думкі пра смерць і пасмяротнае жыццё з даўніх часоў турбавалі чалавека, піша кандыдат гістарычных навук, выкладчыца Ліцэя БДУ Ніна Стахно.**

Стаўленне да смерці змянялася з цягам гісторыі чалавецтва. У наш час з-за актыўнага развіцця медыцыны (а таксама палеатыўнай дапамогі, наяўнасці хоспісаў і дамоў для пажылых людзей) адбываецца медыкалізацыя смерці і выцісканне яе на перыферыю чалавечай свядомасці. Людзі часта паміраюць у бальніцах, іх целы хутка падвяргаюцца крэмацыі, а пасля яны так жа хутка скіроўваюцца на могілкі, якія знаходзяцца па-за межамі гарадоў, удалечыні ад чалавечага вока. Чалавек імкнецца максімальна палегчыць пераход, спрабуе пазбегнуць болю і лічыць за самы лепшы сыход смерць у сне.

А ў часы Вялікага Княства Літоўскага культ смерці быў зусім іншым.

### Добрая смерць

У ранні Новы час (канец XVI–XVIII стагоддзе), калі смерць хадзіла за чалавекам след у след, а рэлігія дамінавала ў грамадскім жыцці, думак пра канец існавання пазбягаць было немагчыма. Царква вучыла, што смерці не трэба баяцца, бо за ёй распачынаецца вечнае жыццё.



Яцак Мальшэўскі. Смерць.

Для тагачаснага чалавека існавала паняцце «добрая смерць», пад якой разумелі смерць натуральную, да якой чалавек рыхтаваўся цягам усяго жыцця.

Такая падрыхтоўка падзялялася на тры стадыі. Першая тычылася здаровых людзей, другая пачыналася ў час хваробы, а апошняя наступала непасрэдна перад самай смерцю, на парозе вечнага жыцця.

Здароваму чалавеку неабходна было думаць пра смерць так часта, як толькі атрымліваецца, і ўсё на свеце рабіць так, нібы гэта апошні ўчынак, які і вызначыць замагільнае жыццё.

**«Добрай смерцю» лічылі смерць натуральную, да якой чалавек рыхтаваўся цягам усяго жыцця**

Наведванне царкоўных службаў і слуханне казаняў таксама лічылася падрыхтоўкай да вечнага жыцця. У іншы час трэба было ўспамінаць пра смерць і пакуты Хрыста, распачынаць размовы пра смерць з блізкімі і знаёмымі, глядзець на мастацкія творы падобнага сэнсу. Добрым для збавення душы лічыўся догляд смяротна хворага і прысутнасць у час перадсмяротнай агоніі, удзел у пахавальных прыгатаваннях, наведванне могілак.

Для тых, хто найбольш апекаваўся сваёй душой, прапаноўваліся штодзённыя, штотыднёвыя, штомесячныя і штогадовыя «трэнінгі» для медытацыі над прыняццем смерці. Напрыклад, штотыднёва раілі чытаць уласнае завяшчанне. Гэта трэба было рабіць у суцэльнай адзіноце і ў таямніцы ад усіх, падчас чытання раілася разважаць аб тым, калі прыйдзе смерць і якой яна будзе. Для таго, каб у вырашальны момант сцярпець боль агоніі, практыкавалі ўтаймаванне цела праз хвастанне, нашэнне валасяніцы (грубай кашулі з конскага воласу), жалезнага пояса, трыманне суровага паста.

Важным элементам падрыхтоўкі да добрай смерці была рэпетыцыя самога моманту паміранння. Гэтыя рэпетыцыі раілі ладзіць штомесяц. Прапаведнік Ян Мараўскі прапаноўваў у гэты дзень спачатку перачытаць тастамент, потым здзейсніць споведзь як перад смерцю, прыняць камунію і духоўнае намашчэнне. Далей уявіць сябе паміраючым і прынесці вызнанне веры.

### У хваробе

Яшчэ грунтоўней рыхтавацца да смерці прадпісвалася падчас хваробы. Меркавалася, што нядужасць насылалася Богам для ратавання душы, а таму чалавек павінен прыняць яе цярпліва і нават дзякаваць за яе. Хвароба выпрабоўвала цела болем і адключала многія фізічныя патрэбы, даючы хвораму магчымасць сканцэнтравацца на душы.

Нельга было жадаць выздараўлення, бо яно замінае збавенню. Хворы павінен быў напісаць завяшчанне, калі гэта не было зроблена раней, уладкаваць усе пытанні з блізкімі і з людзьмі, з якімі ён быў у сварках. Абавязкова трэба было маліцца, спавядацца, гараваць над грахамі, успамінаць пра пакуты Хрыста і браць з яго прыклад, аддацца на волю Бога.

### На парозе

Нярэдка хвароба была прадвеснікам, ганцом смерці, і тут ужо рыхтаваліся да вечнага жыцця сур'ёзна. Перадсмяротныя хвіліны былі ключавымі для далейшага лёсу чалавека, бо была магчымасць пакаяцца, часам нешта паправіць з кепска зробленага. Побач з чалавекам заўсёды павінен быў знаходзіцца памагаты, які мусіў чытаць малітвы, распавядаць гісторыі жыцця святых, прыгадваць пакуты Хрыста на крыжы, нагадваць пра марнасць зямнога жыцця. Такім чынам, чалавек не адчуваў сябе самотным перад абліччам смерці.

Вельмі важнымі былі і рэчы, якія знаходзіліся вакол чалавека. Нельга было, каб смяротна хворага атачалі розныя мірскія рэчы, бо яны будуць нібыта адцягваць увагу ад думак пра душу. З пакоя прыбіралася ўсё непатрэбнае. Неабходным жа лічыліся распяцце, грамнічная свечка,святая вада і асвечаная пальма ці яе аналагі (на тэрыторыі ВКЛ выкарыстоўвалі букеты з самшыту і сушаных кветак, а таксама галінкі вярбы).

На канец пакідалі самае важнае — прыняцце апошніх сакраментаў. Перш за ўсё абавязкова трэба было спавядацца — канкрэтна і падрабязна. Далей ішоў *вятык* — прычасце перад смерцю. Чалавек у апошні раз прымае кроў і цела Хрыста, каб лягчэй адолець шлях да Бога. А на самы апошні момант пакідалі памазанне, мэтай якога было змыццё рэшты чалавечых грахоў. Алеем дакраналіся да тых частак цела, якія маглі грашыць: галава, рукі, ногі. ▶

Пасля ўсіх працэдур чалавек патрапляў у прамежкавы стан — ён ужо быў недасяжны для людзей вакол яго, але і не пераходзіў яшчэ да жыцця вечнага. Чалавеку трэба было ў адзіноце сутыкнуцца са спакусамі, якія чыніў д'ябал. Ад таго, ці не спакусіцца вернік, залежаў яго пасмяротны лёс.

### Апошні дом

Яшчэ адной характарыстыкай добрай смерці было хрысціянскае пахаванне ў асвечанай зямлі. Яго мог заслужыць толькі падрыхтаваны да смерці чалавек, і без гэтага нельга было разлічваць на збавенне душы.

Самымі прывабнымі месцамі апошняга спачыну былі пахаванні пры цэрквах і касцёлах побач з целамі памерлых продкаў. Па-першае, пахаванне ў адным месцы ўсёй сям'і гарантавала ім уз'яднанне ў час уваскрасення. Па-другое, забяспечвалася памінанне: лічылася, што за іх будуць маліцца не толькі блізкія, але і ўсе прыхаджане.

Ніхто не хацеў быць пахаваны ў неасвечанай зямлі і далёка ад дому.

### Дрэнная смерць

Калі была добрая смерць, то мусіла быць і дрэнная. Як яе ўяўлялі?

## Ніхто не хацеў быць пахаваны далёка ад дому

Перш за ўсё дрэннай была смерць тых, хто знаходзіцца па-за межамі Царквы: ерэтыкоў, дысідэнтаў, неахрышчаных — усе яны выракаліся на вечныя пакуты ў пекле. Згодна з хрысціянскай дагматыкай, усе людзі ад нараджэння ўспадкоўваюць першародны грэх Адама і толькі таямніца хросту можа іх ад гэтага пазбавіць.

Без хросту не магло быць гаворкі аб выратаванні душы. Смяротнасць сярод немаўлят у тыя часы была найвышэйшай у параўнанні з іншымі ўзроставымі групамі. Прамаруджванне з хростам толькі што народжанага дзіцяці магло загубіць яго душу. Хрост быў настолькі важным, што пры адсутнасці каля слабога дзіцяці святара яго магла ахрысціць



WIKIMEDIA COMMONS

Радавітая шляхта і магнатэрыя найлепшым месцам пахавання ўважала сямейныя скляпы. **На фота кіраўнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі стаіць ля саркафага Станіслава Радзівіла** ў княскай крыпце пры Фарным касцёле ў Нясвіжы. 1926 год.

### «Уваскрашэнне» для хросту

З-за пакутаў і роспачы бацькоў, якія не паспявалі ахрысціць сваіх немаўлят, у Заходняй Еўропе распаўсюдзіліся «ўваскрашальныя капліцы». Першапачаткова яны з'явіліся ў Францыі напрыканцы XIV стагоддзя, а пазней атрымалі папулярнасць і ў іншых краінах. У такія капліцы, прысвечаныя Дзеве Марыі альбо якому-небудзь святому, прыносілі немаўлят, памерлых да хрышчэння. Маленькага нябожчыка, часта нічым не прыкрытага, ускладалі альбо на алтар, альбо на прыступкі алтара. Удзельнікі цырымоніі запальвалі свечкі, маліліся, замаўлялі імшу. У нейкі момант прысутныя — бацькі, іх сябры, бабка-павітуха, парафіяльны святар альбо манах — бачылі (ці хутчэй лічылі, што бачаць), як дзіця падае прыкметы жыцця. Яго цельца «цяплела» ў вобласці сэрца, ружавеў твар, расплюшчваліся вочы, з носа або вушэй выступалі кропелькі крыві, намацваўся пульс і г. д. Пасля гэтага вельмі хутка праводзілі абрад хросту. Іскрынка жыцця тут жа згасала адразу пасля абраду, але з гэтага часу дзіця было выратавана. У знак падзякі нябёсам бацькі дзіцяці ўсталёўвалі ў храме спецыяльныя дошкі, ахвяравалі капліцы грошы або раздавалі міласціну.

жанчына, якая яго спавіла, ці нават паганец або габрэй, калі побач не было іншых людзей.

### Раптоўная смерць не залічваецца

Дрэннымі смерцямі былі таксама гвалтоўныя ці раптоўныя. Сюды адносіліся смерці ў бойках, ад алкаголю, падчас мору. Дрэннай смерцю канчалі самагубцы і нават тапельцы. Некамільфо было паміраць ад паражэння маланкай, удару буйной градзіны падчас непагадзі, ад разарвання ваўкамі. Частай прычынай смерці тады былі ўтапленні — як падчас пераправаў на вайне, так і падчас купання ў мірны час. Такая смерць ацэньвалася як бессэнсоўная, банальная і непатрэбная, знак Божага гневу і няміласці. Таму ў сваіх малітвах вернікі ў тым ліку прасілі — і просяць дагэтуль! — захаваць іх «ад смерці раптоўнай».

Дрэннай, а хутчэй нават нячыстай, лічылася смерць парадзіхі. Доўгі час захоўвалася спецыяльная працэдура, з дапамогай якой жанчына «ачышчалася» — труну з целам тры разы абносілі вакол алтара, а потым хавалі на вуліцы каля муроў касцёла.

## Нячыстай лічылася смерць парадзіхі



**Нецярплівасць.** Малюнак з падручніка добрай смерці *Ars bene moriendi.*



### Падручнік добрай смерці

Правілы правіламі, але застаецца пытанне: наколькі апісаныя вышэй патрабаванні для добрай смерці выконваліся тагачаснай шляхтай? Ці не заставаліся яны выключна на паперы або, можа, цыркулявалі ▶

### Кумавы Магілы

Цікавую старадаўнюю народную легенду пра трохсотгадовыя пакуты людзей, якія памерлі гвалтоўнай і нечаканай смерцю, пасланай ім за іхнія грахі, у пачатку XX стагоддзя ў вершы «Кумавы Магілы» пераказаў паэт-нашанівец Стары Улас (Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі). Паводле яе, аднойчы ўзімку кум з кумою паехалі хрысціць нованароджанае дзіцятка і, ужо вяртаючыся дахаты, сустрэліся са зграяй ваўкоў. Не спраўляючыся ад іх уцячы, кума, каб адвесці бяду ад сябе з кумам, кінула на спажыву ваўкам дзіцятка, але тыя яго не зачапілі і працягнулі пагоню за дарослымі, урэшце дасягнуўшы мэты:

Рынулі ўсе да астатка, кінуўшы бяседу,
Знайшлі санкі і дзіцятка, а кумоў — ні следу!
Толькі снег стаптаны дужа, у тое месца йдучы,
Ды крыві стаяла лужа і касцей дзве кучы.

Косці тыя пахавалі на тым самым месцы пад дубам, а мясцовасць стала пасля таго звацца Кумавы Магілы:

І з тых пор на гэтым месцы, гаварылі людзі,
Нешта ўночы падарожным часта коні пудзе:
То ў канаву цябе згоніць, лопне гуж, атосы,
Парве вупраж і паломіць сані і калёсы.

Апавядальнік у вершы стаў сведкам скасавання даўняга заклёну, калі таксама зімовай парою ўначы вяртаўся падпіты з кірмашу. Праязджаючы Кумавы Магілы, конь ягоны спудзіўся і выкінуў гаспадара з саней у канаву. Вылезшы з якой, ён пабачыў на дарозе сані з незнаёмымі людзьмі, а вакол іх «ваўкоў стада, — палічыўшы, з сарачню іх, мусіць». Да смерці перапалохаўшыся і працверазеўшы, лірычны герой згадвае:

...Стаю гэтак я і ныю, так, як у магіле,
Аж ка мне вось людзі тыя так загаварылі:
«Чалавеча! Помніць будзеш добра месца гэта!
Знай жа тое, што мы людзі не з гэтага свету.
Тры вякі над вашым светам ужо праляцелі,
Як калісь мы ў месцы гэтым саграшыць хацелі.
А за тое тут час доўгі кару адбывалі:
Людзей зводзілі з дарогі і коні пужалі.
Тры вякі на месцы гэтым былі як прыкуты,
Трыста год прайшло нарэшце і — канец пакуты!
Чалавеча! Едзь дахаты і скажы тым людзям,
Што з сягонняшняе даты страшыць вас не будзем.
Тут уночы ці ў дзень белы свабодна дарога.
Едзьце цэлы і здаровы, мы ідзем да Бога!»...

...У тым жа месцы больш ніколі ці хто йдзе, ці едзе,
Аніякіх страхаў болей нідзе не угледзе.

Цалкам верш «Кумавы Магілы» даступны праз к'юар-код.



## Беларускія прымхі, звязаныя са смерцю

Сон, у якім чалавек вырывае зуб або пазбаўляецца якой-небудзь часткі цела, прадвяшчае смерць блізкага чалавека, калі пры гэтым цячэ кроў — значыць, памрэ кроўны сваяк.

Калі выюць сабакі — гэта яны прадчуваюць ці наклікаць смерць або іншае няшчасце. Каб яны перасталі выць, трэба перавярнуць дагары дном што-небудзь з посуду.

Калі ў хаце завядзецца шмат мышэй — значыць, яны кагосьці выжываюць. Трэба рыхтавацца да смерці або ад'езду некага з сямейнікаў.

Сяляне не дазвалялі дзецям рабіць крыжы з лучынак і пераймаць царкоўныя спевы, меркавалі, што гэтым можна наклікаць смерць.

Існавала павер'е, што не варта гушкаць пустую калыску: ад гэтага дзіця можа памерці.

Лічылася, што маці, якія пакінулі пасля смерці грудных немаўлят, прыходзяць іх карміць, і частыя болі ў жываце дзіцяці прыпісвалі няякаснасці малака нябожчыцы.

Таксама нашы продкі верылі, што чалавек мае патрэбу ў ежы і пітве і пасля смерці і што задавальненне гэтых патрэбаў нябожчыка ёсць маральны абавязак яго сваякоў, за невыкананне якога памерлы можа адпомсціць.

*З этнаграфічнай працы Адама Багдановіча (бацькі вядомага паэта) «Перажыткі старажытнага светабачання ў беларусаў» (1895 год).*



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ.

**Тастамент слонімскага шляхціча Аляксандра Гарабурды**, датаваны вераснем 1570 года.

▶ толькі ў прапаведніцкім і манаскім асяроддзі?

Зразумела, было б перабольшаннем лічыць, што ўсё жыццё жыхара Вялікага Княства Літоўскага было падпарадкавана думцы пра смерць і ён кожны дзень скрупулёзна выконваў усе царкоўныя прадпісанні. Але пры ўсім гэтым мы ўсё ж знаходзім немалую колькасць сведчанняў, якія паказваюць: намаганні для дасягнення вечнага жыцця рэальна рабіліся.



BABS71.LIVEJOURNAL.COM

**Надгробкі падканцлера Вялікага Княства Літоўскага Паўла Сапегі і трох ягоных жонак.** Захоўваюцца ў Музеі старажытнабеларускага мастацтва НАНБ.

У асабістых шляхецкіх зборах нярэдка знаходзяцца распаўсюджаныя ў той час падручнікі добрай смерці *Ars bene moriendi*, у мемуарах сустракаюцца звесткі пра наведванне набажэнстваў, споведзь, пачатак паста і г. д. Практычна ўсе завяшчанні XVIII стагоддзя ўтрымліваюць прадпісанне перадаць нейкую суму грошай на карысць Царквы, захаваліся тысячы фундушаў. І хоць на старонках асабістых дакументаў цяжка знайсці разважанні пра ўласную смерць, нярэдка ў іх прысутнічаюць роздумы над смерцю блізкіх, апісанне падрыхтоўкі да іх сыходу.

Таму хай раннемадэрны чалавек і не выконваў прадпісанні Царквы цалкам, ён усё ж значна менш баяўся смерці, чым мы сёння. Яе пастаянная прысутнасць давала час чалавеку прызвычаіцца да непазбежнасці і здымала напружанне і страх, так уласцівыя чалавеку перад абліччам смерці. ◆

# МАНЕТА АЛЬГЕРДА,
## *бітая ў Крэве*



**Крэўскі грошык Альгерда.**

**Пашпарт**
Датаванне — 1370-я гады.
Месца выбіцця — Крэва.
Вага — 1,13 гр.
Памер — каля 15 мм.
Метал — срэбра.
Антыкварная цана ~ 4000 BYN.

У пачатку 70-х гадоў XIV стагоддзя Вялікае Княства перажывае свой росквіт. Дзяржавай кіруе дуумвірат — Альгерд і Кейстут. Страчвае пазіцыі некалі магутны ўсходні сусед — Улус Джучы (Залатая Арда). Усходнярускія княствы, перадусім Масква, яшчэ не паспелі акрыяць ад былой залежнасці і ўмацавацца. Да 1370-х гадоў многія з рускіх княстваў ужо пачалі выпуск уласнай манеты, якую пераймалі ў татар, а некаторыя нават сталі змяшчаць на манетах уласныя сімвалы. Частка гэтых зямель была ў той ці іншай ступені залежная ад рэгіянальнага лідара — ВКЛ.

У гэтай сітуацыі і Вялікае Княства робіць першыя крокі ў справе выпуску ўласных грошай. Першыя манеты Альгерда, бітыя, імаверна, у цэнтры ягонага дамена — Крэве, мелі намінал грошыка, то бок адпавядалі па вазе палове тагачаснага пражскага гроша. Выгляд Альгердавых манет быў цалкам усходнім: адзін бок манеты займаў барс, другі — кругавая легенда, што змяшчала толькі адно слова — імя князя.



Прыклад усходняй манеты XIV–XV стагоддзя — **ананімны пул Залатой Арды, выбіты ў перасовачным манетным двары хана Цімур-Кутлука каля 1400 года**. Падобныя ўсходнія манеты былі адным з узораў для першых манетаў Вялікага Княства.

# МАНЕТА КЕЙСТУТА,
## *бітая ў Троках*

**Пашпарт**
Датаванне — 1370-я гады.
Месца выбіцця — Трокі.
Вага — 0,92 гр.
Памер — каля 15 мм.
Метал — срэбра.
Антыкварны кошт ~ 2000 BYN.

Ананімныя манеты з надпісам ПЕҮАТЬ да нядаўняга часу лічыліся вырабам Віленскага манетнага двара. Вызначэнне эмітэнта і часу выбіцця выклікала цяжкасці, бо не да канца зразумелым заставаўся сімвал, змешчаны на адваротным баку манеты — дзіда і крыж. Толькі пасля знаходкі аднатыпнага грошыка з імем князя Кейстута стала відавочна, што гэтыя манеты выбіваліся ў Троках (цяпер Тракай у Літве).

Троцкія грошыкі пачалі выпускаць прыблізна тады ж, калі і крэўскія манеты Альгерда. Але варта заўважыць: Кейстут, хоць і выбіў манеты гэткага самага наміналу, грошыкі, але зрабіў іх ананімнымі. Такім чынам ён падкрэсліў старшынства Альгерда, фармальна вялікага князя, які на справе адказваў за ўсходняе крыло дзяржавы. Толькі з 1381 года, атрымаўшы вярхоўную ўладу, ён стаў чаканіць на манетах сваё імя.

У гэтым кантэксце становіцца зразумелым і сімвал дзіды з крыжом. Роўнабаковы крыж — сімвал Валыні, дзе якраз кіраваў родны брат Альгерда і Кейстута Любарт. У хуткай будучыні гэты крыж з'яўляецца і на вялікіх пячатках ВКЛ. А дзіда — асноўны элемент герба Троцкай зямлі. ◆

### Як называліся нашы першыя манеты?

На еўрапейскіх манетах, што выпускаліся ў канцы XIV стагоддзя, легенда (надпіс) звычайна пачынаўся са слова MONETA. Росшук нашага адпаведніка гэтай назве прыводзіць да слова «пячатка». Менавіта яно было напісана на манетах вялікіх князёў. У вачах сучаснікаў паняцці пячаткі, што апячатвала княскую грамату або ліст, і пячаткі, што апячатвала княскую манету, былі эквівалентныя. Менавіта княская пячатка рабіла кавалак каштоўнага металу грашыма.



**Манета з іменем Кейстута.** Імя на манеце здолеў прачытаць віленскі нумізмат Эдуардас Рэмецас у 2015 годзе. Надпіс ідзе супраць гадзіннікавай стрэлкі, па коле, зверху ўніз. Літары «ТУТ» (дагары нагамі) вельмі добра відаць унізе, а перад імі «КЕС», што бачна не так добра. У сярэдзіне «П», над ёй на баку ляжыць «Е» (скарачэнне ад «печать»). Справа ад «П» — княскі знак Кейстута.

# Як старажытную Гародню ледзь не напаткаў лёс Берасця





**План 1807 года па ўзвядзенні крэпасці ў Гродне.**

**Гістарычны цэнтр Гродна маглі знішчыць пад будаўніцтва крэпасці, як тое здарылася з Брэстам. Але гораду пашанцавала — дапамагла звычайная чалавечая зайздрасць. Піша Васіль Герасімчык.**

## Ідэі і планы

Ідэя ператварэння Гродна ў прымежную крэпасць Расійскай імперыі ўпершыню з'явілася ў час войнаў з напалеонаўскай Францыяй. У 1807 годзе быў нават план будучых умацаванняў, якія колам ахоплівалі ўвесь горад. Аднак Тыльзіцкі мір, заключаны Аляксандрам I і Напалеонам, зняў пытанне з парадку дня.

Пасля захопу Гродна французскія ўлады таксама думалі, каб ператварыць яго ў крэпасць. Але паспелі зрабіць толькі план: ужо праз паўгода сюды вярнулася Расія.

## Падштурхнула паўстанне

Чарговы раз да ідэі будаўніцтва крэпасці ў Гродне вярнуліся падчас паўстання 1830—1831 гадоў, прычым яе выказаў асабіста імператар Мікалай I. Ён убачыў у горадзе на Нёмане, дзе на той час размяшчаліся вайсковыя склады, адзін з найважнейшых пунктаў абароны заходняй мяжы Расійскай імперыі. Узвядзенне новай крэпасці даручылі галоўнакамандуючаму расійскімі войскамі ў Царстве Польскім графу Івану Паскевічу. Але той быў неўзабаве цяжка паранены пры штурме Варшавы ў 1831-м.

Таму праектам крэпасці часова заняўся камандуючы рэзервовай арміяй граф Аляксандр Талстой, які накіраваў у Гродна вайсковага інжынера Міхаіла Кліменку.

Генерал Кліменка належаў да ліку найлепшых вайсковых інжынераў Расійскай імперыі і да таго кіраваў узвядзеннем Дынабургскай крэпасці. Дынабург (Дзвінск, сёння — Даўгаўпілс) пры ім ператварыўся ва ўмацаваны лагер. Тое ж рашэнне ён планаваў ажыццявіць і ў Гродне, вакол якога павінны былі паўстаць асобныя магутныя ўмацаванні. Згодна з планам, крэпасць з 40 гарматамі разлічвалася на гарнізон у 6 тысяч чалавек.

Але гэты смелы праект, які патрабаваў вялізных выдаткаў і некалькіх гадоў рэалізацыі ►




**План Бабруйскай крэпасці**, якую пачалі будаваць у чэрвені 1810-га. Крэпасць вытрымала доўгую аблогу французаў. Як склаўся б ход вайны 1812 года, калі б у Гродне была пабудавана крэпасць, мы можам толькі здагадвацца.

ва ўмовах пагрозы пашырэння паўстання на тэрыторыю колішняга Вялікага Княства Літоўскага, напалохаў Мікалая І. Імператар назваў Кліменкаў план «занадта шырокім» і перадаў даручэнне іншаму інжынеру.

Праект гродзенскай крэпасці было загадана распрацаваць палкоўніку Ота Фрэйману, імя якога ў той час было шырока вядомым у Расійскай імперыі. Гэта быў кіраўнік Ліфляндскай вайсковай акругі, які ў 1830 годзе адзначыўся пры выратаванні жыхароў Рыгі і Дынамюндэ падчас паводкі, за што атрымаў 3000 дзесяцін зямлі ў Саратаўскай губерні.

Мікалай І запатрабаваў неадкладна прыступіць да ўмацавання найбольш зручнай для гэтага часткі Гродна. Планавалася разбурыць значную частку горада, а шэраг будынкаў выкарыстаць у якасці складоў для захавання вайсковага рыштунку і месцаў размяшчэння гарнізона. У першую чаргу гэта тычылася каталіцкіх кляштараў.

## Смелы праект Кліменкі напалохаў Мікалая І

Гродзенцаў нават паспелі абкласці спецыяльным грашовым падаткам, а на ўскраіне горада паўсталі два каменныя парахавыя скляпы. Для канчатковага зацвярджэння будаўніцтва крэпасці Фрэйман звярнуўся да Івана Паскевіча. Але таго план не задаволіў: «Танней абыдзецца значна больш шырокае ўмацаванне бастыённага тыпу, пры якім зносу будуць падлягаць нешматлікія будынкі, а ўнутраная прастора зробіцца шырэйшай і абарона лепшай».



**Міхаіл Кліменка.** Інжынер, які міжволі выратаваў Гродна.

Для вырашэння спрэчкі паміж уплывовым саноўнікам і інжынерам, які знаходзіўся ў фаворы імператара, звярнуліся да трэцяга боку. Ім аказаўся не хто іншы, як аўтар адхіленага праекта Міхаіл Кліменка, які на той час ужо стаў дырэктарам Інжынернага дэпартамента Вайсковага міністэрства.

### Кліменка супраць

Інжынер разгледзеў абедзве пазіцыі і... прапанаваў Мікалаю І свае два новыя праекты, заявіўшы, што Гродна ўвогуле не трэба ўмацоўваць, а варта зрабіць апорны пункт вышэй або ніжэй па Нёмане.

Мікалай І быў збіты з панталыку такой вялікай колькасцю планаў па Гродзенскай крэпасці і таму, каб канчаткова вызначыць найбольш зручны з іх, загадаў у ліпені 1832 года скласці падрабязную карту горада. Ота Фрэйман быў накіраваны ва Украіну і ў далейшым кіраваў узвядзеннем Кіеўскай крэпасці замест Гродзенскай.

А за рэалізацыю ідэі з яшчэ большай заўзятасцю ўзяўся Іван Паскевіч, які падзяляў меркаванне імператара, што Гродна — надзвычай важны пункт для абароны цэнтра імперыі. Каб зрушыць справу з мёртвага пункта, ён у 1833 годзе запрасіў найбольш шанаванага імператарам вайсковага інжынера — Івана Дэна. Той склаў два праекты, якія абапіраліся на ідэі Міхаіла Кліменкі. Адзін праект павінен быў абысціся дзяржаве ўсяго ў 308 тысяч рублёў і прадугледжваў будаўніцтва часовага ўмацавання. Затое другі меў доўгатэрміновы характар і патрабаваў выдаткаў у памеры рэкордных па тым часе 14 млн рублёў. Па ім Гродна і ваколіцы павінны былі абнесці магутнай агароджай.

Аднак супраць гэтых праектаў зноў выступіў Міхаіл Кліменка, які, магчыма, затаіў крыўду і пазайздросціў канкурэнтам. На той час ён атрымаў чарговае павышэнне і стаў кіраўніком упраўлення інспектарскай часткаю Інжынернага корпуса. Не змякчала яго нават тое, што ў праектах прысутнічалі элементы яго ўласных планаў.

Кліменка ведаў пра стаўленне імператара да асобы Дэна. Таму ў якасці аргументаў ён выкарыстаў тое, што Дэн не працаваў непасрэдна ў Гродне, а ствараў свае праекты пры выкарыстанні недакладнай карты горада, дзе не ўлічваліся перапады вышынь, вялікая колькасць яроў і размяшчэнне пабудоў на крутых схілах.

У выніку імператар вымушаны быў адхіліць і праекты Івана Дэна, які цягам наступных 20 гадоў займаўся будаўніцтвам крэпасцяў у Царстве Польскім, у тым ліку ў Модліне і Варшаве.



**План Гродна 1832–1833 гадоў.**

Чарговы план у 1834 годзе быў даручаны генералу Аляксандру Фельдману. Пры гэтым імператар вусна патлумачыў, што ператварэнне Гродна ў крэпасць больш не разглядаецца. Замест гэтага планавалася ўмацаваць левы бераг Нёмана, за межамі горада.

А вясной 1835-га Мікалай адкінуў і гэты намер ды накіраваў асноўныя намаганні на будаўніцтва крэпасцяў у Брэсце і Новагеоргіеўску (так з 1834 года сталі зваць польскі горад Модлін). І з Берасцем здарылася тое, што раней планавалася для Гродна — поўнае знішчэнне горада.

А да праекта будаўніцтва Гродзенскай крэпасці вярнуліся ўжо толькі напрыканцы 1880-х гадоў. На гэты раз умацаванні ўзводзіліся вакол горада. Рэшткі іх у выглядзе магутных фартоў захаваліся да нашых дзён.




**План Дынабургскай крэпасці**, які Кліменка прапаноўваў ажыццявіць і ў дачыненні да Гродна.

# Паштоўкі старога дома

**Гэта неверагодна: сядзець у старой хаце і чытаць паштоўкі, што прыходзілі сюды больш як 100 гадоў таму, пішуць Юрый Тамковіч і Алеся Сяўніцкая, студэнты гістфака БДУ.**

У пачатку мінулага стагоддзя Гомель быў драўляным горадам. Часцяком драўляныя дамы былі багата аздобленыя, і цяпер такія будынкі з'яўляюцца гістарычнай каштоўнасцю. У ніводным іншым беларускім горадзе нельга знайсці такой колькасці архітэктурнай спадчыны такога тыпу. Праўда, не ўсе разумеюць эстэтычную каштоўнасць гэтых старых дамоў — часам абаронцам спадчыны даводзіцца ратаваць іх ад зносу.

Адна з вуліц, дзе яшчэ застаецца старая драўляная забудова, — Карла Маркса. У дарэвалюцыйны час гэтая вуліца, якая месціцца за 5 хвілін ад цэнтра, насіла назву Жандарскай і разам з суседнімі вулкамі ўваходзіла ў склад раёна Свісток. Адкуль назва раёна, зразумела: тут жыло шмат паліцэйскіх, афіцэраў і чыноўнікаў, адным з галоўных атрыбутаў якіх быў аднайменны прадмет.

На былой Жандарскай вуліцы знаходзіцца ўчастак з жылымі дамамі, якія больш за 100 год належаць адной сям'і. Гэта ўнікальны выпадак для Беларусі.

Яшчэ ў 1907 годзе гэты кавалак зямлі быў выкуплены ганаровым грамадзянінам, банкаўскім служачым Фёдарам Рыгоравічам Малішэўскім і яго жонкай Кацярынай Спірыдонаўнай у сялян Сямёнавых. Малішэўскія выкупілі гэтую зямлю не проста так: тут павінна было паўстаць жытло маладой сям'і — іх дачкі Аляксандры і яе мужа, украінца з Чаркасаў Васіля Лабады, які працаваў рачніком.



Адна з паштовак **Яўгеніі Плахавай**, дасланых сяброўцы ў Гомель.




Той самы дом на Карла Маркса (раней Жандарскай).

ФОТА АЛЕСІ СЯЎНІЦКАЙ

Дом быў пабудаваны і стаіць да гэтай пары, а ў ім у наш час жывуць некалькі сем'яў, нашчадкі той пары. Адна з гэтых сем'яў — Сяўніцкія — захавала шматлікія цікавосткі, звязаныя з дарэвалюцыйным побытам сям'і: асабістыя рэчы, кнігі, фотаальбомы і паштоўкі. Апошнія выклікаюць асаблівую цікавасць. Неверагодна чытаць лісты-паштоўкі, якія прыходзілі ў гэты самы дом больш як сто год таму.

Захаваліся некаторыя паштоўкі, якія адпраўляла Аляксандры з Кіева яе сяброўка ▶

▶ Яўгенія Плахава. Плахавы і Малішэўскія сябравалі сем'ямі, былі суседзямі. Бацька Яўгеніі быў гомельскім натарыусам і трымаў кантору на цэнтральнай Румянцаўскай вуліцы (цяпер Савецкай). Менавіта ён складаў дакумент аб куплі зямлі Малішэўскімі.

Перапіска паміж сяброўкамі была вельмі цёплая. Вось некаторыя прыклады, датаваныя 1908–1909 гадамі.

Милая Шурочка!

Приношу моё, хотя и позднее, но искреннее и сердечное поздравление с днём твоего Рождения, и пожелаю тебе перемены образа жизни, встряхнуться от надокучившей тебе хандры, быть бодрой, весёлой и счастливой и горячо любимой, чего ты вполне заслуживаешь. Только не делай ничего «назло» кому-нибудь, потому что этим ты сделаешь зло только себе. Напиши, как ты решила вопрос о перемене своей жизни и вообще. Поклон всем твоим родным. Целую тебя. Твоя Женя.

P.S. Пишу в лечебнице. Некогда.



Старонкі сямейнага альбома.



**Яўгенія Плахава** ў адзенні сястры міласэрнасці. Чаркасы, ліпень 1915 года.

Дорогая Шурочка!

Поздравляю тебя с днём твоего Рождения и шлю тебе самые горячие, искренние пожелания всего лучшего в твоей жизни. Почему ты снова замолчала? Я думала, что ты ещё напишешь мне, и жду твоего письма. Я теперь очень занята. Ночью дежурю у одного больного в частной больнице, а днём немного сплю, бегаю на лекции занимаюсь, скоро будет зачёт. Вот уже 25 ночей отдежурила я у больного, очень устала, но зато много заработала, получаю по 3 р. за ночь. Надо собрать денег за право учения, а то выкинут с курсов. Целую тебя крепко. Женя.

Воистину Воскресе!

Дорогая Шурочка! Взаимно поздравляю тебя с праздником и желаю тебе всего-всего лучшего. Очень рада за тебя, что ты наконец выбрала себе друга жизни. Искренне желаю вам много-много счастья. Я уверена, что ты со своим добрым сердцем составишь семейное счастье. Дай Бог, чтобы вы вступили в новую жизнь дружно, шли рука об руку, пользуясь доверием и любовью друг друга. Это верный залог счастья. Очень жаль, что, кажется, не смогу быть на твоей свадьбе. Я теперь дежурю у одного больного в частной больнице, да я, кажется, писала тебе об этом, то это дежурство протянется еще с месяц, пока больной поправится, а отказаться от дежурства я не могу: надо заработать. Но всё-таки ты напиши мне, какого числа будет твоя свадьба. Родные мои шлют тебе привет и твоим родным и желают вам всем много счастья. Будь здорова и счастлива. Целую тебя. Привет твоему жениху. Твоя Женя.

У хуткім часе пачалася Першая сусветная вайна і ад тых гадоў захаваўся толькі прысланы Жэняй фотаздымак у форме сястры міласэрнасці з надпісам «В память многолетней дружбы, дорогой Шурочке от Жени. 20 июля 1915 года. Черкассы».

Што далей было з сяброўкай Аляксандры Малішэўскай, невядома. ◆


Насі
Беларусь з сабой
БАРАНІ СВАЁ
Набыць футболкі гэтых ды іншых серый можна ў крамах:
**Мінск**, «Мой модны кут» (ГЦ «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро Якуба Коласа, пр. Незалежнасці, 58)
**Мінск**, Symbal.by (пр-т Машэрава, 18, з 10:00 да 20:00 без выхадных)
**Мінск**, «Рагна» (вул. Сухая, 4)
**Мінск,** Vishivanka.by (ГЦ «Няміга-3», цокальны паверх, 73 павільён)
**Брэст**, «Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
**Гродна**, «Цудоўня» (вул. Кірава, 3)
Або замаўляйце праз **Symbal.by**.